віцце дружалюбных і мірных адносін паміж СССР і Фінляндыяй. Можна падумаць, што ў Злучаных Штатаў Амерыкі лепш абстаяць справы, скажам, з Філіпінамі або з Кубай, якія даўно патрабуюць ад ЗША свабоды і незалежнасці і не могуць іх атрымаць, чым у Совецкага Саюза з Фінляндыяй, якая даўно ўжо атрымала ад Совецкага Саюза і свабоду і дзяржаўную незалежнасць.

На пасланне п. Рузвельта т. Калінін адказаў наступным чынам:

«Лічу ўмесным напомніць Вам, пан прэзідэнт, што дзяржаўная незалежнасць Фінляндскай рэспублікі была прызнана свабодным волевыяўленнем Совецкага Ўрада 31 снежня 1917 года, і што суверэнітэт Фінляндыі забяспечан за ёю мірным дагаворам паміж РСФСР і Фінляндыяй ад 14 кастрычніка 1920 года. Указанымі актамі Совецкага Ўрада вызначаны былі асноўныя прынцыпы ўзаемаадносін паміж Совецкім Саюзам і Фінляндыяй. У адпаведнасці з гэтымі прынцыпамі вядуцца і цяперашнія перагаворы паміж Совецкім Урадам і Ўрадам Фінляндыі. Наперакор тэндэнцыйным версіям, распаўсюджваемым кругамі, відавочна, не зацікаўленымі ў еўрапейскім міры, адзінай мэтай указаных перагавораў з'яўляецца ўмацаванне ўзаемаадносін паміж Совецкім Саюзам і Фінляндыяй і ўмацаванне дружалюбнага супрацоўніцтва абодвух краін у справе забеспячэння безапаснасці Совецкага Саюза і Фінляндыі».

Пасля такога яснага адказу Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР павінна быць зусім зразумела, што, пры наяўнасці добрай волі, Фінляндскі ўрад пойдзе насустрач нашым мінімальным прапановам, якія не толькі не супярэчаць нацыянальным і дзяржаўным інтарэсам Фінляндыі, але ўмацоўваюць яе знешнюю безапаснасць і ствараюць шырокую базу для далейшага шырокага развіцця палітычных і гаспадарчых адносін паміж нашымі краінамі.

Некалькі слоў аб перагаворах з **Турцыяй.**

Аб сутнасці гэтых перагавораў пішуць за граніцай усякую небыліцу. Адны сцвярджаюць, што СССР нібыта патрабаваў перадачы раёнаў Ардагана і Карса. Скажам ад сябе, што гэта—суцэльны вымысел і хлусня. Іншыя сцвярджаюць, што СССР патрабаваў нібыта змянення міжнароднай канвенцыі, заключанай у Монтрэ, і пераважных праў для СССР у пытанні аб пралівах. Гэта—таксама вымысел і хлусня. На самай справе гутарка ішла аб заключэнні двухбаковага пакта ўзаемадапамогі, абмежаванага раёнамі Чорнага мора і праліваў. СССР лічыў, што заключэнне такога пакта не можа пабудзіць яго да дзеянняў, якія маглі-б уцягнуць яго ва ўзброены канфлікт з Германіяй, гэта—па-першае, і што СССР павінен мець гарантыю, што з прычыны пагрозы вайны Турцыя не прапусціць ваенных караблёў нечарнаморскіх дзяржаў праз Басфор і Чорнае мора, гэта—па-другое. Турцыя адхіліла абедзве гэтыя агаворкі СССР і тым зрабіла немагчымым заключэнне пакта.

Совецка-турэцкія перагаворы не прывялі да заключэння пакта, але яны дапамаглі высніць або, па крайняй меры, прашчупаць рад цікавячых нас палітычных пытанняў. У сучаснай міжнароднай абстаноўцы асабліва важна ведаць сапраўдны твар і палітыку дзяржаў, адносіны з якімі маюць сур'ёзнае значэнне. У палітыцы Турцыі нам многа стала цяпер куды ясней, як у рэзультаце маскоўскіх перагавораў, так і ў рэзультаце апошніх знешне-палітычных актаў Турэцкага Ўрада.

Як вядома, урад Турцыі палічыў за лепшае звязаць свой лёс з пэўнай групіроўкай еўрапейскіх дзяржаў, прымаючых удзел у вайне. Ён заключыў пакт узаемадапамогі з Англіяй і Францыяй, якія ўжо два месяцы вядуць вайну супроць Германіі. Тым самым Турцыя канчаткова адкінула асцярожную палітыку нейтралітэта і ўступіла ў арбіту разгортваючайся еўрапейскай вайны. Гэтым вельмі задаволены як у Англіі, так ва Францыі, якія хочуць пабольш нейтральных краін уцягнуць у сваю сферу вайны. Ці не пашкадуе аб гэтым Турцыя—гадаць не будзем. **(Ажыўленне ў зале).** Нам прыходзіцца толькі адзначыць гэтыя новыя моманты ў знешняй палітыцы нашага суседа і ўважліва сачыць за развіццём падзей.

Калі Турцыя да пэўнай ступені цяпер звязала сабе рукі і схілілася да рыскованай для яе падтрымкі адной з ваюючых краін, то, відавочна, Турэцкі ўрад сазнае адказнасць, якую ён гэтым узяў на сябе. Але гэта не тая знешняя палітыка, якой следуе Савецкі Саюз і дзякуючы якой Савецкі Саюз ужо забяспечыў не мала знешне-палітычных поспехаў. Савецкі Саюз лічыць за лепшае і надалей пакінуць сабе рукі свабоднымі, паслядоўна праводзіць сваю палітыку нейтралітэта і не толькі не садзейнічаць распальванню вайны, а садзейнічаць умацаванню наяўных імкненняў да аднаўлення міру. Мы ўпэўнены ў тым, што палітыка міру, якую няўхільна праводзіць СССР, мае і ў далейшым лепшыя перспектывы. Гэтую палітыку мы будзем праводзіць і ў раёне Чорнага мора з упэўненасцю, што поўнасцю забяспечым належнае яе правядзенне, як гэтага патрабуюць інтарэсы Савецкага Саюза і дружаственных яму дзяржаў. **(Апладысменты).**

Цяпер аб адносінах з Японіяй.

За апошні час у савецка-японскіх адносінах ёсць вядомае паляпшэнне. Гэтае паляпшэнне намецілася з часу нядаўняга маскоўскага пагаднення, у рэзультаце якога быў ліквідован вядомы канфлікт на мангола-манчжурскай граніцы.

На працягу раду месяцаў, дакладней гаворачы на працягу мая, чэрвеня, ліпеня, жніўня і да сярэдзіны верасня, у Наманханскім раёне, прымыкаючым да мангола-манчжурскай граніцы адбываліся ваенныя дзеянні з удзелам япона-манчжурскіх і савецка-мангольскіх войск. У баявых дзеяннях за гэты перыяд удзельнічалі ўсе роды зброі, уключаючы авіяцыю і цяжкую артылерыю, а баі часамі прымалі вельмі кровепралітны характар. Нікому не патрэбны канфлікт выклікаў немалыя афяры на нашай старане, але гэтыя афяры былі ў некалькі разоў больш на япона-манчжурскай старане. Нарэшце, Японія звярнулася да нас з прапановай ліквідаваць канфлікт, і мы ахвотна пайшлі насустрач японскаму ўраду.

Як вядома, канфлікт быў выклікан імкненнем Японіі прысвоіць частку тэрыторыі Мангольскай Народнай Рэспублікі і гэтым шляхам насільственна змяніць у сваю карысць мангола-манчжурскую граніцу. Такі аднабаковы метад павінен быў сустрэць рашучы адпор і паказаў яшчэ раз сваю поўную несастаяцельнасць, калі справа датычыць Савецкага Саюза або яго саюзнікаў. Калі на злопалучным прыкладзе Польшчы было нядаўна прадэманстравана, як танна іншы раз каштуюць пакты ўзаемадапамогі, падпісаныя некаторымі вялікімі дзяржавамі Еўропы **(смех)**, то на мангола-манчжурскай граніцы было прадэманстравана зусім іншае. Тут было прадэманстравана значэнне пактаў узаемадапамогі, пад якімі стаіць подпіс Савецкага Саюза. **(Бурныя, доўга незмаўкаючыя апладысменты).**

**Што датычыць указанага канфлікта, то ў рэзультаце савецка-**

японскага пагаднення, заключанага 15 верасня ў Маскве, ён быў ліквідован, і мір быў поўнасцю адноўлен на мангола-манчжурскай граніцы. Тым самым быў зроблен першы крок да паляпшэння савецка-японскіх адносін.

На чарзе стаіць стварэнне змешанай пагранічнай камісіі з прадстаўнікоў совецка-мангольскай і япона-манчжурскай старон. Гэтай камісіі прадстаіць разглядзець некаторыя спрэчныя пагранічныя пытанні. Можна не сумнявацца, што калі добрая воля будзе праяўлена не толькі з нашага боку, то метад дзелавога разгляду пагранічных пытанняў дасць станоўчыя рэзультаты.

Апрача таго, выяснілася магчымасць прыступіць да перагавораў па пытаннях совецка-японскага гандлю. Нельга не прызнаць, што і развіццё совецка-японскага тавараабароту адпавядае інтарэсам абодвух дзяржаў.

Такім чынам, мы маем падставы гаварыць аб намеціўшымся паляпшэнні нашых адносін з Японіяй. Зараз цяжка меркаваць, у якой меры можна разлічваць на быстрае развіццё гэтай тэндэнцыі. Нам яшчэ не ўдалося выясніць, наколькі сур'ёзна падрыхтавана глеба для гэтага ў японскіх кругах. Са свайго боку павінен сказаць, што мы станоўча адносімся да гэтага роду японскіх прапаноў, падыходзячы да іх з пункту погляду асноўнай нашай палітычнай пазіцыі і клопатаў аб інтарэсах міру.

Нарэшце, некалькі слоў аб ваеннай кантрабандзе і аб вывазе зброі з нейтральных краін у ваюючыя краіны.

Гэтымі днямі была апублікавана нота Совецкага Ўрада ў адказ на ноты Англіі ад 6 і 11 верасня. У нашай ноце ізложан пункт погляду СССР на пытанні ваеннай кантрабанды і ўказана, што Совецкі Ўрад не можа прылічыць да ваеннай кантрабанды прадукты харчавання, паліва для мірнага насельніцтва і прадметы адзення, што забараніць увоз прадметаў масавага спажывання—значыць, асудзіць дзяцей, жанчын, старыкоў, хворых на бедствы і галодную смерць. Совецкі Ўрад указвае ў ноце, што такія пытанні не могуць быць прадметам аднабаковага рашэння, як зрабіла гэта Англія, а павінны быць вырашаны з агульнай згоды дзяржаў. Мы разлічваем, што нейтральныя краіны, а таксама грамадская думка Англіі і Францыі прызнаюць правільнасць нашай пазіцыі і прымуць меры к таму, каб вайна паміж арміямі ваюючых краін не была ператворана ў вайну супроць дзяцей, жанчын, старыкоў, хворых. Ва ўсякім выпадку, наша краіна, як краіна нейтральная, не зацікаўленая ў распальванні вайны, прыме ўсе меры да таго, каб зрабіць вайну менш разбуральнай, аслабіць яе і паскорыць яе сканчэнне ў інтарэсах міру.

З пункту погляду такой перспектывы рашэнне амерыканскага ўрада аб адмене забароны (эмбарго) на вываз зброі ў ваюючыя краіны выклікае законныя сумненні. Наўрад ці можа быць сумненне, што гэта рашэнне будзе мець сваім рэзультатам не аслабленне вайны і не набліжэнне канца вайны, а наадварот—узмацненне, абвастрэнне і зацяжку вайны. Вядома, такое рашэнне можа забяспечыць высокія барышы для амерыканскай ваеннай прамысловасці. Але вось пытанне: ці можа гэта акалічнасць служыць апраўданнем адмены эмбарго на вываз зброі з Амерыкі? Ясна, што не можа.

Такая міжнародная абстаноўка ў цяперашні час.

Такія асновы знешняй палітыкі Совецкага Саюза.

**(Бурныя, доўга незмаўкаючыя апладысменты, пераходзячыя ў авацыю. Усе дэпутаты ўстаюць).**

# XXII гадавіна Кастрычніцкай Рэвoлюцыі

*Даклад тав. В. М. МОЛАТАВА на ўрачыстым пасяджэнні Маскоўскага Совета 6 лістапада 1939 г.*

Таварышы! Гадавіна Кастрычніцкай Рэволюцыі заўсёды давала і сёння зноў дае нам магчымасць адзначыць буйныя поспехі Совецкага Саюза за пройдзены перыяд. Нібы пад шчаслівай зоркай нарадзілася Совецкая ўлада, калі мы, совецкія людзі, можам рабіць гэта ў кожную гадавіну Кастрычніцкай Рэволюцыі. Але вы, таварышы, згадзіцеся, што справа, вядома, не ў якойсьці «шчаслівай зорцы» і зусім не ў дапамозе нябёс большэвікам, а ў тым, што з часу Кастрычніцкай Рэволюцыі народы нашай краіны скінулі з сябе ўладу буржуазіі, вызваліліся ад гнятучых пут капіталізма і таму сталі здольны на вялікія справы і на цуды творчасці новага жыцця.

I

## Шляхі капіталізма і Совецкі Саюз.

Кастрычніцкая Рэволюцыя вырвала нашу краіну з капіталістычнага грамадства, і з таго часу ўтварылася два светы: стары—свет капіталізма, які ахватвае ўсе капіталістычныя краіны і падуладныя ім калоніі і поўкалоніі, і новы—свет соцыялізма, народжаны Совецкай уладай у нашай краіне. Падгніўшы і трухнеючы капіталізм глядзіць ужо назад і яўна дажывае свой век. Народжаны Кастрычніцкай Рэволюцыяй новы свет, набіраючы з кожным днём новыя сілы, усё вышэй паднімае сваю галаву.

Капіталізм жывучы, хоць ён знаходзіцца ўжо не ў паласе пад'ёму, а ў перыядзе свайго заняпаду. Капіталізм чапляецца за ўсё, каб прадоўжыць сваё існаванне. Але што ён нясе народам капіталістычных краін і на што ён здольны ў наш час?

Капіталізм, які сабраў і сканцэнтраваў у руках вузкай вярхушкі буржуазнага грамадства велізарныя багацці, не дае і не можа даць правільнага шляху скарыстання гэтых багаццяў у інтарэсах народных мас, у інтарэсах працоўных. Накапленне гэтых багаццяў у руках нямногіх буйнейшых капіталістаў, банкіраў і грашовых каралёў параджае толькі шалёную канкурэнцыю і барацьбу за ўладу ў пануючых класах сучаснага капіталістычнага грамадства як унутры гэтых краін, так і паміж капіталістычнымі дзяржавамі. У вярхушцы такога грамадства, якое жыве пагоняй за новымі і новымі багаццямі і не церпіць на гэтым шляху ніякіх перашкод, могуць існаваць толькі воўчыя правілы жыцця і грамадскай маралі і поўная пагарда да ўсіх і ўсякіх інтарэсаў шырокіх мас працоўнага насельніцтва.

Рабочым, сялянам і шырокім слаям інтэлігенцыі астаецца цягнуць сваю долю поўгалоднага існавання, існавання забітых і падняволеных людзей без пробліску лепшага жыцця пры капіталізме. Наадварот, капіталізм параджае ўсё новыя эканамічныя крызісы, страшэннае беспрацоўе ў гарадах, беспрасветныя галадоўкі ў вёсках, павелічэнне цяжару нацыянальнага і каланіяльнага рабства для многіх соцень мільёнаў людзей і бясконцыя крывавыя войны, без якіх капіталізм не можа існаваць. Нядаўна яшчэ, у годы ад 1929 да 1933, капіталістычныя краіны перажылі найцяжэйшы сусветны эканамічны крызіс з усімі яго бядотамі, беспрацоўем і заняпадам матэрыяльнага жыцця народных мас горада і вёскі. Толькі больш ці менш схлынуў гэты найцяжэйшы крызіс, як з 1937 года пачаўся новы эканамічны крызіс, які захваціў рад буйнейшых капіталістычных дзяржаў, аж да самых багатых з іх, як Злучаныя Штаты Амерыкі, Англія, Францыя.

Ці патрэбны яшчэ довады, што накапленне незлічоных багаццяў вярхушкай капіталістычнага грамадства не дае ніякага прасвету да паляпшэння жыцця народных мас. Ці патрэбны яшчэ довады таго, што ўнутраныя справы ў краінах капіталізма з рук вон дрэнныя, што тут натуральна накапляецца нездаволенне ў эксплаатуемых і прыгнечаных масах і падрыхтоўваюцца немінучыя новыя ўзрывы народнага гневу супроць улады капітала. У рознай форме, але ва ўсіх капіталістычных краінах гэта мае месца.

Чым больш мы даведваемся аб унутраным становішчы і аб унутраных супярэчнасцях у краінах капіталізма, тым нам становіцца ясней, чаму ў апошні час буржуазныя краіны ўсё больш шукаюць выхад са стварыўшагася становішча ў знешніх авантурах, у захватах і аграбленні чужых зямель і калоній, у новых перадзелах свету шляхам вайны. Нават самыя багатыя і, так сказаць, ажырэўшыя ад нахапаных багаццяў краіны не знаходзяць у сваіх унутраных сілах выхаду са стварыўшагася становішча, ды яны і не здольны шукаць выхаду, колькі-небудзь задавальняючага народныя масы. Як відаць, крыніца далейшага пад'ёму ўнутраных сіл сучаснага капіталістычнага грамадства больш ці менш вычарпана і наогул падыходзіць к канцу. У гэтым трэба бачыць карэнную прычыну новых знешніх авантур імперыялістычных дзяржаў. У гэтым заключаецца сапраўдны корань сучасных войн, лік і размах якіх растуць на нашых вачах.

У вышаўшым у мінулым годзе вядомым курсе «Гісторыі ВКП(б)» і ў дакладзе тав. Сталіна на XVIII партыйным з'ездзе была дана яркая карціна другой імперыялістычнай вайны, якая захваціла ў апошнія годы рад краін Еўропы і Азіі. Як вядома, з таго часу гэтая вайна не пайшла на ўбыль, а, наадварот, значна павялічыла свой размах.

Што мы маем к сёнешняму дню?

На Усходзе вось ужо трэці год ідзе вайна паміж Японіяй і Кітаем. Гэта азначае, што ў вайну ўцягнута Японія з насельніцтвам у 72 мільёны, а таксама калоніі Японіі з насельніцтвам у некалькі дзесяткаў мільёнаў чалавек. Гэта азначае таксама ўдзел у гэтай вайне Кітая з насельніцтвам у 450 мільёнаў чалавек. Такім чынам, каля 570 мільёнаў чалавек у той ці іншай меры ўцягнуты ў імперыялістычную вайну ў Азіі. Гэтая вайна ўжо выклікала мільёны чалавечых афяр, разарэнне многіх гарадоў і некалькіх тысяч вёсак Кітая, прычым так і не відаць канца крывавым афярам і велізарным бядотам.

У апошнія месяцы ўспыхнула вялікая вайна і на Захадзе. У гэ-

тай вайне ўдзельнічаюць—з аднаго боку, Англія і Францыя, якія ўсё больш уцягваюць у вайну не толькі сваё ўласнае насельніцтва, але і насельніцтва сваіх дамініёнаў і калоній,—а, з другога боку,— Германія, другая па велічыні дзяржава Еўропы. Гэта азначае, што ў вайну на Захадзе,—калі лічыць, што і калоніі Англіі і Францыі ў той ці іншай меры прыцягнуты да ўдзелу ў вайне,—уцягнута да 750 мільёнаў чалавек.

Атрымліваецца, што на Захадзе і на Усходзе, нават не лічачы калоній, уцягнута ў вайну ўжо каля 700 мільёнаў чалавек, а разам з калоніямі гэта складзе звыш 1.300 мільёнаў чалавек. Такім чынам, больш палавіны насельніцтва зямнога шара, які налічвае 2.120 мільёнаў чалавек, у той ці іншай ступені ўжо ўцягнута ў вайну ў Еўропе і Азіі.

Такое галоўнае, калі можна так выразіцца, «дасягненне», з якім капіталістычны свет прышоў к сённешняму дню.

Не гледзячы на гэта, нельга сказаць, што далейшы размах вайны ўжо прыпынен. Справа абстаіць зусім наадварот. Праўда, выйшла маленькая асечка. Сарваліся сякія-такія планы па расшырэнню вайны, напрыклад, шляхам уцягвання ў вайну і Совецкага Саюза. Мы, совецкія людзі, яшчэ раз своечасова паказалі, што мы жывем не чужым, а сваім розумам. **(Апладысменты. Галасы: «Правільна»).**

Але калі гаварыць аб капіталістычным свеце, то зараз ідзе вельмі напружаная барацьба ваюючых дзяржаў за павелічэнне ліку сваіх саюзнікаў, за прыцягненне на свой бок нейтральных краін. Нельга закрываць вачэй на тое, што ўцягванне ў арбіту вайны нейтралаў праводзіцца вельмі актыўна і ўжо мае пэўныя рэзультаты. Гэтым падрыхтоўваецца далейшае расшырэнне поля, ахвачанага вайной. Вядома, напрыклад, якія сур'ёзныя пытанні парадзіла заключэнне пакта ўзаемадапамогі Англіі і Францыі з Турцыяй. Разгортваецца барацьба за ўцягванне ў арбіту вайны некаторых Балканскіх краін, паасобных краін Скандынавіі, а таксама іншых дзяржаў. Калі еўрапейскай вайне суджана зацягнуцца,—а правячыя кругі Англіі і Францыі робяць усё іменна для гэтай зацяжкі і распальвання вайны, каб скарыстаць яе ў інтарэсах умацавання свайго сусветнага панавання і замацавання за сабой сваіх шматлікіх калоній,—то лік нейтральных краін у Еўропе будзе ўсё памяншацца, а лік уцягнутых у імперыялістычную вайну дзяржаў немінуча будзе ўсё павялічвацца. Вядома таксама, што для некаторых краін нейтралітэт служыць толькі маскай для прыкрыцця падпальвання і расшырэння вайны, ад якой яны спадзяюцца мець высокія барышы за кошт ваюючых народаў, за кошт іх гора, афяр і разарэння.

Такім чынам, пакуль не толькі не відаць канца вайны ў Еўропе і Азіі, але хутчэй, наадварот, страсці вакол гэтай вайны ўсё разгараюцца, паколькі імперыялістычныя кругі, як відаць, канчаткова разуверыліся ў магчымасці паляпшэння сваіх унутраных спраў і будуюць свае разлікі, галоўным чынам, на новых імперыялістычных захватах, на новым перадзеле свету ў карысць найбольш сільных імперыялістычных дзяржаў і на тым, каб разграміць і зняць са шчатоў сваіх канкурэнтаў і ўсякія прэтэнзіі на іх калоніі і каланіяльныя багацці.

Значыцца, у цяперашняй вайне закладзены падставы для новай, і ўжо сусветнай, імперыялістычнай вайны, калі, вядома, рабочы клас згодзіцца цярпець прадаўжэнне такой палітыкі імперыялістычных дзяржаў.

Сёння мы стаім перад небяспекай, што вайна ў Еўропе, разам з вайною ў Азіі,ператворыцца,—калі гэтаму не будзе дан рашучы адпор,—у новую, сусветную, крывавую бойню народаў. Вось з чым прышоў капіталістычны свет к сённешняму дню.

З іншымі вынікамі сустракае XXII гадавіну Кастрычніцкай Рэвалюцыі Совецкі Саюз. Дзякуючы паслядоўнаму правядзенню сваёй мірнай палітыкі, СССР, як і раней, карыстаецца благамі міру, каб рухаць яшчэ больш паспяхова ўперад па шляху пад'ёму ўсе галіны гаспадарчага і культурнага будаўніцтва краіны. У святле новых поспехаў соцыялізма, з якімі Совецкі Саюз прышоў к сённешняму дню, беспрасветны крызіс капіталістычнага грамадства становіцца яшчэ больш відавочным.

Параўнайце становішча спраў у многанацыянальным Совецкім Саюзе з тым, што адбылося ў Польшчы, якая ўчора яшчэ прадстаўляла сабою многанацыянальную буржуазную дзяржаву, пабудаваную на прыгнечанні ўсіх няпольскіх нацыянальнасцей. Створаная польскімі памешчыкамі і капіталістамі дзяржава абанкроцілася разам з усімі яе кіраўнікамі. Буржуазная Польшча развалілася, не гледзячы на абяцаныя ёй «гарантыі» некаторых вялікіх дзяржаў, паказаўшы гэтым не толькі сваю ўласную слабасць, але і сёе-тое яўнае неблагапалучча ў палітыцы пэўных дзяржаў Еўропы. Але, калі многанацыянальная Польская дзяржава, пабудаваная наперакор волі самога польскага народа, на прыгнечанні няпольскіх нацыянальнасцей, паказала, пры першым-жа выпрабаванні, сваю слабасць, нямоцнасць і несастаяцельнасць, то Совецкі Саюз—многанацыянальная дзяржава іншага тыпу,—пабудованы на зусім іншай аснове, а іменна—на аснове роўнапраўя і дружбы ўсіх яго нацыянальнасцей,—паказаў, наадварот, сваю сілу і несакрушымую моцнасць. У СССР забяспечана дружнае жыццё ўсёй сям'і шматлікіх совецкіх народаў і няўхільна мацнее маральна-палітычнае адзінства совецкага, соцыялістычнага грамадства, што з'яўляецца залогам несакрушымай магутнасці нашай дзяржавы, пабудаванай на аснове вялікіх прынцыпаў ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, на аснове роўнапраўя і брацкага саюза нацый, уваходзячых у яе састаў. **(Апладысменты).**

Унутраная моцнасць, ваенная магутнасць і міжнародны аўтарытэт Совецкага Саюза цяпер даюць сябе ведаць усё больш і больш. У рэзультаце гэтага, у сувязі з распадам Польскай дзяржавы і паспяховымі дзеяннямі нашай Чырвонай Арміі, Заходняя Украіна з насельніцтвам у 8 мільёнаў і Заходняя Беларусь амаль у 5 мільёнаў цяпер з'яднаны з Совецкай Украінай і Совецкай Беларуссю. **(Бурныя апладысменты).** Гэта—адзін з самых выдатных поспехаў нашай знешняй палітыкі за апошні час. Гэта к сённешняму дню—адзін з самых слаўных нашых вынікаў, якім можа гардзіцца Совецкі Саюз, верны прынцыпам сваёй міралюбівай знешняй палітыкі і пролетарскага інтэрнацыяналізма. **(Апладысменты).**

Совецкая Беларусь павялічылася па сваёй тэрыторыі і насельніцтву амаль у два разы і зрабілася дзяржавай з 10-мільённым насельніцтвам, чаго не маюць многія еўрапейскія дзяржавы. Ад гэтага часу пакладзен канец расшчапленню беларускага народа. На ўсёй тэрыторыі беларускі народ аб'яднан у адно цэлае, і можна цяпер сказаць, што Беларусь поўнасцю з'яднана. Тое-ж самае трэба сказаць і аб украінскім народзе, які на працягу многіх вякоў быў раскалат на часткі і перажыў доўгі час найцяжэйшага нацыянальнага

гнёту. Цяпер і украінскі народ на ўсёй тэрыторыі аб'яднан у адно цэлае. Увасобіліся ў жыццё заветныя мары лепшых людзей украінскага народа, якія прынеслі справе свайго нацыянальнага вызвалення незлічоныя афяры. Нарэшце, прышоў час сказаць: ад гэтага часу Украіна з'яднана. **(Апладысменты).** Трэба думаць, што Украіна, са сваімі цяперашнімі 39 мільёнамі жыхароў і быстрым ростам насельніцтва, у хуткім часе зможа дагнаць некаторыя вялікія краіны, хоць-бы тую-ж Францыю, з яе 42-мільённым насельніцтвам. Выраслі нашы брацкія рэспублікі—Украіна і Беларусь, а нашы браты з Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі з велізарнай радасцю і верай у сваё будучае ўступілі ў рады совецкіх грамадзян. **(Працяглыя апладысменты).** Вырас, тым самым, і ўвесь Совецкі Саюз, прасунуўшы свае граніцы значна на Захад. Ёсць з чым павіншаваць Совецкі Саюз к XXII гадавіне Кастрычніка! **(Бурныя, доўга не змаўкаючыя апладысменты).**

Мы, зразумела, не павінны забываць, што 9/10 чалавецтва ўсё яшчэ жыве ў рамках капіталістычнага грамадства, пад панаваннем капіталізма. Совецкі Саюз складае менш, чым 1/10 насельніцтва зямнога шара. Але, як бачыце, капіталістычнаму свету прышлося ў апошні час крыху пацясніцца і адступіць **(вясёлае ажыўленне ў зале),** а Совецкі Саюз, з уключэннем у яго Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі, вырас па сваёй тэрыторыі, а таксама па колькасці насельніцтва—прыкладна, на 13 мільёнаў чалавек. На гэтай падставе мы маем права павіншаваць народы Совецкага Саюза з тым, што наша совецкая сям'я са 170 мільёнаў ператварылася ў 183 мільёны совецкіх людзей. **(Бурныя, працяглыя апладысменты).**

Ітак, параўнанне шляхоў развіцця краін капіталізма і Совецкага Саюза гаворыць не ў карысць капіталістычнага свету, а якраз наадварот.

Яшчэ ў пачатку першай імперыялістычнай вайны, аналізуючы цяперашнюю, вышэйшую стадыю капіталізма, Ленін даў геніяльна-глыбокую ацэнку сучаснага капіталістычнага свету. Яшчэ тады Ленін сказаў, што пры ўсіх сваіх дасягненнях у галіне матэрыяльнай культуры і тэхнікі сучасны капіталізм гэта—капіталізм струхнеўшы, паразітычны, гніючы на карню. З таго часу прайшло, прыкладна, чвэрць века, і даны Леніным марксісцкі аналіз капіталізма атрымаў незлічоную колькасць пацвярджэнняў практычнага і навукова-тэарэтычнага характару. З таго часу агаліліся многія зіяючыя трэшчыны і злавонныя гнойнікі ва ўсім арганізме капіталістычнага грамадства, не гаворачы ўжо аб тым, што Кастрычніцкая Соцыялістычная Рэволюцыя практычна паставіла пытанне аб канчатковым зломе ўсёй капіталістычнай сістэмы.

Цяпер усё гаворыць за тое, што ўнутраныя сілы капіталістычнага грамадства настолькі падточаны працэсамі гніення капіталізма, што без вайны, без новых і новых знешніх імперыялістычных авантур капіталізм не можа больш існаваць. Пераважнай масе насельніцтва капіталістычных краін, рабочым, сялянам, шырокім слаям інтэлігенцыі капіталізм ужо не можа забяспечыць колькі-небудзь зноснага і ўстойлівага становішча, не гледзячы на ўсе велізарныя багацці, якія скапіліся ў руках вярхушкі пануючых класаў. Чым больш размеры гэтых багаццяў, тым ярасней імкненні імперыялістаў да сусветнага панавання і тым непрымірымей яны ў адносінах сваіх канкурэнтаў, з якімі гатовы пакончыць любою цаной за кошт свайго народа і

іншых народаў, але толькі не ўступкай па частцы свайго сусветнага панавання.

Таму даўно ўжо забыты ранейшыя прамовы лідэраў буржуазіі аб тым, што першая сусветная імперыялістычная вайна будзе, разам з тым, апошняй вайной. Наадварот, лідэры сучасных капіталістычных дзяржаў, асабліва найбольш магутных з іх, і іх падпявалы з групы Блюма і Этлі шукаюць паляпшэння сваіх спраў і выхаду са сваіх унутраных затрудненняў у новай імперыялістычнай вайне. Злачыннасць сучаснай вайны ляжыць на іх адказнасці, на адказнасці тых, хто зацягвае і распальвае цяперашнюю вайну, на адказнасці тых, хто не перастае займацца злачынным адурачваннем шырокіх мас, што быццам-бы ўсё гэта робіцца ў імя абароны дэмакратыі. Адсюль трэба зрабіць вывад, што ад сучасных заправіл капіталістычнага грамадства і іх «соцыялістычных» прыказчыкаў нельга чакаць добраахвотнага адмаўлення ад вайны, ад яе распальвання і расшырэння, а, наадварот, можна чакаць хутчэй за ўсё—ператварэння цяперашняй вайны ў Еўропе і Азіі ў новую сусветную крывавую бойню народаў дзеля захавання і ўмацавання сусветнага панавання зацікаўленых імперыялістычных дзяржаў.

Усяму гэтаму процістаіць Совецкі Саюз з яго палітыкай міру, з яго гарачым імкненнем забяспечыць хутчэйшае сканчэнне вайны. З гэтага відаць, што міралюбівая знешняя палітыка Совецкага Саюза не толькі адпавядае карэнным інтарэсам народаў нашай краіны і інтарэсам саюзных нам дзяржаў, але і інтарэсам усяго чалавецтва, калі на самай справе мець на ўвазе сапраўды народныя масы іншых дзяржаў, а не пануючыя кучкі заправіл імперыялістычных дзяржаў. Гэта азначае, што ўсямерны рост унутраных сіл Совецкага Саюза і ўмацаванне яго міжнароднага аўтарытэта з'яўляецца не толькі нашым свяшчэнным абавязкам, свяшчэнным абавязкам усіх совецкіх людзей, але і адпавядае глыбокім інтарэсам усіх народаў, прагнучых міру і хутчэйшага скончэння вайны.

Вось чаму вялікія імёны—імя Леніна, бацькі Совецкага Саюза, і імя Сталіна—правадыра народаў СССР **(бурныя, доўга не змаўкаючыя апладысменты, пераходзячыя ў авацыю. Усе ўстаюць)**, вымаўляюцца з такой любоўю і верай у будучае не толькі ў нашай краіне, але і далёка-далёка за межамі Совецкага Саюза. Імёны Леніна і Сталіна нараджаюць светлыя надзеі ва ўсіх кутках свету і грымяць, як заклік да барацьбы за мір і шчасце народаў, да барацьбы за поўнае вызваленне ад капіталізма. **(Працяглыя апладысменты).**

II.

## Рост унутраных сіл Совецкага Саюза.

Ва ўсім цяпер сказваецца рост унутраных сіл Совецкага Саюза,— у нашым гаспадарчым будаўніцтве, у развіцці культуры совецкіх народаў, ва ўзросшай магутнасці абароны краіны, ва ўсёй нашай палітыцы і яе поспехах.

У эканамічнай галіне намі высунута праграма, ажыццяўленне якой азначае, што за кароткія 10—15 год мы зможам дагнаць і перагнаць найбольш развітыя капіталістычныя краіны таксама і ў эканамічных адносінах. Гэтым сказана, што наша краіна, не гледзячы на ўсе поспехі і дасягнуты велізарны пад'ём тэхнічнага ўзроўню прамысловай вытворчасці і транспарту, у эканамічных адносінах яшчэ стаіць

ззаду некаторых капіталістычных дзяржаў. Але гэтым сказана таксама ўсім нам, совецкім людзям, усім рабочым, сялянам і інтэлігенцыі Совецкага Саюза, што яшчэ сільней павінны запаліцца пачуцці совецкага патрыятызма ў нашых сэрцах, каб не толькі вырашыць, але і ўсямерна паскорыць вырашэнне гэтай асноўнай эканамічнай задачы СССР.

Сёння мы можам падвесці некаторыя вынікі развіцця народнай гаспадаркі за апошні год, або, дакладней кажучы, за 10 месяцаў 1939 года.

Адпаведныя даныя, пры параўнанні з мінулым годам, паказваюць, што наша **прамысловасць**, узятая ў цэлым, дае рост на 14,4 процанта, а непасрэдна буйная прамысловасць дае рост на 15 процантаў. Гэта значыць, што тэмп пад'ёму нашай прамысловасці ў гэтым годзе вышэй тэмпу пад'ёму мінулага года, калі прамысловасць дала таксама не малы рост, а іменна—на 12 процантаў. Гэта значыць таксама, што тэмп пад'ёму нашай прамысловасці не толькі ідзе на ўзроўні заданняў трэцяй пяцігодкі, па якой сярэдне-гадовы прырост вызначан у 14 процантаў, але і перавышае гэтае заданне. Вылучаецца сваім ростам прадукцыя машынабудаўнічых і абаронных прадпрыемстваў. Тут павелічэнне дасягае 29 процантаў. Што-ж датычыць непасрэдна абароннай прамысловасці, якая расла ўзмоцненымі тэмпамі і ў мінулыя годы, то тут мы маем у адпаведнасці з узросшымі патрабаваннямі нашай абароны яшчэ большае павелічэнне, а іменна,—скажу ўжо вам па сакрэту,—на ўсе 45 процантаў. **(Ажыўленне ў зале. Апладысменты).**

Можна сказаць, што наша прамысловасць выконвае свае задачы ў асноўным паспяхова. Гэта не знімае, аднак, з нас адказнасці за зусім недапушчальнае адставанне такіх важнейшых галін, як металургія і паліва. Мы-б хацелі, вядома, большага росту і нашай лёгкай прамысловасці, хоць мы добра ведаем, што і цяпер мы ўсё яшчэ павінны аддаць безумоўную перавагу патрэбам умацавання абароны краіны і яе індустрыяльнай магутнасці. Аднак, наша лёгкая, уключаючы тэкстыльную, прамысловасць, мабыць, паспяхова справіцца з выкананнем устаноўленага для яе гадавога плана.

Далей трэба адзначыць нашыя дасягненні ў галіне пад'ёму прадукцыйнасці працы ў буйнай прамысловасці. Правядзенне пэўных мер па ўмацаванню працоўнай дысцыпліны і па набліжэнню кіраўніцтва прамысловасцю да саміх прадпрыемстваў далі ўжо свае станоўчыя рэзультаты. Калі ў мінулым годзе мы мелі павелічэнне прадукцыйнасці працы ў прамысловасці на 11 проц., то ў гэтым годзе ў нас ёсць павелічэнне прадукцыйнасці працы з перавышэннем устаноўленага плана, а іменна—на 17 процантаў. Гэта азначае, што значна павялічаны, супроць мінулага года, аб'ём прамысловай вытворчасці мы здолелі выканаць з тым-жа, і нават з некалькі меншым, саставам рабочых, што пры недахваце рабочых кадраў у нашай краіне мае вельмі станоўчае значэнне.

У галіне **сельскай гаспадаркі** за апошні год быў прынят рад істотных мерапрыемстваў па калгаснаму будаўніцтву. Дастаткова ўказаць на такія рашэнні партыі і ўрада, як пастанова аб мерах аховы грамадскіх зямель калгасаў ад разбазарвання, мерапрыемствы па ўмацаванню працоўнай дысцыпліны ў калгасах і вельмі важныя мерапрыемствы па пад'ёму грамадскай жывёлагадоўлі ў калгасах. Усе гэтыя мерапрыемствы прасякнуты адной асноўнай мыслю: устраніць дробнабуржуазныя скажэнні ў практыцы калгаснага будаўніцтва, у

рэзультаце якіх прыватныя інтарэсы калгаснікаў часта выступаюць уперадзе грамадскіх інтарэсаў калгаснай гаспадаркі.

Рэзультаты гэтых мерапрыемстваў у наяўнасці. Не гледзячы на некаторыя неспрыяючыя кліматычныя ўмовы, мы дабіліся ў гэтым годзе новых істотных поспехаў у сельскай гаспадарцы. Так, збор па зернавых дасягнуў 6,5 мільярда пудоў, што на 11 працантаў перавышае збор мінулага года. Па бавоўне-сырцу мы маем далейшае павелічэнне прадукцыі на 5 працантаў, па ільну—на 16 працантаў, па цукровых бураках—на 26 працантаў, па бульбе-ж гэтае павелічэнне дасягае 60 працантаў супроць мінулага года. Ідзе таксама няўхільны рост, можна сказаць, па ўсіх відах жывёлагадоўлі. Хлебазагатоўкі ў гэтым годзе таксама далі павелічэнне супроць мінулага года.

Скажу яшчэ некалькі слоў аб Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы, тым больш, што ў будучым годзе яна будзе мець сваё прадаўжэнне. Выстаўку наведалі амаль 3,5 мільёна чалавек. Азнаямленне калгаснікаў і наогул насельніцтва з выдатнымі дасягненнямі нашай сельскай гаспадаркі будзе мець вялікае значэнне для далейшага пад'ёму творчай ініцыятывы перадавых калгаснікаў і наогул для пад'ёму калгаснай гаспадаркі. Выстаўка дала магчымасць многім тысячам калгаснікаў азнаёміцца са шматлікімі выдатнымі дасягненнямі калгасаў і калгаснікаў, маючымі нярэдка сусветнае значэнне. Так, звенні тт. Ефрэмава і Чуманава ў Алтайскім краі паслужылі штуршком да цэлага руху ў калгасах за ўраджай у 400—500 пудоў пшаніцы з аднаго гектара. Прычым, выстаўка шырока разнесла па ўсёй краіне не толькі тое, што калгаснік Чуманаў атрымаў ураджай пшаніцы ў 512 пудоў з гектара, а калгасніца Коўбаса—510 пудоў пшаніцы з аднаго гектара, але і такі факт, як дасягненне ў гэтым годзе калгасніцай Сергеевай 607 пудоў пшаніцы з аднаго гектара. Шырока папулярызаваны выстаўкай і такія дасягненні, як ураджайнасць, дасягнутая звяном калгасніцы-азербайджанкі Аліевай, у 151 цэнтнер бавоўны з гектара, або ўраджайнасць, дасягнутая ва Узбекістане звяном калгасніка Худоева, у 125 цэнтнераў бавоўны з гектара. Як бачыце, сусветны амерыканскі рэкорд ураджаю бавоўны ў 60 цэнтнераў з гектара перакрыт у Совецкім Саюзе ў некалькі раз. Шырока па калгасах разнесліся цяпер весткі і аб многіх выдатных дасягненнях калгасаў у галіне жывёлагадоўлі.

На выстаўцы быў праведзен рад мер для таго, каб шырока папулярызаваць лепшыя ўзоры работы ў нашай сельскай гаспадарцы і садзейнічаць гэтым перанясенню вопыту лепшых калгасаў, калгаснікаў і калгасніц у новыя раёны і ў новыя галіны сельскай гаспадаркі. Але трэба прызнаць, што сельскагаспадарчая выстаўка можа зрабіць значна больш, чым яна ўжо зрабіла для развіцця спаборніцтва паміж калгасамі, паміж раёнамі, паміж абласцямі і рэспублікамі і што яна павінна многа зрабіць у далейшым, каб забяспечыць яшчэ больш быстры пад'ём калгаснай і соўгаснай гаспадаркі.

У галіне пад'ёму **культуры** народаў Совецкага Саюза мы зрабілі за апошні год новы буйны крок уперад. Аб гэтым гаворыць рост нашых школ і бібліятэк, няўхільны рост нашага друку, тэатраў, кіно і іншых відаў мастацтва. На нашых вачах ідзе не толькі пад'ём нацыянальных культур, але і збліжэнне гэтых культур паміж сабою. Усё новыя дэкады паказу нацыянальнага мастацтва ў Маскве, якія сведчаць аб вялікіх дасягненнях нашых рэспублік і выклікаюць вялікую цікавасць у нашай сталіцы, наглядна сведчаць аб гэтым. Аб

гэтым-жа сведчаць і такія факты, што да ўсенароднага святкавання юбілеяў такіх вялікіх людзей, як рускі паэт Пушкін і украінскі паэт Шэўчэнка, далучаюцца новыя праслаўленыя імёны нацыянальных паэтаў і легендарных герояў іншых народаў нашай краіны. Таму геніяльныя тварэнні грузінскага паэта Шота Руставелі і армянскага эпаса аб народным герою Давідзе Сасунскім становяцца здабыткам усіх народаў Совецкага Саюза і карыстаюцца велізарнымі сімпатыямі ў асяроддзі ўсіх культурных совецкіх людзей.

Трэба прызнаць, што социялістычная культура зрабіла ўжо ў нашай краіне не малыя поспехі. Глыбока рэволюцыйны характар гэтай новай культуры не азначае адмаўлення культурных дасягненняў мінулага, не азначае адмаўлення ад культурнай спадчыны народаў. Наадварот, усе сапраўдныя дасягненні культуры народаў, як-бы яны далёка не ўходзілі ў мінулае, высока цэняцца ў социялістычнай дзяржаве і ўстаюць цяпер перад сваім народам і перад народамі ўсяго Совецкага Саюза адроджанымі, у сваім сапраўдным ідэйным бляску. Большэвікі не з ліку людзей, якія не помняць радства са сваім народам. Мы, большэвікі, вышлі з самай гушчы народа, цэнім і любім слаўныя справы гісторыі свайго народа, як і ўсіх іншых народаў. Мы добра ведаем, што сапраўдны прагрэс, які магчым толькі на базе социялізма, павінен апірацца на ўсю гісторыю народаў і на ўсе іх дасягненні ў мінулых вяках, павінен раскрыць сапраўдны сэнс гісторыі жыцця народаў, каб поўнасцю забяспечыць слаўнае будучае свайго народа і, разам з тым, светлае будучае ўсіх народаў. **(Бурныя апладысменты).**

Самае важнае ў дасягненнях Совецкага Саюза к сённешняму дню заключаецца ў тым, што ў нас, па ўсёй краіне, ва ўсіх совецкіх народаў выраслі кадры новых, свядомых совецкіх людзей, якія вядуць за сабою мільёны і дзесяткі мільёнаў. Гэтыя людзі па-новаму, не так, як гэта сустракаецца на кожным кроку ў капіталістычным грамадстве, і не так, як гэта было яшчэ нядаўна ў нашай краіне, а сапраўды па-новаму, па-социялістычнаму адносяцца да сваёй працы і да сваіх абавязкаў перад дзяржавай. Гэта не значыць, што ў нашым совецкім асяроддзі няма адсталых людзей. Не, іх яшчэ нямала. Больш таго, нельга не прызнаць, што грамадска-культурны ўзровень шырокіх слаёў яшчэ падняўся зусім недастаткова, калі меркаваць з пункту погляду перспектыў комунізма. Але нашы людзі, людзі совецкай краіны, прайшлі ўжо 22 годы Кастрычніцкай Социялістычнай Рэволюцыі, у іх ужо, у пэўнай меры, выраслі новыя ўяўленні аб адносінах паміж людзьмі і новыя погляды на абавязкі перад народам і социялістычнай дзяржавай, якія ў корані адрозніваюцца ад уяўлення людзей, прасякнутых буржуазнымі забабонамі капіталістычнага грамадства. Іменна гэтыя вось новыя людзі і задаюць тон у нашай краіне, аж да заводаў, фабрык і калгасаў.

Вы ведаеце, што лепшымі прадстаўнікамі гэтых новых людзей у рабочым класе з'яўляюцца стаханаўцы і стаханаўкі, якія сапраўды ламаюць старыя, нізкія нормы прадукцыйнасці працы і даюць выдатныя ўзоры высока-прадукцыйнай социялістычнай працы. Колькасць такіх стаханаўцаў расце, што, у сваю чаргу, з'яўляецца добрым паказчыкам павышэння культурна-тэхнічнага ўзроўню рабочага класа. Іх рады зараз папаўняюць ініцыятары многастаночнай работы, якія перайшлі з работы на адным станку да работы на некалькіх станках, не толькі не панізіўшы, а нават павысіўшы прадукцыйнасць кожнага станка паасобку. Да іх ліку трэба аднесці

і ініцыятараў правядзення сумяшчэння прафесій, а таксама вылучыўшыхся з асяроддзя совецкіх жанчын ініцыятараў у справе асваення некаторых новых для жанчын прафесій і вытворчасцей. Шырока распаўсюджаная ў нашай прамысловасці новая тэхніка і наяўнасць ўзросшага вытворчага вопыту і ведаў у шырокім асяроддзі рабочых і работніц дазваляюць спадзявацца, што гэтыя новыя формы стаханаўскага руху будуць паспяхова развівацца і далей. Гэта рушыць уперад прадукцыйнасць працы, аслабіць недахват у кваліфікаваных вытворчых кадрах і, разам з тым, будзе садзейнічаць далейшаму пад'ёму культурна-тэхнічнага ўзроўню рабочага класа і зближэнню яго з узроўнем работнікаў інжынерна-тэхнічнай працы. Стаханаўскі рух, ва ўсіх формах яго росту, з'яўляецца паказчыкам таго, што новыя, выхаваныя Совецкай уладай людзі, набылі вялікую вагу ў Совецкім Саюзе і ёсць шырокае і ўсё растучае імкненне ў масах раўняцца па гэтых перадавых людзях нашай краіны.

У нас расце стаханаўскі рух, і новыя соцыялістычна-свядомыя адносіны да працы захватваюць усё больш шырокія масы рабочага класа і калгаснай вёскі, робячы асаблівыя поспехі там, дзе ёсць дастойныя кіраўнікі справы.

У нас усё больш моцнымі становяцца сярод моладзі, і нават проста сярод дзяцей, новыя адносіны да вучобы, прасякнутыя шчырым імкненнем да ведаў і, разам з тым, глыбокім імкненнем стаць сапраўды карыснымі грамадзянамі сваёй дзяржавы, свайго народа. Кожны сапраўдны кіраўнік, настаўнік, выхавацель ведае аб гэтым і знаходзіць у гэтым найвялікшае задавальненне.

У нас вяліка цяга да культуры, да мастацтва і да розных форм грамадскага жыцця ў самых шырокіх масах працоўных горада і вёскі. Нам-бы толькі навучыцца шырэй і лепш задавальняць гэтыя растучыя запатрабаванні і цягу народных мас да культуры і да новага, светлага жыцця.

У нас закладзены надзейныя асновы совецкага патрыятызма, якім славіцца наша Чырвоная Армія і пачуццямі якога так шырока ахвачаны народы Совецкага Саюза. Гэты совецкі патрыятызм узяў сваё ля берагоў Хасана і на мангола-манчжурскай граніцы. Духам высокага совецкага патрыятызма прасякнут быў паход нашай Чырвонай Арміі ў Заходнюю Украіну і Заходнюю Беларусь, калі наша чырвоная пяхота рабіла пераходы па 60—70 кілометраў у суткі. Мы ведаем высокія якасці совецкага патрыятызма, мы ведаем, што, калі нашы байцы самааддана, як героі, кідаліся ў бой на ворага з воклічамі: «за радзіму!», «за Сталіна!», то ўсе мы, выхаваныя партыяй Леніна—Сталіна, і народы ўсяго Совецкага Саюза бачылі ў гэтым, што для совецкіх патрыётаў радзіма і комунізм з'яднаны ў адно непадзельнае цэлае. **(Шумныя апладысменты).**

Усё гэта і азначае, што Совецкі Саюз—гэта не толькі магутная перадавая індустрыя, з яе быстрым і няўхільным большэвіцкім уздымам, і не толькі створаныя совецкай уладай калгасы, прадстаўляючыя вышэйшую форму арганізацыі сялянскай гаспадаркі,—але гэта, перш і раней за ўсё мільёны і дзесяткі мільёнаў совецкіх людзей, новых людзей на зямным шары, прасякнутых соцыялістычна-свядомымі адносінамі да працы і вучобы, натхняемых совецкім патрыятызмам на слаўныя справы для свайго народа і для агульнай справы народаў усяго свету. **(Апладысменты).** Для комуністычнага выхавання совецкіх людзей зроблена ўжо нямала. Але гэта толькі пачатак работы. Мы і цяпер адной з галоўных задач нашай унутра-

най палітыкі павінны прызнаць задачу комуністычнага выхавання рабочых, сялян, служачых і ўсёй нашай інтэлігенцыі. Дапамагаючы ва ўсім перадавым людзям нашай краіны і высока ўзносячы імёны самаадданых герояў соцыялізма, мы павінны асабліва клапаціцца аб адсталых і адстаючых —аб тых, хто асабліва адчувае патрэбу ў большэвіцкім кіраўніцтве. Разам з тым, мы павінны ва многім узмацніць нашы клопаты па вырошчванню кадраў сваёй, совецкай інтэлігенцыі, нікому не ўступаючай па свайму культурнаму ўзроўню і да канца адданай народу і соцыялістычнай дзяржаве. **(Апладысменты).** Няма чаго ўжо і гаварыць аб тым, што забываць у галіне ўнутранай палітыкі аб ворагах народа або даваць ім якое-небудзь паслабленне— значыць, учыняць злачынства супроць свайго народа, супроць сваёй радзімы.

На чарзе новыя выбары ў советы працоўных. Аб размаху гэтай выбарчай кампаніі сведчыць той факт, што па ўсяму Совецкаму Саюзу ў сельскія, раённыя, гарадскія і абласныя советы павінна быць выбрана 1 мільён 300 тысяч дэпутатаў. Колькасць гэтых дэпутатаў перавышае, як бачыце, колькасць жыхароў некаторых малых еўрапейскіх дзяржаў. **(Смех).** На гэтых выбарах мы павінны яшчэ больш замацаваць блок комуністаў і беспартыйных. Мы не толькі не будзем шкадаваць, але будзем вітаць, калі выбары правядуць чыстку совецкага апарата ад нягодных і бюракратычна-сапсаваўшыхся элементаў. На тое і новыя выбары, каб правесці добрую работу па ачыстцы нашых органаў ад усякай бюракратычнай плесені. Для гэтага, між іншым, і патрэбна ўсяляк умацаваць блок комуністаў і беспартыйных.

Разам з тым, у нас ёсць поўная ўпэўненасць у тым, што новыя выбары ў советы працоўных будуць новай магутнай дэманстрацыяй несакрушымага маральна-палітычнага адзінства совецкага грамадства, згуртаванага вакол нашай партыі і ўрада. **(Апладысменты).** На гэтых выбарах павінны заняць галоўнае месца пытанні штодзеннага жыцця працоўных і паляпшэння работы мясцовых советаў. Гэта, вядома, правільна. Але правільна таксама і тое, што гэтыя выбары ва многім дапамогуць падняць усю нашу палітычную работу і зрабіць яшчэ больш зразумелай шырокім масам не толькі ўнутраную, але і знешнюю палітыку Совецкага Саюза.

* * *

Мне няма патрэбы асобна спыняцца сёння на знешняй палітыцы Совецкага ўрада. Усё асноўнае сказана нядаўна ў Вярхоўным Совеце і вам добра вядома. Але ўсё-ж карысна напомніць аб некаторых падзеях і аб атрыманых намі ўроках, у сувязі з меўшайся ў нашым асяроддзі недаацэнкай небяспек, звязаных з існаваннем Совецкага Саюза ва ўмовах знешняга капіталістычнага акружэння.

Разбітыя цяпер ворагі народа, з ліку ўсіх гэтых трацкісцка-бухарынскіх агентаў замежных разведак, як вядома, рабілі з факта капіталістычнага акружэння свае здрадніцкія вывады. Яны ішлі на распродаж Совецкага Саюза, на аддзяленне ў карысць капіталістычных дзяржаў і Прымор'я, і Украіны, і Закаўказзя, роўна як Сярэдняй Азіі і Беларусі. Гэтым злачынствам супроць народаў Совецкага Саюза не суджана было адбыцца, таму што народы Совецкага Саюза моцна вераць у сваю справу, таму што жыва наша большэвіцкая партыя, таму што наш карабль вядзе таварыш Сталін. **(Бурныя ап-**

**ладысменты, пераходзячыя ў авацыю. Усе ўстаюць).** Не гледзячы на ўсе прошукі ворагаў, унутраных і знешніх, іх злачынныя планы праваліліся і пакрылі ганьбай іх галовы. Совецкі Саюз астаўся непахісным, яшчэ больш узмацнеў і, як вы бачыце, шагнуў уперад, расшырыў совецкую тэрыторыю, а наша краіна стала яшчэ больш грознай для ворагаў, яшчэ больш роднай для совецкіх народаў і ўсіх іх шчырых прыяцеляў ва ўсім свеце. **(Працяглыя апладысменты).**

Мы па праву гардзімся поспехамі нашай унутранай палітыкі, але мы з задавальненнем гаворым і аб буйных поспехах нашай знешняй палітыкі.

Капіталістычны свет пачынае ўсё больш даведвацца, што СССР— не тое, чым ім хацелася-б яго бачыць. Ім хацелася-б бачыць нашу краіну слабай, падатлівай на націскі са зне, а на справе атрымліваецца наадварот **(апладысменты),** бо Совецкі Саюз быў і астаецца моцна згуртаваным, магутным і несакрушымым. **(Апладысменты).** І гэта таму, што мы ўсе гэтыя годы нястомна клапаціліся аб безапаснасці нашай дзяржавы, аб моцнасці нашай абароны. Гэта каштавала не малых матэрыяльных афяр, але затое мы забяспечылі мір народам Совецкага Саюза. **(Бурныя апладысменты).**

Мы не можам ведаць, з якімі знешнімі выпрабаваннямі нам яшчэ прыдзецца сустрэцца. Але адно мы добра ведаем: трэба не аслабляць, а яшчэ больш і яшчэ настойлівей мацаваць магутнасць абароны нашай дзяржавы. **(Апладысменты).**

Большэвіцкая палітыка забяспечыла Совецкаму Саюзу велізарны рост унутраных сіл, і цяпер нашай краіне не страшны больш ніякія знешнія выпрабаванні. **(Апладысменты).** Магутная крыніца ўнутраных сіл Совецкага Саюза невычарпальна, і з кожным годам нашым ворагам усё больш сур'ёзна прыходзіцца лічыцца з гэтым бясспрэчным гістарычным фактам. **(Апладысменты).** І ўсё-ж мы ведаем, што лепшай знешняй палітыкай Совецкага Саюза з'яўляецца наша выпрабаваная палітыка міру, якая забяспечыла ўжо нам не малыя поспехі.

Гэтую ўнутраную і знешнюю палітыку мы павінны праводзіць няўхільным чынам і далей. У гэтым мы бачым волю народаў Совецкага Саюза, натхняемых вялікай партыяй Леніна—Сталіна.

Мы ўступаем у дваццаць трэці год Кастрычніцкай Соцыялістычнай Рэволюцыі. Мы пойдзем уперад той-жа вернай, выпрабаванай ленінскай дарогай, як ішлі ўсе гэтыя годы. Гэта той шлях, які вядзе нас да канчатковай перамогі Совецкай улады.

Няхай жыве наша Кастрычніцкая Соцыялістычная Рэволюцыя! **(Бурныя апладысменты).**

Няхай жыве рабочы клас, калгаснае сялянства, соцыялістычная інтэлігенцыя Совецкага Саюза! **(Апладысменты).**

Няхай жыве наша магутная абарона і яе несакрушымая сіла— наша Чырвоная Армія, наш Ваенна-Марскі Флот! **(Апладысменты).**

Няхай жыве вялікі непераможны сцяг Маркса—Энгельса— Леніна—Сталіна! **(Бурныя апладысменты, пераходзячыя ў авацыю. Усе ўстаюць).**

Няхай жыве ленінізм! **(Апладысменты).**

Няхай жыве партыя большэвікоў і няхай жыве многія годы наш Сталін! **(Бурныя, працяглыя апладысменты, пераходзячыя ў авацыю. Усе ўстаюць. Аркестр выконвае «Інтэрнацыянал». У зале раздаюцца воклічы ў чэсць таварыша Сталіна).**

---

# Вялікае свята совецкага народа

Вялікая Кастрычніцкая социялістычная рэволюцыя 1917 года паклала пачатак новай эры ў развіцці чалавецтва. У баях пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна рабочы клас у саюзе з сялянскай беднатой, пры падтрымцы салдат і матросаў звергнуў уладу эксплаататараў—капіталістаў і памешчыкаў—і ўстанавіў сапраўды народную, Совецкую ўладу.

Дзень 25 кастрычніка (7 лістапада) 1917 года ўвайшоў у гісторыю чалавецтва, як вялікае свята. У гэты дзень, авеяны бяссмертнай, нямеркнучай славай, на ўвесь свет прагучэлі гістарычныя словы правадыра рэволюцыі В. І. Леніна:

> «Таварышы! Рабочая і сялянская рэволюцыя, аб неабходнасці якой увесь час гаварылі большэвікі, звяршылася...
>
> Ад гэтага часу наступае новая паласа ў гісторыі Расіі, і даная трэцяя руская рэволюцыя павінна ў сваім канчатковым выніку прывесці да перамогі социялізма» *).

Гэтыя прарочыя словы найвялікшага генія чалавецтва ажыццявіліся. Пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна социялізм—першая фаза комунізма—ужо ў асноўным пабудован у нашай краіне. СССР уступіў ужо ў новую паласу развіцця, у паласу завяршэння будаўніцтва бяскласавага социялістычнага грамадства і паступовага пераходу да комунізма.

Кожная гадавіна Кастрычніцкай социялістычнай рэволюцыі—новая веха на шляху перамог вышэйшага грамадскага ладу, што прышоў на змену спрадвечнаму прыгнечанню і эксплаатацыі чалавека чалавекам.

Цяперашняя, XXII гадавіна асабліва знамянальна.

У гэтым годзе адбыўся XVIII гістарычны з'езд партыі, на якім вялікі Сталін зрабіў даклад аб рабоце ЦК ВКП(б). Сталінскі даклад з'яўляецца знамянальным дакументам нашай эпохі, узорам марксісцка-ленінскага шляху, пройдзенага партыяй і совецкім народам за мінулае пяцігоддзе. Сталінскі даклад—велізарнейшае тэарэтычнае даследаванне, аснаванае на багацейшым вопыце будаўніцтва социялізма ў СССР. Класічна прымяняючы матэрыялістычную дыялектыку, таварыш Сталін даў найглыбейшы аналіз міжнароднага і ўнутранага становішча СССР, асвятліў пытанні ўнутранага жыцця, унёс яснасць у адно з буйнейшых і прынцыповых пытанняў марксізма-ленінізма—у пытанне аб дзяржаве, асвятліў ролю інтэлігенцыі пры социялізме, з гранічнай яснасцю абрысаваў задачы новага гістарычнага этапа комуністычнай рэволюцыі—этапа паступовага пераходу ад социялізма да комунізма.



[1] Ленін, т. XXII, стар. 4.

У гэтым годзе партыйныя і непартыйныя большэвікі, увесь совецкі народ нястомна працавалі над аўладаннем рэволюцыйнай тэорыяй Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна. Выпушчаны ў мінулым годзе «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» стаў самай папулярнай кнігай у нашай краіне. Гэту энцыклапедыю большэвізма глыбока і ўдумчыва вывучаюць усе народы нашай соцыялістычнай радзімы.

У гэтым годзе майскі Пленум ЦК ВКП(б) прыняў гістарычныя рашэнні, накіраваныя на далейшае ўмацаванне калгаснага ладу. Чацвертая сесія Вярхоўнага Совета СССР зацвердзіла закон аб усеагульным воінскім абавязку.

У гэтым-жа годзе доблесная Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія вызваліла нашых адзінакроўных братоў—заходніх украінцаў і беларусаў—ад гнёту польскіх паноў, а **Ўнечарговая Пятая Сесія Вярхоўнага Совета прыняла Заходнюю Украіну і Заходнюю Беларусь у састаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.**

У 1939 годзе Совецкі Саюз даў новае сведчанне нерушымасці сваіх дагавораў, аказаўшы рэальную дапамогу Мангольскай Народнай Рэспубліцы ў абароне яе дзяржаўнай незалежнасці.

К XXII гадавіне Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі наш народ прышоў з новымі поспехамі ў мірнай палітыцы Совецкага Саюза, геніяльнай сталінскай палітыкай міру і дружбы паміж народамі.

На XVIII з'ездзе ВКП(б) таварыш Сталін ясна вызначыў задачы партыі ў галіне знешняй палітыкі:

> «1. Праводзіць і надалей палітыку міру і ўмацавання дзелавых сувязей з усімі краінамі;
>
> 2. Захоўваць асцярожнасць і не даваць уцягнуць у канфлікты нашу краіну правакатарам вайны, якія прывыклі заграбаць жар чужымі рукамі;
>
> 3. Усямерна ўмацоўваць баявую магутнасць нашай Чырвонай Арміі і Ваенна-Марского Чырвонага Флота;
>
> 4. Мацаваць міжнародныя сувязі дружбы з працоўнымі ўсіх краін, зацікаўленымі ў міры і дружбе паміж народамі».

У сваёй знешняй палітыцы Совецкі ўрад перш за ўсё зыходзіць з інтарэсаў народаў СССР, а іх інтарэсы, як вядома, супадаюць з карэннымі інтарэсамі працоўных усіх краін.

Ва ўмовах цяжкага крызісу капіталістычнай сістэмы, ва ўмовах імперыялістычнай вайны ў Еўропе, ва ўмовах росту жорсткай контррэволюцыйнай рэакцыі ў краінах хвалёнай буржуазнай «дэмакратыі» СССР сустрэў XXII гадавіну Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі роквітам сваёй магутнасці і міжнароднага ўплыву.

Працоўныя масы капіталістычных краін сустрэлі гэтую знамянальную гадавіну ў абстаноўцы зацеянай капіталістычнымі ўрадамі другой імперыялістычнай вайны. Ужо звыш двух год японскія імперыялісты рвуць цела кітайскага народа, які абараняе сваю незалежнасць. Полымя другой імперыялістычнай вайны палыхае ў самым цэнтры Еўропы. Правячыя класы Англіі, Францыі і інш. вядуць вайну за сусветнае панаванне. У інтарэсах нажывы кучкі эксплаататараў мільёны людзей кінуты на фронт для бязлітаснага знішчэння. Увесь цяжар імперыялістычнай вайны кладзецца на плечы працоўных капіталістычных краін. Гнёт і эксплаатацыя рабочага класа і працоўнага сялянства з кожным днём узмацняецца.

Сярод хаоса невырашымых супярэчнасцей, у якіх б'ецца капіталі-

стычны свет, Саюз Савецкіх Соцыялістычных рэспублік узвышаецца гранітнай скалой, яркім маяком для ўсяго працоўнага чалавецтва.

Падпальшчыкі і правакатары вайны, ахвотнікі заграбаць жар чужымі рукамі ўсімі сродкамі імкнуцца ўцягнуць у вайну і Совецкі Саюз. Але, дзякуючы празарлівасці і мудрай знешняй палітыцы, указанай таварышом Сталіным, правакацыйныя планы сапраўдных падпальшчыкаў вайны былі своечасова раскрыты і сарваны.

Усёй сваёй знешняй палітыкай Совецкі Саюз нязменна імкнецца забяспечыць справу міру ва ўсім свеце, усямерна ўмацоўваць дружаственныя і дзелавыя сувязі з усімі дзяржавамі, якія раздзяляюць гэту пазіцыю.

Кіруючыся інтарэсамі совецкага народа, яго цвёрдым імкненнем да міру, наш урад 23 жніўня бягучага года заключыў совецка-германскі дагавор аб ненападзе. Гэты дагавор з'явіўся паваротным пунктам у гісторыі Еўропы, ды і не адной толькі Еўропы. За якія-небудзь два месяцы з часу заключэння дагавора адбыліся падзеі сусветна-гістарычнага значэння. На змену варожасці паміж СССР і Германіяй прышла трывалая дружба.

> «Цяпер нашы адносіны з германскай дзяржавай пабудаваны на базе дружаственных адносін, на гатоўнасці падтрымліваць імкненні Германіі да міру, і разам з тым на жаданні ўсямерна садзейнічаць развіццю совецка-германскіх гаспадарчых адносін да ўзаемнай выгады абодвух дзяржаў» **(Молатаў).**

Сваім выступленнем у карысць спынення вайны, сваім дагаворам аб дружбе і граніцы з Германіяй Совецкі Саюз унёс новы ўклад у справу міру. Заключэнне дагавора, мерапрыемствы па ўмацаванню эканамічных адносін паміж абодвума краінамі паказваюць, што два мацнейшыя ў Еўропе народы—совецкі і германскі—шчыра не хочуць вайны, што яны будуць жыць у згодзе і дружбе. Гэты факт мае велізарнае значэнне для ўмацавання міру не толькі ў Еўропе, але і ва ўсім свеце.

СССР за апошні час заключыў з прыбалтыйскімі суседзямі—Эстоніяй, Латвіяй і Літвой—пакты аб узаемадапамозе, якія цалкам адпавядаюць інтарэсам нашай радзімы, нашага народа і гарантуюць незалежнасць і самастойнасць малых прыбалтыйскіх краін.

СССР нясе на сваім сцягу мір. Справа міру перамагла на землях, што былі запалонены польскімі панамі, яна будзе абаронена ад усякіх замахаў і ў Прыбалтыцы. Абараняючы ўласную безапаснасць, СССР адначасова гарантуе безапаснасць і незалежнасць дружаственных дзяржаў. На граніцы МНР Совецкі Саюз паказаў перад усім светам, што значыць наша гарантыя, што значыць подпіс СССР пад пактам аб узаемадапамозе.

Благародная палітыка Совецкага ўрада знаходзіць адабрэнне ва ўсім працоўным чалавецтве. Перадачай горада Вільна і Віленскай вобласці Літоўскай рэспубліцы СССР прадэманстраваў перад усім светам павагу да нацыянальных інтарэсаў малых народаў, сілу і мудрасць сталінскай нацыянальнай палітыкі. Увесь свет—не толькі прыяцелі, але і ворагі нашы—прымушаны прызнаць, што ў гісторыі яшчэ не было выпадку, каб вялікая і моцная дзяржава аддала малому і слабому народу горад і вобласць з поўмільённым насельніцтвам. Толькі мудры совецкі ўрад мог палічыцца з нацыянальнымі інтарэсамі літоўскага народа і вярнуць яму сталіцу, разбойніцкі захопленую польскімі налётчыкамі.

Гэты год увойдзе ў гісторыю, як год вызвалення працоўных За-

ходняй Украіны і Заходняй Беларусі ад ярма польскіх памешчыкаў і капіталістаў. Польская дзяржава, аснаваная на гвалце і прыгнечанні нацый, паказала сваю нежыццездольнасць і пры першай-жа ваеннай сутычцы разляцелася, як стары, струхнелы воз, а яе ўрад і вярхоўнае камандаванне арміі, кінуўшы народ на волю лёсу, ганебна збеглі за граніцу.

17 верасня, па распараджэнню савецкага ўрада, войскі украінскага і беларускага фронтаў перайшлі граніцу, каб узяць пад сваю абарону жыццё і маемасць нашых адзінакроўных братоў—украінцаў і беларусаў. Наша доблесная Чырвоная Армія з поспехам выканала заданне партыі і ўрада і назаўсёды вызваліла народы Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны ад голаду, галечы і жабрацтва.

Пашырыліся граніцы соцыялістычнай бацькаўшчыны працоўных усяго свету. Тэрыторыя, што перайшла да СССР, складае 196 тысяч квадратных кілометраў і роўна тэрыторыі вялікай еўрапейскай дзяржавы. У дружную многанацыянальную сям'ю народаў СССР звернута 13 мільёнаў адзінакроўных братоў. Яны сталі роўнапраўнымі совецкімі грамадзянамі і разам з працоўнымі краіны соцыялізма ўпершыню свабодна святкавалі XXII гадавіну Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі.

Шчаслівыя, творчыя дні насталі для народаў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. У гарадах і сёлах пачаўся пераход да бясплатнага навучання, адкрыты вячэрнія школы для моладзі, расшырана больнічная сетка, ліквідуецца беспрацоўе. Тысячы беспрацоўных ужо выехалі ў СССР і працуюць на соцыялістычных прадпрыемствах. Вучоныя, якім прыходзілася гандляваць на вуліцах газетамі, атрымалі работу па спецыяльнасці.

Нашы вызваленыя браты перажываюць незабыўныя гістарычныя дні. Людзі адчуваюць сябе, як у вялікае свята, бо ад гэтага часу з'яўляюцца роўнапраўнымі грамадзянамі соцыялістычнай дзяржавы. Ажыццявілася мара аб шчаслівым жыцці пад яркім сонцам Сталінскай Канстытуцыі. Трынаццаць мільёнаў былых рабоў сталі вольнымі людзьмі, барацьбітамі за сваё шчасце, за свабоду, за магутнасць сваёй соцыялістычнай радзімы.

* * *

Дваццаць другую гадавіну Кастрычніка совецкі народ адзначыў з пачуццем законнай гордасці і вялікай радасці. Ён жыве ў краіне, якая стала непрыступнай крэпасцю соцыялізма, бацькаўшчынай міжнароднага пролетарыята, аплотам усіх прыгнечаных, светачам культуры і цывілізацыі, надзеяй усяго перадавога і прагрэсіўнага чалавецтва.

СССР—крэпасць міжнароднага комунізма.

Сіла гэтай крэпасці—у яе найвялікшых заваёвах, якія дасягнуты за 22 годы і адлюстраваны ў Сталінскай Канстытуцыі перамогшага соцыялізма.

Дваццаць другая гадавіна Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі адзначана новымі перамогамі ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва. Доблесная праца совецкага народа, натхняемага партыяй Леніна—Сталіна, прынесла цудоўныя плады.

За апошнія годы завершана рэканструкцыя прамысловасці і земляробства на аснове новай, сучаснай тэхнікі. Соцыялістычная сістэма гаспадаркі дала нам магчымасць дагнаць і перагнаць галоўныя капіталістычныя краіны па тэхніцы вытворчасці і па тэмпах росту прамысловасці.

У той час, як капіталістычны свет, не паспеўшы аправіцца ад удараў эканамічнага крызісу, апынуўся перад тварам новага крызісу, магутнасць Савецкага Саюза няўхільна расце. За 1938 год прамысловая вытворчасць у капіталістычных краінах скарацілася на 10 проц., а ў параўнанні з 1929 г. знізілася на 7,3 проц. Прадукцыя-ж нашай прамысловасці з года ў год расце і ў 1938 годзе дасягнула 477 процантаў супроць 1929 года.

У выніку ажыццяўлення сталінскага плана індустрыялізацыі соцыялістычная сістэма вытворчасці стала непадзельна пануючай ва ўсёй народнай гаспадарцы Савецкага Саюза. Калі ўдзельная вага соцыялістычнай гаспадаркі ў народным даходзе складала ў 1929 годзе 56 проц., у 1933—94,6 проц., то ў мінулым годзе (папярэднія даныя)—99,3 проц. Удзельная вага соцыялістычнай гаспадаркі ў валавой прадукцыі ўсёй прамысловасці складала ў 1929 годзе 89,5 проц., у 1933 г.— 99,55 проц., а ў мінулым годзе (папярэднія даныя)—99,9 проц.

У валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі (уключаючы падсобную гаспадарку калгаснікаў) удзельная вага соцыялістычнай гаспадаркі складала ў 1929 годзе толькі 6,7 проц., у 1933 г. паднялася да 80,8 проц., а ў мінулым годзе (папярэднія даныя) дасягнула 98,8 проц.

Прадукцыя буйнай прамысловасці нашай краіны ў параўнанні з 1913 годам вырасла на 800 проц., у той час як у ЗША яна павялічылася толькі на 22 проц., у Англіі—на 13 проц., а ва Францыі нават паменшылася.

За годы сталінскіх пяцігодак у нас створаны зусім новыя галіны прамысловасці, якіх не ведала царская Расія (будаўніцтва самалётаў, трактараў, аўтамабіляў, станкоў). Соцыялістычная прамысловасць дае нашай краіне абсалютна ўсё, што ёй неабходна для росту народнай гаспадаркі і ўмацавання абароназдольнасці.

За гэтыя годы створаны новыя высокакваліфікаваныя кадры інжынерна-тэхнічнай інтэлігенцыі, якая вышла з рабочых, сялян, служачых і прадстаўляе велізарную культурную сілу ў будаўніцтве комунізма.

Другая пяцігодка дала нам стаханаўскі рух, які ў барацьбе за ўмацаванне працоўнай дысцыпліны і далейшы ўздым прадукцыйнасці нясе ў сабе парасткі комуністычнай працы і з'яўляецца ключом для пераадолення процілегласці паміж працай фізічнай і разумовай.

Карэнным чынам змяніўся класавы састаў савецкага грамадства. Колькасць рабочых і служачых у параўнанні з 1913 годам вырасла ў два з паловай раза, 94,4 проц. насельніцтва занята ў соцыялістычнай гаспадарцы або цесна звязана з ёю.

Канчаткова ліквідаваны рэшткі эксплаататарскіх класаў. Соцыялістычнае грамадства ў СССР складаецца з двух дружаственных класаў: рабочых і сялян—і інтэлігенцыі. Сціраецца класавая грань паміж соцыяльнымі групамі працоўных. Рабочы клас, сялянства і інтэлігенцыя згуртаваны ў адным агульным працоўным фронце.

Рабочы клас Краіны Саветаў—гэта ўжо не пролетарыі, якія прымушаны прадаваць сваю рабочую сілу паразітычным класам, гэта ўжо не самы прыгнечаны і бяспраўны клас, якім ён з'яўляецца ў буржуазным грамадстве, наш рабочы клас—кіраўнік першай у свеце соцыялістычнай дзяржавы. Разам з калгасным сялянствам ён уладае ўсімі сродкамі вытворчасці і стаіць на чале пераможнага руху арміі працоўных да вяршынь комунізма.

Зусім змянілася і наша сялянства. Яно стала актыўным будаўніком соцыялізма, канчаткова парвала з ранейшым жабрацкім жыццём

і разам з рабочым класам, пад яго кіраўніцтвам, змагаецца за комунізм. Сялянства прайшло цяжкі, але радасны шлях свайго эканамічнага і культурнага адраджэння і жыве зараз шчаслівым, заможным і культурным жыццём.

Змянілася і інтэлігенцыя. Упершыню ў гісторыі чалавецтва яна служыць таму, хто яе па-сапраўднаму ацэньвае, хто з'яўляецца тварцом гісторыі,—працоўнаму народу. Совецкая інтэлігенцыя, якая ўпершыню атрымала магчымасць неабмежаванай навуковай і культурнай творчасці, уносіць свае веды і працу ў агульную скарбніцу будаўніцтва комуністычнага грамадства.

Сіла і непераможнасць Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі— у магутным росце матэрыяльнага добрабыту і культурнага ўзроўню працоўных. Народны даход з 48,5 мільярда ў 1933 годзе ўзрос да 105 мільярдаў рублёў у 1938 годзе. Больш чым у два разы паднялася сярэднегадавая зарплата рабочых і служачых, на многа павялічыліся даходы калгаснікаў.

Магутным рычагом развіцця нашай краіны з'яўляецца небывалае, нідзе ў свеце нябачанае маральна-палітычнае адзінства совецкага народа. Выбары ў Вярхоўны Совет СССР і ў Вярхоўныя Советы саюзных і аўтаномных рэспублік з'явіліся магутнай дэманстрацыяй адданасці многамільённага совецкага народа сваёй комуністычнай партыі, свайму другу і правадыру таварышу Сталіну. Адзінадушнае галасаванне за кандыдатаў сталінскага блока комуністаў і беспартыйных было ўрачыстай клятвай, якую даваў совецкі народ сваёй партыі і любімаму правадыру: жыць, змагацца і перамагаць пад слаўным сцягам пролетарскай рэволюцыі, пад сцягам комунізма.

Выбары ў мясцовыя советы дэпутатаў працоўных яшчэ раз прадэманструюць перад усім светам трыумф совецкага дэмакратызма пад сцягам Сталінскай Канстытуцыі, несакрушальнае маральна-палітычнае адзінства і маналітнасць совецкага народа. Яны прынясуць новы ўздым палітычнай актыўнасці мас, бліскучую перамогу сталінскаму блоку комуністаў і беспартыйных. Народ выбера сотні тысяч людзей, беззаветна адданых сваёй соцыялістычнай радзіме, новых дзяржаўных дзеячоў ленінска-сталінскага тыпу.

Выкананне грандыёзных задач трэцяй сталінскай пяцігодкі, начэртаных XVIII з'ездам ленінска-сталінскай партыі, з'явіцца буйнейшым крокам да комуністычнага грамадства. Магутным вытворчым уздымам ахоплены многамільённыя масы совецкага народа, уступіўшыя ў соцыялістычнае спаборніцтва імені Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі. Стаханаўскі рух забяспечвае нябачаны ўздым прадукцыйнасці працы на ўсіх участках народнай гаспадаркі. Па ініцыятыве перадавікоў вытворчасці на заводах і фабрыках укараняецца многастаночнае абслугоўванне, якое адкрывае велізарныя перспектывы для яшчэ больш шпаркага росту прадукцыйнасці працы.

Мы далёка пакінулі ззаду сябе капіталістычныя краіны па тэмпах росту і тэхнічнай узброенасці нашай прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Наша соцыялістычная прамысловасць толькі за 9 месяцаў гэтага года дала прадукцыі больш, чым царская Расія за цэлых дзесяць год перад вайною 1914 года.

Асноўная эканамічная задача СССР—у бліжэйшыя 10—15 год дагнаць і перагнаць галоўныя капіталістычныя краіны таксама і ў эканамічных адносінах, гэта значыць у адносінах размераў вытворчасці на душу насельніцтва.

Вырашэнне гэтай задачы прынясе тое багацце прадуктаў, якое

з'яўляецца неабходнай эканамічнай базай для ажыццяўлення асноўнага прынцыпа комунізма: «Ад кожнага па здольнасцях—кожнаму па патрэбнасцях». Над вырашэннем гэтай асноўнай эканамічнай задачы геранчна і паспяхова змагаецца пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна ўвесь совецкі народ.

Ленінска-сталінскае вучэнне аб магчымасці перамогі соцыялізма ў адной, асобна ўзятай, краіне, якая ажыццявіла пролетарскую рэволюцыю, аб магчымасці пабудовы соцыялізма ва ўмовах капіталістычнага акружэння з'явілася адной з рашаючых умоў барацьбы за соцыялізм. Наша большэвіцкая партыя вяла бязлітасную барацьбу супроць ворагаў усіх масцей—трацкісцка-зіноўеўскіх, бухарынска-рыкаўскіх, буржуазна-нацыяналістычных і іншых агентаў замежных разведак, якія ў звярынай злобе імкнуліся сарваць соцыялістычнае будаўніцтва і аднавіць капіталістычнае рабства ў нашай краіне. У бязлітаснай барацьбе з ворагамі народа: трацкістамі і бухарынцамі, правымі і «левымі» здраднікамі, лакеямі міжнароднага імперыялізма,—наша краіна прышла да велізарных сусветна-гістарычных перамог.

Ленінска-сталінскі кааперацыйны план, вучэнне аб калектывізацыі працоўнага сялянства далі партыі магчымасць знайсці правільны шлях уцягнення вёскі ў русло соцыялізма.

Пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна наша большэвіцкая партыя ажыццявіла калектывізацыю сельскай гаспадаркі і на гэтай аснове ліквідацыю кулацтва як класа.

> «Гэта быў найглыбейшы рэволюцыйны пераварот, скачок са старога якаснага стану грамадства ў новы якасны стан, роўназначны па сваіх выніках рэволюцыйнаму перавароту ў кастрычніку 1917 года» *).

Своеасаблівасць гэтага перавароту ў тым, што ён быў праведзен па ініцыятыве дзяржаўнай улады, пры прамой падтрымцы мільённых мас сялян, якія змагаліся супроць кулацтва, за шчаслівае калгаснае жыццё.

З усіх задач нашай рэволюцыі задача соцыялістычнай пераробкі дробнасялянскай гаспадаркі з'яўлялася самай цяжкай. Умелая, мудрая палітыка дзяржавы ў адносінах да сялянства, рашучая барацьба з кулацтвам, перакананне працоўных слаёў сялянства сілай прыкладу і вопыту ў перавагах соцыялістычнай сістэмы гаспадаркі, паступовае добраахвотнае ўцягненне ў калгасы, велізарная дзяржаўная дапамога ім—усё гэта спрыяла таму, што калгасны лад перамог канчаткова і сялянства нашай краіны беспаваротна стала пад сцяг соцыялізма.

Цяпер мы маем самую буйную, аснаваную на перадавой тэхніцы, найболыш таварную сельскую гаспадарку. У 1938 годзе 93,5 проц. усіх сялянскіх гаспадарак было аб'яднана ў калгасах, на долю якіх прыходзілася 99,3 проц. пасеўнай плошчы. У тым-жа годзе ў нашай краіне было больш 242 тысяч калгасаў з 18,8 мільёна сялянскіх двароў, 3.961 соўгас і 6.358 машына-трактарных станцый. Інвентар соцыялістычнай сельскай гаспадаркі складаўся з 483,5 тысячы трактараў, 153,8 тысячы камбайнаў, 195,8 тысячы грузавых аўтамабіляў. У 1939 годзе ворыва па СССР механізавана на 71,5 проц.

Усесаюзная сельскагаспадарчая выстаўка, якая адкрылася на парозе 22-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі, прадэманстравала выдатныя поспехі нашых соўгасаў і калгасаў.

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 288.

На аснове калектыўнай працы, высокай машыннай тэхнікі і перадавой аграномічнай навукі няўхільна расце ўраджайнасць соцыялістычных палёў. Паспяхова вырашаецца пастаўленая таварышом Сталіным задача—дабіцца ўраджаю 7—8 мільярдаў пудоў зярна ў год. У калгаснай вёсцы растуць новыя кадры стаханаўцаў, майстроў высокіх ураджаяў і прадукцыйнай жывёлагадоўлі.

Усесаюзная сельскагаспадарчая выстаўка наглядна і пераканаўча паказала росквіт сельскай гаспадаркі ва ўсіх рэспубліках, краях і абласцях Савецкага Саюза, рост эканомікі, дабрабыту і культурнага ўзроўню шырокіх калгасных мас. Разам з тым яна прадэманстравала цесную залежнасць развіцця нашай сельскай гаспадаркі ад поспехаў соцыялістычнай індустрыялізацыі краіны. На выстаўцы мільёны калгаснікаў вучыліся майстэрству змагацца за далейшы ўздым соцыялістычнага земляробства і жывёлагадоўлі.

Права ўдзелу на выстаўцы атрымалі 15.059 калгасаў, 11.004 калгасныя фермы, 268 МТС, 795 соўгасаў, 155.821 перадавікоў сельскай гаспадаркі. Быць удзельнікам усесаюзнага агляду соцыялістычнага земляробства—велізарная чэсць. І недарма за ганаровае права ўдзелу ў выстаўцы 1940 года спаборнічаюць дзесяткі тысяч перадавых калгасаў нашай краіны.

Сямімільнымі крокамі ідзе савецкі народ па шляху культуры і ведаў. Толькі за апошнія пяць год у нас пабудавана 4.254 гарадскія і 16.353 сельскія школы. У мінулым навучальным годзе ў пачатковай і сярэдняй школе займалася 31,5 млн. дзяцей, а ў вышэйшых навучальных установах—547.200 студэнтаў—больш, чым у Англіі, Германіі, Францыі, Італіі і Японіі, разам узятых.

Расцвіла сталінская дружба народаў СССР. Шчаслівае сузор'е савецкіх рэспублік паказвае ўсяму свету прыклад паспяховага вырашэння нацыянальнага пытання.

* * *

Беларуская ССР ператварылася ў адну з перадавых рэспублік вялікага Савецкага Саюза.

Вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэвалюцыя прынесла беларускаму народу шчасце і радасць. Упершыню ў гісторыі ён набыў сваю дзяржаўнасць і пад яркімі праменнямі Сталінскай Канстытуцыі будуе новае, свабоднае, цудоўнае жыццё.

З краіны жабрацтва і цемры, сахі і касулі Беларусь стала квітнеючай індустрыяльна-калгаснай рэспублікай. Амаль занова створана прамысловасць. Выраслі дзесяткі буйнейшых прадпрыемстваў. Электрастанцыя імені Сталіна, пабудаваная на тарфяным паліве з Асінаўскіх балот, дае сваю электраэнергію гарадам і прадпрыемствам Магілева, Оршы, Віцебска і інш. Занова пабудаваны Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат, Крычаўскі цэментны завод, Магілеўская фабрыка штучнага валакна, буйнейшыя тэкстыльныя прадпрыемствы Віцебска, Оршы, Гомельскі шклозавод і інш. Створана буйная металаапрацоўчая прамысловасць, машына-і станкабудаўніцтва, вытворчасць сельскагаспадарчых машын, хімічная і торфапрамысловасць. Рэканструяваныя прадпрыемствы расшыраны, аснашчоны магутнай тэхнікай.

За апошнія годы прамысловасць БССР дасягнула велізарнейшых поспехаў. У 1938 годзе яе валавая прадукцыя складала 2.158 мільёнаў рублёў, а к канцу 1939 года дасягне 2.350 млн. рублёў, што дасць прырост на 9,3 проц.

Узрасло насельніцтва гарадоў БССР. Паводле даных усесаюзнага перапісу, у Мінску налічваецца 238.772, у Віцебску—167.424, у Гомелі—144.169, у Магілеве—99.440, у Бабруйску—84.107 чал. Па гэтых пяці гарадах колькасць насельніцтва супроць 1926 года ўзрасла ў сярэднім на 175,9 проц.

На прадпрыемствах рэспублікі працуе звыш 175 тысяч рабочых.

Сельская гаспадарка Савецкай Беларусі дасягнула нябачанага росквіту. Замест 838 тысяч распыленых аднаасобных сялянскіх гаспадарак зараз мы маем 9.648 калгасаў, у якіх аб'яднана 749.980 гаспадарак з 97 проц. усёй пасеўнай плошчы рэспублікі. Калгасам перадана ў вечнае карыстанне каля 8 мільёнаў гектараў зямлі.

На шырокіх калгасных палях рэспублікі працуе 8.626 трактараў, звыш 1.300 камбайнаў, 4.418 аўтамабіляў, лакамабіляў і рухавікоў, дзесяткі тысяч складаных сельскагаспадарчых машын. Калі ў былой Мінскай губерніі на 200 тысяч дзесяцін зямлі прыходзілася адна сеялка, то ў 1937 годзе на гэтай зямлі працавала 83 трактарныя і 410 конных сеялак.

Пасеўная плошча ў 1937 годзе ў параўнанні з 1913 годам узрасла на 37,1 проц. Пасевы пшаніцы ўзраслі ў 6,4 раза, тэхнічных культур—у 3,2 раза, кармавых—у 63,1 раза, бульбы—на 93 проц.

Плошча балот у БССР займае 3 мільёны гектараў, або 24 проц. усёй тэрыторыі. Калгасы і даследчыя станцыі рэспублікі знімаюць з асушаных балот багацейшыя ураджаі: азімага жыта да 36 цэнтн., ячменю—да 48 цэнтн., аўса—да 41 цэнтн., канапель—да 14,5 цэнтн. і капусты—да 415 цэнтн. з гектара.

Калгаснае сялянства з года ў год павышае свой матэрыяльны і культурны ўзровень. Расце колькасць калгасаў-мільянераў. Калгаснік становіцца ўсё больш заможным. Рост матэрыяльнага і культурнага ўзроўню працоўных—непахісны закон сацыялістычнага ладу. Партыя Леніна—Сталіна, савецкая ўлада нястомна клапоцяцца аб чалавеку ў сацыялістычнай дзяржаве.

Расцвіла нацыянальная па форме і сацыялістычная па зместу культура беларускага народа. Рэспубліка мае зараз 22 вышэйшыя і 41 навукова-даследчую ўстановы, 97 педвучылішчаў і тэхнікумаў. Беларуская ССР мае сваю Акадэмію Навук—дзецішча савецкай улады.

У 7065 школах БССР вучыцца больш мільёна дзяцей рабочых, калгаснікаў і савецкай інтэлігенцыі. Толькі за годы сталінскіх пяцігодак пабудавана 565 сталінскіх школ.

Да рэвалюцыі ў Палескай вобласці было ўсяго 77 школ, зараз—987.

На народную асвету ўрад БССР асігнаваў у гэтым годзе 608.670 тысяч рублёў—у 63 разы больш, чым у 1924—25 навучальным годзе. У 1937—38 навучальным годзе на народную асвету ў рэспубліцы было выдаткавана 121 рубель на чалавека, супроць 60 капеек у дарэвалюцыйны час.

Выдатныя кадры савецкай інтэлігенцыі выйшлі з нетраў народа. Зараз мы маем адных толькі навуковых працаўнікоў 1.263 чалавекі, звыш 1.000 аграномаў, 600 заатэхнікаў, 200 ветурачоў.

У БССР працуе 14 драматычных тэатраў, Тэатр оперы і балета, філармонія, кансерваторыя, 1 333 кінотэатры (у тым ліку 491 гукавы), 2.873 клубы і хаты-чытальні.

У 1938 годзе выдавалася 199 газет і 14 журналаў, з іх 149 газет і 9 журналаў на беларускай мове.

Яркім паказчыкам росту заможнасці працоўных БССР з'яўляецца безупыннае павелічэнне ўкладаў у ашчадкасы. Калі к пачатку другой

пяцігодкі зберажэнні працоўных складалі 23.811 тысяч рублёў, то к канцу другой павялічыліся да 110.850 тысяч, а на 1 верасня 1939 года дасягнулі 160 мільёнаў.

* * *

Як магутны ўцёс, натхняючы працоўных усяго свету на барацьбу за социялізм, стаіць наша соцыялістычная радзіма сярод соцыяльных катастроф, якія патрасаюць капіталістычны свет. Магутнасць і дабрабыт нашай радзімы растуць з кожным днём. Да голасу яе прыслухоўваецца ўвесь свет.

Існаванне Совецкага Саюза—аплота сусветнай рэволюцыі—з'яўляецца магутным фактарам рэволюцыянізавання працоўных мас капіталістычных краін. Гэта добра разумее буржуазія, і ў гэтым прычына яе лютай нянавісці і злобы. Але ўсе прошукі падпальшчыкаў вайны—нашых лютых ворагаў з лагера англа-французскай імперыялістычнай буржуазіі і іх услужлівых прыхвасней з асяроддзя «соцыялістычных» лідэраў—разбіваюцца аб несакрушальную сцяну нерушымага адзінства совецкага народа, аб магутнасць і сілу нашай доблеснай Чырвонай Арміі.

Наш совецкі народ, які законна ганарыцца сваімі поспехамі, цвёрда памятае ўказанне правадыра народаў таварыша Сталіна аб тым, што СССР знаходзіцца ў капіталістычным акружэнні, што трэба быць заўсёды ў мабілізацыйнай гатоўнасці, заастраць сваю рэволюцыйную пільнасць, умацоўваць магутнасць і абараназдольнасць соцыялістычнай дзяржавы.

Народы нашай краіны жалезнай сцяной згуртаваны вакол ВКП(б), вакол ленінска-сталінскага Цэнтральнага Камітэта нашай партыі, вакол таварыша Сталіна. У нашай краіне народ і комунізм зліліся ў адно. Няма такой сілы, якая-б разарвала цяснейшыя узы, якія звязваюць большэвіцкую партыю і совецкі народ. Сваіх выдатных перамог наша краіна дабілася пад вялікім сцягам партыі Леніна—Сталіна. Пад гэтым-жа неперарможным сцягам мы пойдзем уперад, да новых перамог комунізма.

Няхай жыве вялікі, непераможны сцяг Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна!

Няхай жыве ленінізм!

# Пад вялікім сцягам Леніна—Сталіна

Унечарговая V сесія Вярхоўнага Совета СССР абмеркавала і вырашыла пытанні сусветна-гістарычнага значэння.

Сесія заслухала даклад старшыні Совета Народных Камісараў і народнага камісара замежных спраў тав. Молатава аб знешняй палітыцы Совецкага Саюза.

Апошнія месяцы адметны буйнейшымі палітычнымі падзеямі ў міжнародным жыцці.

Вайна паміж англа-французскім блокам і Германіяй ужо ў сваёй першай стадыі ўнесла карэнныя змены ва ўсю міжнародную абстаноўку. Пачалася яна, як вайна паміж Германіяй і Польшчай і вылілася ў імперыялістычную вайну за сусветнае панаванне, за ўладанне калоніямі. Вайна гэта нясе чалавецтву незлічоныя бядоты.

Глава совецкага ўрада тав. Молатаў у сваім дакладзе на V сесіі Вярхоўнага Совета СССР заявіў:

> «Наша краіна, як краіна нейтральная, не зацікаўленая ў распальванні вайны, прыме ўсе меры да таго, каб зрабіць вайну менш разбуральнай, аслабіць яе і паскорыць яе сканчэнне ў інтарэсах міру».

Паслядоўная і настойлівая барацьба Совецкага Саюза за мір і дружбу паміж народамі забяспечыла на ўсходзе Еўропы моцны фундамент працяглага міру.

Заключэннем германа-совецкага дагавора аб дружбе і граніцы паміж СССР і Германіяй, падпісанага 28 верасня ў Маскве, пакладзен канец варожасці і ненармальным адносінам паміж Германіяй і Совецкім Саюзам, створаны ўмовы для развіцця совецка-германскіх гаспадарчых адносін.

На XVIII з'ездзе партыі тав. Сталін папярэдзіў, што неабходна «захоўваць асцярожнасць і не даваць уцягнуць у канфлікты нашу краіну правакатарам вайны, прывыкшым заграбаць жар чужымі рукамі». Мудрая палітыка совецкага ўрада разбіла імкненні падпальшчыкаў вайны дабіцца ўзброенай сутычкі паміж Германіяй і Совецкім Саюзам усямерным раздуваннем варожасці паміж імі. Няма сумнення, што іменна на гэта разлічвалі правакатары, штурхаючы панскую Польшчу на вайну з Германіяй.

Буржуазны друк Англіі і Францыі крычаў аб «усходнім» фронце, аб тым, што пры набліжэнні германскіх войск да совецкай граніцы адбудзецца «выбух». Аднак, ніякага «выбуху» не адбылося. Совецка-германскі дагавор аб дружбе і граніцы нанёс рашучы ўдар па правакатарскіх планах падпальшчыкаў сусветнай вайны.

У той час, як на ўсходзе Еўропы зараз устаноўлен трывалы мір

у выніку адзіна правільнай мірнай палітыкі Совецкага Саюза, на захадзе Еўропы ўжо палыхае пажар крывавай імперыялістычнай вайны. Імперыялістычныя драпежнікі—гэтыя правакатары вайны—разумеюць, што «спроба паўтарыць Версаль пры цяперашняй міжнароднай абстаноўцы, якая ў корні адрозніваецца ад абстаноўкі 1914 года, можа скончыцца для іх крахам» **(Молатаў).**

Буйнейшае міжнароднае значэнне маюць заключаныя ў апошні час пакты аб узаемнай дапамозе паміж Совецкім Саюзам і прыбалтыйскімі краінамі. Гэтыя пакты прадастаўляюць СССР магчымасць мець ваенна-марскія базы і аэрадромы на тэрыторыі Эстоніі, Латвіі і Літвы. Такім чынам не толькі непасрэдныя нашы граніцы, але і подступы да іх на Балтыцы закоўваюцца ў непрыступную броню. Антысовецкія планы выкарыстаць прыбалтыйскія краіны для розных інтрыг і для магчымага ўдару па Совецкаму Саюзу з боку Балтыйскага мора пацярпелі крах у выніку мудрай палітыкі совецкага ўрада. Эстонія, Латвія і Літва ўключыліся ў мірны блок, які з'яўляецца надзейным аплотам міру на ўсходзе Еўропы.

У дакладзе таварыша Молатава асветлен рад іншых важнейшых пытанняў міжнароднай палітыкі Совецкага Саюза: аб совецка-японскіх адносінах, аб перагаворах з Турцыяй і Фінляндыяй і г. д. Прасякнуты сталінскай мудрасцю аналіз міжнароднай абстаноўкі і знешняй палітыкі Совецкага Саюза, даны ў дакладзе тав. Молатава, з вычарпальнай яснасцю і паўнатой вызначыў нашы задачы, якія адсюль выцякаюць.

Совецкі Саюз заўсёды быў і застаецца надзейным аплотам міру. Увесь многамільённы совецкі народ адабрае і падтрымлівае паслядоўную мірную палітыку свайго ўрада. За прайшоўшы перыяд Совецкі Саюз значна ўмацаваў свае пазіцыі, нязмерна ўзрос яго ўплыў і значэнне ў міжнародных справах.

V сесія Вярхоўнага Совета СССР аднадушна адобрыла знешнюю палітыку ўрада.

Сесія заслухала заявы Поўнамоцных Камісій Народных Сабранняў Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі.

Панская Польшча—гэта ўродлівае дзецішча Версаля, народжанае за кошт чужых тэрыторый,—была прызначана выконваць ролю «бар'ера супроць большэвізма». На працягу ўсёй сваёй кароткай гісторыі яна з'яўлялася цэнтрам антысовецкіх планаў і інтрыг.

Штучна створаная ласкутная дзяржава польскіх капіталістаў і памешчыкаў трымалася ўсе гэтыя дваццаць год на нечуванай эксплаатацыі рабочых і сялян, на прыгнечанні няпольскіх нацыянальнасцей, на крывавым паліцэйскім тэроры.

Да апошняга часу ў панскай Польшчы захаваліся па сутнасці феадальныя адносіны. Польскія магнаты і памешчыкі ўладалі $^2/_3$ усёй зямлі, а сялянства жабрацкі тулілася на вузкіх палосках; дзесяткі тысяч сялянскіх двароў зусім не мелі ні зямлі, ні цягла.

З 36 мільёнаў усяго насельніцтва Польшчы 10 мільёнаў сістэматычна галадала, не маючы работы. Адзін з былых польскіх міністраў назваў гэтых заўсёды галодных «лішнімі» людзьмі. Сярод іх было сем мільёнаў сялян або зусім беззямельных, або меўшых такія мізэрныя кавалачкі зямлі, якія не маглі іх пракарміць, паўтара мільёна людзей, працаваўшых адзін або два дні ў тыдзень, і паўтара мільёна, не маючых ніякай работы.

На фабрыках і заводах панавала бязлітасная эксплаатацыя. Заработная плата рабочых цэнтральнай Польшчы была адной з самых нізкіх у Еўропе, а рабочыя Заходняй Беларусі атрымлівалі палову нават гэтай жабрацкай зарплаты.

Улада польскіх капіталістаў і паноў падтрымлівалася лютым паліцэйскім тэрорам. Усім памятны расстрэлы рабочых, баставаўшых у Цешынскай і Тарнопальскай акругах, крывавыя падзеі ў Кракаве ў 1923 г. і ў Варшаве ў 1928 г., расстрэлы рабочых на вуліцах Чэнстахова, Гдыні, Кракава і Львова ў 1936 г. Усім памятна крывавая «пацыфікацыя» украінскага і беларускага сялянства, калі польскія паны, афіцэры і паліцэйскія агнём і мечам знішчалі цэлыя вёскі, калі ў паліцэйскіх засценках, турмах і канцэнтрацыйных лагерах забівалі тысячы рэвалюцыйных рабочых і сялян.

Нацыянальнае прыгнечанне было даведзена да крайняй мяжы. Украінскага і беларускага селяніна польскія паны не лічылі людзьмі і называлі «быдлам». Паны закрылі украінскія і беларускія школы, знішчалі нацыянальную культуру, прымусова навязвалі насельніцтву польскую мову.

Польшча была сапраўднай турмою народаў, злой мачыхай мільёнаў працоўных, потам і крывёй якіх ствараліся казачныя багацці і раскошнае жыццё для Радзівілаў, Патоцкіх, Сапег, Бекаў і іншых паразітаў.

Як і трэба было чакаць, спарахнелы арганізм ласкутнай дзяржавы разваліўся пасля першых-жа ўдараў.

Распад Польшчы паставіў перад совецкім урадам сур'ёзнейшыя задачы.

Перш за ўсё трэба было забяспечыць парадак і мір на тэрыторыі былой польскай дзяржавы, якая стала «зручным полем для ўсякіх выпадковасцей і нечаканасцей, якія маглі стварыць пагрозу для СССР» (**Молатаў**). Нельга было абыякава аднесціся і да лёсу брацкага насельніцтва Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі, якое пасля распаду польскай дзяржавы знаходзілася пад пагрозай фізічнага знішчэння.

Выражаючы волю ўсяго совецкага народа, совецкі ўрад узяў пад сваю абарону жыццё і маемасць насельніцтва Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі. 17 верасня 1939 года часці нашай слаўнай Чырвонай Арміі перайшлі граніцу, якая штучна раздзяляла украінскі і беларускі народы, і з чэсцю выканала сваю вызваленчую задачу. Чырвоных байцоў насельніцтва сустрэла з вялікай радасцю і ліка-ваннем, як сваіх вызваліцеляў ад спрадвечнага гнёту.

22 кастрычніка народы Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі ўпершыню прымалі ўдзел ва ўсеагульных, роўных і прамых выбарах пры тайным галасаванні. На многалюдных сходах і мітынгах вызвалены народ даваў сваім абраннікам у Народнае Сабранне аднадушны наказ: устанавіць на ўсёй тэрыторыі Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі Совецкую ўладу, прасіць Совецкі ўрад прыняць Заходнюю Украіну і Заходнюю Беларусь у састаў Совецкага Саюза, канфіскаваць у карысць народа землі памешчыкаў, манастыроў і буйных чыноўнікаў, нацыяналізаваць банкі і буйную прамысловасць.

Выбары ў Народнае Сабранне прайшлі пры вялікім усенародным уздыме. Вядома, што на апошніх выбарах у польскі сейм удзель-

нічала ўсяго 45 проц. выбаршчыкаў. На выбарах у Народнае Сабранне Заходняй Украіны ўдзельнічала 92,8 проц. усіх выбаршчыкаў, а на выбарах у Народнае Сабранне Заходняй Беларусі—96,7 проц. Звыш 90 проц. усіх выбаршчыкаў галасавала за ўстанаўленне Совецкай улады.

Тав. Молатаў у сваім дакладзе на V сесіі Вярхоўнага Совета СССР з поўнай падставай сказаў, што выбары ў Народныя Сабранні Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі паказалі, што «па крайняй меры 9/10 насельніцтва гэтых абласцей былі ўжо даўно падрыхтаваны да з'яднання з Совецкім Саюзам».

Поўнамоцныя Камісіі Народных Сабранняў Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі перадалі Вярхоўнаму Совету СССР гарачую просьбу вызваленага украінскага і беларускага народаў прыняць іх назаўсёды ў вялікую сям'ю народаў Совецкага Саюза.

У дэкларацыі Народнага Сабрання Заходняй Беларусі гаворыцца:

> «Працоўныя Заходняй Беларусі заўсёды лічылі сябе звязанымі неразрыўнымі і кроўнымі узамі са сваімі братамі, пабудаваўшымі Совецкую Соцыялістычную Беларусь.
>
> Працоўныя Заходняй Беларусі рашуча патрабуюць злучэння дагэтуль разлучаных двух частак адзінага беларускага народа, адзінай беларускай зямлі.
>
> Лічачы волю беларускага народа вышэйшым законам, Беларускае Народнае Сабранне пастанаўляе:
>
> Прасіць Вярхоўны Совет Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік і Вярхоўны Совет Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі прыняць Заходнюю Беларусь у састаў Совецкага Саюза і Беларускай Совецкай Соцыялістычнай рэспублікі, злучыць беларускі народ у адзіную дзяржаву і пакласці тым самым канец раз'яднанню беларускага народа».

Дэкларацыя заканчваецца ўсхваляванымі, выражаючымі волю і пачуцці вызваленага беларускага народа словамі:

> «Няхай жыве наша магутная радзіма—Вялікі Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік!»

Вярхоўны Совет СССР задаволіў просьбу народаў Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі. Цяпер яны з'яўляюцца роўнапраўнымі членамі вялікай брацкай сям'і народаў Совецкага Саюза. Ёсць адзіны украінскі народ, аб'яднаны Украінскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай, і ёсць адзіны беларускі народ, аб'яднаны Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай. 13 мільёнаў, назаўсёды збаўленых ад капіталістычнага і нацыянальнага гнёту, радасна вітаюць сваю цудоўную радзіму—Вялікі Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Дэпутаты Народных Сабранняў Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі ў сваіх выступленнях выражалі пачуцці найвялікшай любві і ўдзячнасці гераічнай Чырвонай Арміі, і яе слаўнаму маршалу тав. Варашылаву, Совецкаму ўраду і яго главе тав. Молатаву, неперамажнай партыі Леніна—Сталіна і яе мудраму правадыру, вызваліцелю прыгнечаных народаў, вялікаму Сталіну.

Дэпутат Народнага Сабрання Заходняй Беларусі сялянка вёскі Бастынь, Лунінецкага павета, тав. Бушыла сказала: «Я бедная сялянка, уся сям'я мая сядзела ў турме, мае дзеткі не мелі ні хлеба, ні

адзежы, мы толькі што вызваліліся. Гэтым мы абавязаны нашаму вялікаму бацьку, нашаму Сталіну». У гэтых простых сардэчных словах увасоблены думкі мільёнаў, назаўсёды вызваленых ад гнёту.

Вялікі шлях перамог соцыялізма, які мы прайшлі за 22 годы, вызваленыя народы Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі павінны будуць прайсці ў значна карацейшы тэрмін. Брацкая дапамога народаў вялікага Совецкага Саюза дасць магчымасць нашым братам дабіцца выдатных перамог у гаспадарчым і культурным будаўніцтве, сапраўднага росквіту вызваленай зямлі.

«Мы зробім усё,—заявіў дэпутат Народнага Сабрання Заходняй Беларусі тав. Прытыцкі,—каб па прыкладу нашых братоў і сясцёр, пражываючых у Совецкай Беларусі, па прыкладу і з брацкай дапамогай усяго совецкага народа ператварыць у бліжэйшы час нашу адсталую, разбураную Заходнюю Беларусь у квітнеючы край, краіну соцыялістычнай індустрыі. Мы будзем змагацца за тое, каб завяваць на нашых вызваленых палях такія-ж высокія ўраджаі, якіх дабіліся нашы браты ў Беларускай ССР. Мы пабудуем новыя фабрыкі і заводы, створым ачагі соцыялістычнай культуры і зробім усё, каб быць дастойнымі членамі брацкай сям'і народаў Совецкага Саюза. І калі ворагі соцыялізма задумаюць пасягнуць на нашу зямлю, на нашу свабоду, мы ўсе як адзін, ад малога да старога, станем на абарону нашай радзімы, а калі патрабуецца—аддадзім за яе наша жыццё».

Уносячы ад імя ўрада СССР на зацвярджэнне сесіі Вярхоўнага Совета закон аб уключэнні Заходняй Беларусі ў састаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, дэпутат Вярхоўнага Совета СССР тав. Булганін сказаў:

> «Таварышы беларусы! Сёння вы ўступаеце ў рады грамадзян вялікага Совецкага Саюза, які ідзе пад магутным кіраўніцтвам нашай слаўнай большэвіцкай партыі па шляху да комунізма. Так ідзіце-ж і вы, таварышы, па гэтаму шляху, мацуйце вашы рады вакол нашага слаўнага Совецкага ўрада, любіце вызваліцельніцу вашу—слаўную і мужную ленінска-сталінскую партыю, любіце і цясней згуртоўвайце свае рады вакол вялікага вызваліцеля народаў нашага вялікага Сталіна».

Унечарговая V сесія Вярхоўнага Совета СССР задаволіла просьбу народаў Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі і прыняла законы аб уключэнні Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі ў састаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік са з'яднаннем іх з Украінскай і Беларускай ССР.

22 гадавіну Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі святкавалі ўжо 183 мільёны шчаслівых грамадзян вялікай краіны Советаў.

У гэтыя гістарычныя дні сэрцы мільёнаў совецкіх грамадзян яшчэ ярчэй гараць любоўю да сваёй вялікай радзімы і бязмежнай адданасцю непераможнай партыі Леніна—Сталіна.

Радасна жыць, працаваць і тварыць пад вялікім сцягам Леніна—Сталіна, пад геніяльным вадзіцельствам вялікага прадаўжальніка справы Леніна—правадыра і настаўніка, вызваліцеля прыгнечаных народаў—роднага Сталіна.

І. Чорны

Дэпутат Вярхоўнага Совета БССР
Старшыня Дзяржплана БССР

# Прамысловасць і сельская гаспадарка БССР к XXII гадавіне Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай Рэвалюцыі

22-ю гадавіну Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі беларускі народ сустрэў нябачанымі дасягненнямі ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва.

1939 год знамянальны велізарнейшымі палітычнымі падзеямі як ва ўнутраным жыцці нашай краіны, так і ў галіне міжнароднай палітыкі.

У сакавіку 1939 года закончыў сваю работу XVIII з'езд Усесаюзнай Комуністычнай партыі большэвікоў, на якім таварыш Сталін у сваім справаздачным дакладзе аб рабоце ЦК ВКП(б) даў найглыбейшы аналіз пройдзенаму шляху будаўніцтва соцыялістычнага грамадства і начартаў ясны шлях далейшага пераможнага поступу ўперад—к комунізму.

> «Мы,—гаварыў таварыш Сталін,—перагналі галоўныя капіталістычныя краіны ў сэнсе тэхнікі вытворчасці і тэмпаў развіцця прамысловасці. Гэта вельмі добра. Але гэтага мала. Трэба перагнаць іх таксама і ў эканамічных адносінах. Мы гэта можам зрабіць, і мы гэта павінны зрабіць. Толькі ў тым выпадку, калі перагонім эканамічна галоўныя капіталістычныя краіны, мы можам разлічваць, што наша краіна будзе поўнасцю насычана прадметамі спажывання, у нас будзе багацце прадуктаў, і мы атрымаем магчымасць зрабіць пераход ад першай фазы комунізма да другой яго фазы».

Мы сустрэлі 22-ю гадавіну Кастрычніка ў новай гістарычнай абстаноўцы—у абстаноўцы, калі СССР на аснове пераможнага выканання другога пяцігадовага плана ўступіў ужо ў 3-м пяцігоддзі «у новую паласу развіцця, у паласу завяршэння будаўніцтва бяскласавага соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма» **(Молатаў).**

СССР праводзіць сваю знешнюю палітыку ў адпаведнасці з указаннямі вялікага правадыра нашай партыі—таварыша Сталіна. Няўхільна ажыццяўляючы яго ўказанні па пытаннях знешняй палітыкі, урад СССР заключыў з Германіяй пакт аб ненападзе, працягнуў руку брацкай дапамогі народам Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, якім пагражала знішчэнне вайной і голадам. Выражаючы

волю ўсяго савецкага народа, ідучы насустрач сапраўднаму жаданню беларускага і украінскага народаў, глава ўрада тав. Молатаў 17 верасня 1939 года перад усім светам чотка ізлажыў пазіцыю Савецкага ўрада, выцякаючую з таго становішча, якое стварылася ў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне ў выніку германа-польскай вайны.

Народы Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, якія 20 год цярпелі гнёт польскіх памешчыкаў і капіталістаў, з выключнай радасцю і натхненнем сустрэлі рашэнне Савецкага ўрада аб брацкай дапамозе, якая дала ім магчымасць скінуць з сябе ненавіснае ярмо.

На шматлікіх мітынгах і сходах нашы адзінакроўныя браты выказвалі гарачае жаданне ўліцца ў адну вялікую сям'ю народаў Савецкага Саюза.

Следуючы прыкладу працоўных СССР і выражаючы волю вызваленых народаў, Народныя Сабранні ў сваіх дэкларацыях правазгласілі Савецкую ўладу на ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Вызвалены народ у дружнай сям'і свабодных народаў СССР пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі большэвікоў будзе будаваць новае, шчаслівае жыццё.

Вялікая партыя Леніна—Сталіна правяла карэнную перабудову грамадскіх адносін на адной шостай зямнога шара; яна згуртавала мільёны працоўных краіны соцыялізма пад сваім непераможным сцягам і ператварыла СССР ва ўдарную брыгаду міжнароднага пралетарыята.

СССР стаў эканамічна незалежным ад капіталістычных краін. З жабрацкай, культурна і тэхнічна адсталай краіны ён ператварыўся ў магутную соцыялістычную дзяржаву, у перадавую індустрыяльную краіну.

У вялікай сям'і адзінаццаці савецкіх рэспублік, роўная сярод роўных, расце і красуецца БССР—неад'емная частка Савецкага Саюза.

У 22-ю гадавіну Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі, у абстаноўцы вялікіх палітычных падзей мы яшчэ і яшчэ раз павінны аглядзецца на пройдзены намі шлях.

Усім памятна, што прамысловасць дарэвалюцыйнай Беларусі была нікчэмна як па аб'ёму вытворчасці, так і па ўзроўню тэхнікі. Дарэвалюцыйная Беларусь давала прамысловай прадукцыі ўсяго на 89,9 млн. руб. Рабочыя неміласэрна эксплаатаваліся, заработная плата іх была мізэрнай. Галеча і цемра былі іх спадарожнікамі.

Аб беспрасветным жыцці беларускага рабочага не маглі ўмаўчаць нават самі прадстаўнікі эксплаататарскіх класаў.

Былы кіраўнік Добрушскай папяровай фабрыкі князя Паскевіча цынічна сцвярджаў: «Рабочыя не могуць, само сабою зразумела, выдзяляцца моцным складам цела, поўнакроўем і прэтэндаваць на доўгавечнасць».

Вось што пісала ў 1896 годзе рэакцыйная газета «Минский листок» аб жудасным становішчы дзіцячай працы: «На некаторых з гільзавых фабрык частку рабочых складаюць малалетнія дзеці, працу якіх эксплаатуюць іх гаспадары самым жудасным і бессаромным чынам. За вельмі цяжкую і стамляючую работу малалетнія дзеці атрымліваюць ад 30 да 35 кап. у дзень. Няшчасныя дзеці знясільваюцца на фабрыцы, дзе яны бываюць да 13 гадзін у суткі».

Фабрычны інспектар Свецілоўскі пісаў, што малалеткі «працуюць на фабрыцы не для таго, каб дастаўляць хлеб сваім сем'ям, а для таго, каб дастаўляць хлеб грабаўшчыкам».

Сялянства было задушана памешчыкамі. Характэрнаю рысай беларускай вёскі было беззямелле, голад і жабрацтва. Зямля апрацоўвалася прадзедаўскім спосабам. Селянін царапаў яе драўлянай сахою ды бараной. Знясіленая глеба плаціла яму жабрацкім ураджаем.

Вялікая соцыялістычная рэволюцыя ў корні змяніла аблічча краіны. БССР стала адной з перадавых індустрыяльна-калгасных рэспублік Совецкага Саюза. Беларускі народ пад кіраўніцтвам вялікай партыі Леніна—Сталіна ўзняў і развіў сваю культуру, нацыянальную па форме і соцыялістычную па зместу.

У 22-ю гадавіну Кастрычніка беларускі народ, як і ўсе народы вялікага Совецкага Саюза, дэманструе перад усім светам свае велізарнейшыя дасягненні, сваё шчаслівае жыццё, сваю гатоўнасць няўхільна змагацца за поўную перамогу комунізма.

Ужо ў 1938 г. удзельная вага прамысловай прадукцыі БССР ва ўсім аб'ёме прадукцыі дасягнула 77,5 проц. Валавая прадукцыя прамысловасці (у нязменных цэнах 1926—27 г.) выразілася ў суме 2 мільярдаў 114 мільёнаў рублёў, што ў 23 з лішнім раза перавышае валавую прадукцыю дарэволюцыйнай Беларусі.

За годы сталінскіх пяцігодак пабудавана звыш 1700 новых прадпрыемстваў і карэнным чынам рэканструявана 80.

Уведзены ў эксплаатацыю: Крычаўскі цэментны завод, Магілеўскі трубаліцейны, шклозавод імені Сталіна ў Касцюкоўцы з аб'ёмам вытворчасці звыш 7 млн. квадратных метраў бемскага шкла; Аршанскі ільнокамбінат магутнасцю звыш 16 млн. метраў тканіны; Магілеўскі косцеапрацоўчы і цэлы рад іншых прадпрыемстваў.

Значна ўзрасла ўдзельная вага БССР ва ўсім аб'ёме вытворчасці Совецкага Саюза.

Гомельскі завод сельскагаспадарчага машынабудаўніцтва забяспечвае сваёй прадукцыяй соўгасы і калгасы не толькі БССР, але і раду раёнаў Совецкага Саюза. Прадукцыяй Крычаўскага цэментнага завода забяспечваюцца адказнейшыя будоўлі ўсесаюзнага значэння. Беларускае шкло і запалкі, цвікі і дрожджы, папера і станкі добра вядомы брацкім рэспублікам.

Выключны размах прамысловага будаўніцтва ў БССР характарызуецца такімі лічбамі:

Хімічная прамысловасць супроць 1913 года вырасла ў 43 разы, цагляная—у 23, металаапрацоўчая—у 37, дрэваапрацоўчая і запалкавая—у 11, тэкстыльная—у 30,5, трыкатажная, прыкладна, у 2.000 да 117 млн. руб. з 0,06 млн. руб.), скурана-абутковая і мехавая—у 39, харчасмакавая—у 14,5 раза і т. д.

Адна толькі Віцебская панчошна-трыкатажная фабрыка «КІМ» выпусціла прадукцыі на 95 млн. руб. у той час, як уся цэнзавая прамысловасць дарэволюцыйнай Беларусі давала прадукцыі на 89,9 млн. руб. Скургалантарэйная фабрыка імені Куйбышэва ў Мінску выпускае прадукцыі ў 6 раз больш, чым уся скураная, абутковая і мехавая прамысловасць дарэволюцыйнай Беларусі.

Торфаздабываючая прамысловасць у 1939 годзе ў 98 раз перавысіла торфаздабычу 1913 года. Самая дробная гаспадарка сістэмы Белторфа здабывае ў год больш, чым уся даваенная торфапрамысловасць.

Электраэнергіі выпрацавана ў 100 раз больш, чым у 1913 годзе. І такія прыклады можна бачыць на кожным кроку.

Адным з самых важных вынікаў культурнай рэволюцыі ў нашай краіне з'яўляецца стварэнне значных кадраў новай совецкай інтэлігенцыі, неабходных для ўсіх галін соцыялістычнага будаўніцтва. Для рэканструяванай на аснове першакласнай тэхнікі прамысловасці і сельскай гаспадаркі БССР пытанне аб кадрах, авалодаўшых гэтай тэхнікай, мела першаступеннае значэнне.

У асваенні новай тэхнікі велізарную ролю адыграў стаханаўскі рух. Развіццё стаханаўскага руху прывяло да магутнага ўздыму прадукцыйнасці працы ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі.

Па наркамацкай прамысловасці БССР прадукцыйнасць працы за годы другой пяцігодкі вырасла на 65,6 проц., супроць 63 проц., устаноўленых планам другой пяцігодкі па СССР.

Важна падкрэсліць, што прырост прамысловай прадукцыі за другое пяцігоддзе адбываўся на тры чвэрці за кошт павелічэння прадукцыйнасці працы і толькі на адну чвэрць—за кошт росту рабочай сілы.

Таварыш Сталін у дакладзе на надзвычайным VIII Усесаюзным з'ездзе Советаў указваў:

> «Наша прамысловасць вырасла за гэты перыяд у гіганцкую сілу. Цяпер ужо нельга назваць яе слабай і тэхнічна дрэнна аснашчонай. Наадварот, яна базіруецца толькі на новай, багатай, сучаснай тэхніцы і моцна развітай цяжкай індустрыі і яшчэ больш развітым машынабудаўніцтве. Самае-ж галоўнае ў тым, што капіталізм выгнан зусім з сферы нашай прамысловасці, а соцыялістычная форма вытворчасці з'яўляецца цяпер непадзельна пануючай сістэмай у галіне нашай прамысловасці».

Гэтыя словы ў поўнай меры адносяцца і да прамысловасці Беларускай ССР.

Асноўныя вытворчыя фонды буйнай прамысловасці БССР **за другую пяцігодку** выраслі на 404,3 млн. руб. і к 1938 г. дасягнулі 727 млн. руб., што ў 1,25 раза перавышае фонды буйнай прамысловасці БССР на пачатак другога пяцігоддзя.

Асноўныя фонды тарфянай прамысловасці выраслі ў 3,6 раза, металаапрацоўчай і хімічнай—амаль у 2,75 раза, харчовай—больш чым у 2,5 раза, шклянай—амаль у 10 раз.

У параўнанні **з пачаткам першай пяцігодкі** асноўныя фонды прамысловасці БССР выраслі: шклянай—у 13,5, металаапрацоўчай—у 13,2, будматэрыялаў—у 21, хімічнай—у 132 разы. Гэта азначае, што за перыяд двух сталінскіх пяцігодак створаны і ўзброены навейшай тэхнікай шматлікія галіны соцыялістычнай прамысловасці БССР.

Прывядзем кароткую характарыстыку паасобных галін нашай прамысловасці.

**Тарфяная прамысловасць**—адзіная паліўная база БССР—за годы другой пяцігодкі вырасла, прыкладна, у 3 разы, а ў параўнанні з 1913 годам—у 98 раз. Яна цалкам і поўнасцю створана пры совецкай уладзе. Торфаздабыча ў 1938 годзе была механізавана, прыкладна, на 48 проц., а па Наркамату Мясцовай Прамысловасці ў 1940 годзе будзе механізавана на 78,5 проц.

**Хімічная прамысловасць БССР** створана за годы сталінскіх пяцігодак. Яна ў значнай меры выкарыстоўвае мясцовыя прыродныя рэсурсы. Яе валавая прадукцыя за годы другой пяцігодкі падвоілася. Зараз яна дае прадукцыі, прыкладна, на 115 млн. руб. Наша хімічная прамысловасць асвоіла новыя віды прадукцыі: штучнае валакно, вапняныя фарбы, крокус, вырабы з пірафіліта і інш.

Вялікае значэнне ў эканоміцы нашай рэспублікі мае **металаапрацоўчая прамысловасць.** Яна дае прадукцыі, прыкладна, на 200 млн. руб., што супроць 1932 года складае рост у 2,7 раза, а супроць 1913— у 38 раз.

У нас асвоена цяпер вытворчасць раду складаных, удасканаленых машын і абсталявання (станкі, вадзяныя турбіны, электраматоры, радыятары, трубы чыгунныя, кровельнае жалеза і т. д.). Выпускаюцца рознастайныя віды метызаў (цвікі, дрот, шурупы), аптычныя вырабы (акуляры і інш.) і цэлы рад прадметаў шырокага спажывання (пасуда ацынкаваная, лыжкі, іголкі швейныя і патэфонныя).

**Машынабудаўнічая прамысловасць** БССР у значнай меры забяспечвае абсталяваннем прамысловасць тарфяную, будматэрыялаў, суднабудаўніцтва, сельскую гаспадарку. Асвоена вытворчасць 30 тыпа-размераў металарэжучых станкоў (радыяльна-свідравальныя 35-ці м/м, Шэпінг, шурупныя аўтаматы і т. д.), выпускаюцца станкі і абсталяванне, якія раней імпартаваліся (нажовачныя пілы па металу, працяжныя станкі з гідраўлічнай і механічнай падачай і т. д.), наладжана вытворчасць электраматораў пераменнага току.

Заводы сельскагаспадарчага машынабудаўніцтва выпусцілі ўжо звыш 135 тысяч сельгасмашын, вельмі рознастайных па тыпах і марках.

Валавая прадукцыя **дрэваапрацоўчай прамысловасці** ў другім пяцігоддзі вырасла на 55 проц. У 1937 г. яна складала 200,8 млн. руб., супроць 129,7 млн. руб. у 1932 г. Выпуск мэблі ў параўнанні з 1932 г. вырас у 3,8 раза, а з даваенным часам—у 5 раз. Вытворчасць фанеры вырасла ў 1,7 раза. Удзельная вага БССР у агульнасаюзнай вытворчасці фанеры ў канцы другой пяцігодкі складала 29 проц.

У **лясной прамысловасці** праведзена механізацыя 12 лесапунктаў. Аб'ём механізаванай вывазкі дасягнуў 46 проц. супроць 0,5 проц. у 1932 г.

**Запалкавая прамысловасць** тэхнічна пераўзброілася і ў аб'ёме вытворчасці запалак па Совецкаму Саюзу складае 26,4 проц.

Значная рэканструкцыя праведзена на прадпрыемствах **папяровай прамысловасці,** асноўныя вытворчыя фонды якой к канцу другога пяцігоддзя склалі 31,3 млн. руб. Валавая прадукцыя вырасла ў 2,2 раза супроць 1932 г.

Шырока разгарнулася пярвічная апрацоўка ільну, 80 проц. якога да рэволюцыі вывозілася за граніцу ў неапрацаваным выглядзе. Зараз лён апрацоўваецца на 69 заводах і ў большасці калгасаў, якія забяспечаны ільнотрапальнымі машынамі розных сістэм. З ростам пасеваў ільну развілося ільнопрадзільнае ткацтва. Пабудован Аршанскі ільнокамбінат.

Буйная **трыкатажная прамысловасць** за другую пяцігодку павялічыла сваю вытворчую магутнасць у 4 разы, значна пашырыла і палепшыла асартымент. У 1937 г. было выпушчана 73,1 млн. пар пан-

чошна-насочных вырабаў супроць 31,5 млн. пар у 1932 годзе. З агульнасаюзнай прадукцыі панчошна-насочных вырабаў наша рэспубліка выпрацавала ў 1937 годзе 17,9 проц. супроць 15,1 проц. у 1932 годзе. У 1937 годзе выпрацавана 950 тыс. штук верхняга трыкатажу, або ў 13,6 раза больш чым у 1932 г. Трыкатажнай бялізны адпаведна выпрацавана: 16,73 млн. супроць 0,6 млн. штук.

**У швейнай прамысловасці** праведзена карэнная перабудова тэхналагічнага працэсу, адноўлен рад аперацый, у мінулым шкодніцкі адмененых у парадку іл...эрацыяналізацыі. Значна пашырыўся і ўзбагаціўся асартымент швейных вырабаў. Уведзена многа новых фасонаў адзення, павялічан індывідуальны пашыў. Важнейшая задача швейнай прамысловасці—далейшае расшырэнне і палепшанне якасці прадукцыі.

**Скурабутковая промысловасць** у корані рэканструявана. Па -сутнасці занова створаны такія буйныя прадпрыемствы, як скурзавод імені Сталіна ў Магілеве, скурзавод «Большэвік» і абутковая фабрыка імені Кагановіча ў Мінску і інш. У параўнанні з даваенным узроўнем прадукцыя скурабутковай прамысловасці ўзрасла ў 40 раз.

**Харчовая прамысловасць** стала буйнейшай галіной народнай гаспадаркі БССР. Яе асноўныя вытворчыя фонды к канцу другога пяцігоддзя склалі 132,1 млн. руб., вырасшы за пяцігоддзе ў 2,56 раза. Найбольш развілася вытворчасць малочных прадуктаў (рост у 7,4 раза), дзякуючы расшырэнню, а таксама будаўніцтву вялікіх механізаваных масласырзаводаў. Асноўныя фонды маргарынавай вытворчасці павялічыліся ў 7 раз. Фонды хлебапячэння з 3,6 млн. руб. на канец першага пяцігоддзя ўзраслі к 1938 году да 14,4 млн. руб. З 10-ці механізаваных хлебазаводаў 9 пабудаваны ў гады двух пяцігодак. На 15 рэспубліканскіх механічных пякарнях поўнасцю механізаваны працэсы замесу цеста, прасейвання мукі і інш.

**У мясапераапрацоўчай прамысловасці** механізаваны з'ём скуры са свіней і часткова з буйнай жывёлы, разруб туш і інш. У калбаснай вытворчасці ўведзены шпігарэзкі, двухбаковыя гідраўлічныя шпрыцы для набіўкі фаршу, устаноўлены больш магутныя і ўдасканаленыя куцэры і ваўчкі.

У 1937 г. харчовая прамысловасць дала прадукцыі на 445,5 млн. руб. (214,2 проц. да 1932 г.), перавысіўшы прадукцыю 1913 года ў 14,3 раза.

Выпуск мяса ў 1937 годзе склаў 22,14 тыс. тон, амаль на 9 тыс. тон больш, чым у 1932 г.; выпуск калбасных вырабаў у 1937 г. склаў 7,69 тыс. тон—рост супроць 1933 года ў 4,15 раза; выпуск хлеба-булачных вырабаў дасягнуў 509 тыс. тон—рост у 2,9 раза; прадукцыя кандзіцерскіх вырабаў узрасла ў 2,11 раза.

Партыя Леніна—Сталіна, узнімаючы і развіваючы тэхніку прамысловай вытворчасці і сельскай гаспадаркі, штодзенна клапоціцца аб усямерным павышэнні матэрыяльнага і культурнага ўзроўню працоўных.

> «Рэволюцыі ў мінулым гінулі ад таго, што яны, даўшы народу свабоду, не мелі магчымасці даць яму разам з тым сур'ёзнае паляпшэнне матэрыяльнага і культурнага становішча. У гэтым была іх асноўная слабасць. Наша рэволюцыя адрозніваецца ад усіх іншых рэволюцый тым, што яна дала народу не толькі свабоду ад царызма, ад капіталізма, але і карэннае па-

ляпшэнне яго матэрыяльнага і культурнага становішча. У гэтым яе сіла і неперапаможнасць» *).

Беларускі народ, падводзячы вынікі велізарнейшым перамогам у галіне соцыялістычнага будаўніцтва, разам з тым адзначае рост матэрыяльнага добрабыту працоўных у выніку ажыццяўлення двух сталінскіх пяцігодак.

У 1938 годзе на 20.884 прадпрыемствах прамысловасці БССР было занята 261.393 рабочых—у 10,5 раза больш, чым у дарэволюцыйнай Беларусі.

Сярэдняя гадавая заработная плата з 1.271 руб. у 1932 г. узрасла да 2.500 руб. З ростам матэрыяльнага добрабыту працоўных хуткімі тэмпамі рос і рознічны тавараабарот у рэспубліцы: з 3.347 млн. руб. у 1938 годзе да 4.087 млн. руб. у 1939 годзе—на 22,1 проц. больш супроць 1938 і на 357,8 проц. супроць 1932 года.

Растуць зберажэнні працоўных. Сума ўкладаў у ашчадкасы на 1/X 1934 г. складала 28,4 млн. руб., а на 1/I 1939 г.—141 млн. руб. Сярэдні размер уклада ўзрос адпаведна: з 51,3 руб. да 358,7 руб.

* * *

За годы другой пяцігодкі «вырашана найцяжэйшая задача соцыялістычнай рэволюцыі: завершана калектывізацыя сельскай гаспадаркі, калгасны лад канчаткова ўзмацнеў» **).

Перамога калгаснага ладу дала магчымасць замацаваць за калгасамі БССР 8 млн. га зямлі, перададзеных ім бясплатна і ў бестэрміновае карыстанне, г. зн. навечна.

На 1/VII 1939 г. па БССР калектывізавана 91,9 проц. гаспадарак. У рэспубліцы налічваецца 9.648 калгасаў, у якія ўваходзіць 749.980 гаспадарак. Аднаасобных гаспадарак у БССР усяго 66 тыс. або 8,1 проц.

З усёй пашы ў 3.759 тыс. га аднаасобнымі гаспадаркамі занята толькі 75 тыс. га—каля 2 проц.

Валавы збор ураджаю ў параўнанні з 1913 г. вырас: па зернавых культурах—на 22, па ільноваласкну—на 193, па бульбе—на 38 проц., па пшаніцы—амаль у 7 раз.

За годы другой пяцігодкі пабудаваны 143 МТС. На 1/XII 1938 г. сельская гаспадарка БССР абслугоўвалася 234 МТС, у якіх налічвалася 8.626 трактараў.

На VIII з'ездзе РКП(б) Владзімір Ільіч Ленін сказаў:

> «Калі-б мы маглі даць заўтра 100 тысяч першакласных трактараў, забяспечыць іх бензінам, забяспечыць іх машыністамі (вы дасканала ведаеце, што пакуль гэта—фантазія), то сярэдні селянін сказаў-бы: «Я за комунію» (г. зн. за комунізм)» ***).

Тое, аб чым гаварыў Ленін у 1919 годзе, зараз ужо выканана і ва многа раз перавыканана.

Сельская гаспадарка СССР ужо ў 1938 годзе мела парк у 483,5 тыс. трактараў. Магутная тэхнічная база канчаткова знішчыла сумную спадчыну дарэволюцыйнай сельскай гаспадаркі—жабрацтва і цемру.

Калі ў 1932 годзе ў БССР не было ні аднаго камбайна, то зараз

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 322.
**) З рэзалюцыі XVIII з'езда ВКП(б) па дакладу тав. Молатава.
***) Ленін, т. XXIV, стар. 170.

мы маем 1.417. Шыроказахватных ільноцерабілак замест 43 у 1932 годзе маем 1.295 штук; складаных і поўскладаных малатарань замест 1.123—2.840 штук.

Сельская гаспадарка дарэволюцыйнай Беларусі не ведала складаных сельскагаспадарчых машын. Жалезны плуг лічыўся адзнакай высокай тэхнікі заможных сялянскіх гаспадарак. Зараз наша сельская гаспадарка мае самую перадавую ў свеце тэхніку.

З асяроддзя саміх калгаснікаў вырас агранамічны і інжынерна-тэхнічны персанал. К 1938 году ў МТС працавала 660 аграномаў, 553 механікі, 340 камбайнераў, 532 шоферы, 1.726 брыгадзіраў трактарных брыгад, 13.523 трактарысты.

З ніжэйпрыведзенай табліцы відаць, як рэзка павысіўся ўзровень механізацыі сельскагаспадарчых работ за апошнія шэсць год.

**Працант механізацыі асноўных сельскагаспадарчых работ у калгасах**

| | 1933 г. | 1937 г. | 1939 г. |
|---|---|---|---|
| Ворыва пад яравыя пасевы | 2,6 | 31,4 | 42,9 |
| Пасеў зернавых сеялкамі | 0,8 | 12,8 | 1[illegible],5 |
| Уздым папару | 2,7 | 70,0 | 70,0 |
| Уборка зернавых | 0,5 | 2,0 | 10,6 |
| Цераблenne ільна | — | 17,1 | 26,1 |
| Уздым зябліва | 1,6 | 49,5 | 58,1 |
| Малацьба | 7,4 | 45,6 | 52,8 |

Дасягнутыя поспехі ствараюць моцную аснову для завяршэння ў трэцяй пяцігодцы комплекснай механізацыі сельскай гаспадаркі.

Адным з самых выдатных дасягненняў у развіцці прадукцыйных сіл сельскай гаспадаркі з'явіўся стаханаўскі рух. Дзякуючы яму, значна палепшылася апрацоўка зямлі на аснове апошніх даных агратэхнікі.

У 1937 г. рад калгасаў БССР атрымаў высокія, рэкордныя ўраджаі. Ураджай зернавых ад 12,1 цэнтн. з га і вышэй атрымалі па жыту 747, па азімай пшаніцы 414 і па яравой пшаніцы 533 калгасы. 476 калгасаў атрымалі ўраджай зернавых ад 10,1 цэнтн. з га і вышэй. 567 калгасаў знялі ільновалакна па 3,1 і больш цэнтнераў з га. 717 калгасаў сабралі бульбы больш як па 126 цэнтн. з га.

Значна павялічылася пасеўная плошча тэхнічных культур. Пасевы ільну з 71,8 тыс. га ў 1913 г. выраслі да 198,2 тыс. га ў 1939 г. Выведзена новая тэхнічная каучуканосная культура—кок-сагыз. Пасевы махоркі ў 1939 г. склалі 4,5 тыс. га.

Пладовыя насаджэнні за годы другой пяцігодкі ўзраслі на 30 проц. Характэрна, што з 1887 па 1917 г., г. зн. за 30 год, плошча садоў павялічылася на 8.500 га, з іх у сялянскіх гаспадарках—на 3000 га, а за годы совецкай улады садоўніцтва рэспублікі ўзрасло на 50.000 га, з іх 43.500 за першую і другую пяцігодкі.

Хуткімі тэмпамі вяліся меліярацыйныя работы, на якія ў дру-

гое пяцігоддзе затрачана з. дзяржаўных сродкаў 18.489,9 тыс. руб.—на 147,7 проц. больш, чым у першае.

БССР дабілася значных поспехаў і ў развіцці прадукцыйнай жывёлагадоўлі.

За годы другой пяцігодкі (1933—1937 гг.) пагалоўе буйнай рагатай жывёлы ўзрасло на 43,7, свіней—на 85,7, авечак і коз—на 20,2 проц. У калгасах за гэты час пагалоўе буйнай рагатай жывёлы ўзрасло на 88,7 проц., пагалоўе авечак—на 177,2 проц.

У справе ўздыму жывёлагадоўлі вялікую ролю адыгрываюць жывёлагадоўчыя соўгасы і калгасна-таварныя фермы.

Дзяржава аказала значную дапамогу калгаснікам у абзавядзенні жывёлай. Па няпоўных даных, калгаснікі за пяць год набылі 145,4 тысячы кароў і цёлак, атрымалі з калгасных жывёлагадоўчых ферм 425,6 тысячы свіней, 27 тысяч авечак. Зараз ужо ў асноўным выканана пастаўленая партыяй задача, каб у кожнага калгасніка была свая карова, дробная жывёла і птушка. Аднак, тыя велізарнейшыя магчымасці, якія тоіць у сабе соцыялістычная сістэма сельскай гаспадаркі, у нас далёка яшчэ не выкарыстаны.

Завяршэннем калектывізацыі, ростам арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў і тэхнічнай базы створаны ўсе ўмовы для хуткага ўздыму матэрыяльнага і культурнага ўзроўню жыцця калгаснікаў.

Каштоўнасць калгаснага працадня на аднаго працаздольнага за годы другой пяцігодкі ўзрасла: па зернавых—на 36 проц., па бульбе—на 62,1 проц., па грошах—у 3,5 раз.

Ілюстрацыяй культурнага ўзроўню цяперашняй калгаснай вёскі з'яўляецца рост культурна-бытавых устаноў. У 1937 годзе ў калгасах было 2.317 клубаў, 308 хат-чыталень, 1.431 чырвоных куткоў, 2.575 дзіцячых ясляў, 75 хат-лабараторый, 113 радзільных дамоў.

На Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы БССР заняла адно з пачэсных месц.

Дасягненні сельскай гаспадаркі былі-б яшчэ большымі, калі-б не шкодніцтва ворагаў народа—трацкістаў, бухарынцаў, буржуазных нацыяналістаў.

Беларускі народ пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі і таварыша Сталіна разграміў гнёзды фашысцкіх наймітаў і тым самым расчысціў шлях для далейшага, яшчэ больш хуткага развіцця прамысловасці і сельскай гаспадаркі БССР.

Зараз, калі ў сям'ю беларускага народа ўліліся яго адзінакроўныя браты з Заходняй Беларусі, якія 20 год знаходзіліся пад гнётам польскіх памешчыкаў і капіталістаў,—задачы беларускага народа яшчэ больш узрастаюць.

Няўхільна ідучы ўперад па шляху, указанаму таварышом Сталіным на XVIII з'ездзе нашай партыі,—па шляху паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма, усямерна павышаючы ўзровень вытворчасці і матэрыяльны добрабыт працоўных, умацоўваючы абароназдольнасць нашай краіны, беларускі народ, як і ўвесь совецкі народ, падаўшы руку дапамогі братам Заходняй Беларусі, прыме ўсе меры, каб у найкарацейшы тэрмін на тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны дабіцца такіх-жа дасягненняў, якія мае ўся наша совецкая краіна.

Парукай поспеху ў гэтай справе служыць цесная згуртаванасць народаў СССР, іх бязмежная любоў да нашай партыі, да вялікага Сталіна, які вядзе нас ад перамогі да перамогі.

**А. Хаін-Юмскі**

Сакратар Мінскага абкома КП(б)Б

# Чаму распалася польская дзяржава

17 верасня 1939 года ўвойдзе ў гісторыю хвалюючай знаменальнай датай вызвалення Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі.

Як здарылася, што Польшча з 36-цю мільёнамі насельніцтва, з параўнаўча вялікай арміяй пацярпела поўнае паражэнне і разгром на працягу дзесяці дзён? Гісторыя войн не ведае падобных фактаў. На гэта пытанне даецца адказ у прамове таварыша Молатава, якая з велізарнаю сілай прагучэла 17 верасня на ўвесь свет: «Падзеі, выкліканыя польска-германскай вайной, паказалі ўнутраную несастаяцельнасць і яўную недзеяздольнасць польскай дзяржавы».

Да гэтага прывёў глыбокі працэс распаду і гніення польскай дзяржавы. Пабудаваная на прыгнечанні і рабунку нацыянальных меншасцей, яна паказала сваю нежыццездольнасць, сваю ўнутраную несастаяцельнасць і развалілася, як картачны домік пры першым павеве ветру.

У сваім артыкуле «Аб нацыянальнай гордасці вялікаросаў» Ленін пісаў: «Не можа быць свабодзен народ, які прыгнятае чужыя народы». Бясспрэчна, што нацыянальна-каланіяльная палітыка прыгнечання, якую праводзілі польскія заправілы, з'явілася адной з асноўных прычын, што падарвалі самастойнасць польскай дзяржавы і прывялі яе да развалу.

Прывядзем факты і цыфры.

Польскія паны ператварылі Заходнюю Беларусь у сваю калонію, якую празвалі Усходнімі Крэсамі. Яны многа любілі гаварыць аб сваёй «цывілізатарскай ролі», але за 20 год акупацыі даволі ясна паказалі, што за «цывілізацыю» яны неслі з сабою. Радзівілы, Патоцкія і іншыя патомкі польскіх феадальных магнатаў адраджалі ў Заходняй Беларусі самыя змрочныя часы сярэдневяковага варварства. Усё бліжэй знаёмячыся з гаспадарчым становішчам Заходняй Беларусі, мы павінны прызнаць, што яна ніколі не пераносіла такі нацыянальна-каланіяльны гнёт, як падпаўшы пад уладу польскіх акупантаў.

У Савецкай Беларусі ў выніку выканання плана другой пяцігодкі валавая прадукцыя прамысловасці павялічылася ў 23,6 раза супроць 1913 года. Асноўныя фонды прамысловасці рэспублікі за дзве пяцігодкі ўзраслі больш чым у 9 раз. БССР з адсталай аграрнай ператварылася ў квітнеючую індустрыяльна-калгасную краіну. За гэты перыяд прамысловасць Заходняй Беларусі ўвесь час працягвала згортвацца. У 1935 годзе колькасць рабочых у прамысловасці зменшылася на 40 проц. супроць 1913 г. Многія прадпрыемствы былі поўнасцю ліквідаваны або перавезены ў Польшчу.

Адна толькі прамысловасць Мінска мае рабочых больш, чым уся цэнзавая прамысловасць б. Віленскага ваяводства. У трыкатажнай прамысловасці горада Віцебска працуе рабочых куды больш, чым на ўсіх прадпрыемствах такога буйнага ва ўмовах Заходняй Беларусі прамысловага цэнтра, якім з'яўляецца Беласток.

Прыродныя багацці БССР і Заходняй Беларусі параўнаўча аднародны: лён, лес, торф. У БССР будуюцца вялікія фабрыкі на мясцовай сыравіне. У Заходняй Беларусі сыравіна вывозілася для перапрацоўкі ў карэнную Польшчу або на экспарт.

Яшчэ да імперыялістычнай вайны 1914—1918 гг. лясная прамысловасць Заходняй Беларусі, хоць і часткова, пераапрацоўвала сваю прадукцыю на месцы, пад уладаю-ж польскіх паноў лесаматэрыялы накіроўваліся, як правіла, на лесапільныя заводы Пазнані або ў неапрацаваным выглядзе вывозіліся за граніцу. Толькі фанерная прамысловасць з'яўлялася выключэннем з гэтага правіла. У 1913 годзе ў Віленскай губерніі былі такія прадпрыемствы, як чыгуналіцейны завод, фабрыка кос, фабрыка замкоў, а ў польскіх паноў яны поўнасцю ліквідаваліся. У скуранай прамысловасці Заходняй Беларусі ў 1909 годзе было занята каля 3 тысяч рабочых. За годы польскай акупацыі прадукцыя скуранай прамысловасці у Беластоку згарнулася амаль поўнасцю. Прычым колькасць рабочых-гарбароў скарацілася да $\frac{1}{5}$ даваеннага часу.

Палітыка польскіх паноў заключалася ў тым, каб ліквідаваць апрацоўваючую прамысловасць Заходняй Беларусі і забяспечыць манаполію рынка для прамысловасці Польшчы.

Заходняя Беларусь мае ўсё неабходнае для развіцця запалкавай прамысловасці. Аднак польскі ўрад, уводзячы запалкавую манаполію, ліквідаваў рад запалкавых фабрык у Заходняй Беларусі. У справаздачы гандлёва-прамысловай палаты Вільна за 1934 год указваецца, што польскі ўрад вядзе палітыку ліквідацыі запалкавай прамысловасці Заходняй Беларусі з прычыны, нібыта, дзяржаўнай неабходнасці.

Каланіяльная палітыка польскіх пануючых класаў асабліва сказалася ў тэкстыльнай прамысловасці. Беластокская прамысловая акруга сканцэнтравала ў сабе амаль усю тэкстыльную прамысловасць Заходняй Беларусі. Кіруючыя кругі Польшчы, заахвочваючы вываз тэкстылю за граніцу, стварылі палітыкай пошлін усе перавагі для лодзінскіх тэкстыльных вырабаў, якія накіроўваліся ў Юга-Славію, Румынію, Сербію—якраз у тыя месцы, куды ў даваенны час збывала сваю прадукцыю тэкстыльная прамысловасць Беластока. У выніку беластокская тэкстыльная прамысловасць рэзка скарацілася, многія фабрыкі закрыліся.

Зварочвае на сябе ўвагу той факт, што шарсцяная пража Беластокскай акругі складала 21 проц. усёй шарсцяной прадукцыі Польшчы, а ў грашовым выражэнні яшчэ менш—5,8. Гэта тлумачыцца тым, што беластокская тэкстыльная прамысловасць выпрацоўвае самыя танныя тавары. Польскі ўрад прымаў усе захады эканамічнага ўціску, каб беластокскую прамысловасць трымаць на нізкім якасным узроўні.

У Гродна ёсць вялікая тытуновая фабрыка. У даваенны час яна налічвала звыш тысячы рабочых і выпрацоўвала вышэйшыя гатункі папірос. Пры панаванні польскай дзяржаўнай манаполіі фабрыка значна скараціла сваю прадукцыю і перайшла на выпрацоўку адной махоркі. Яўрэйскіх рабочых звальнялі масамі. На вуліцах горада можна было сустрэць многа выкінутых з фабрыкі рабочых, якія працягвалі руку за міласцінай.

У Заходнюю Беларусь ішлі тавары з Польшчы. Ільготны чыгуначны тарыф даваў ім магчымасць лёгка канкурыраваць з мясцовымі вырабамі. Прамысловасць Заходняй Беларусі прышла ў заняпад. Адсюль вывозілася нават старое жалеза для металаапрацоўчых фабрык Польшчы. Вырабы з гэтага жалеза прадаваліся потым у Заходняй Беларусі. Вінакурныя заводы працавалі з няпоўнай нагрузкай, па некалькі дзён у тыдзень, а водачныя вырабы прывозіліся з Польшчы.

Усё сказанае дастаткова характарызуе каланіяльны гнёт, у якім панская Польшча на працягу 20 год трымала Заходнюю Беларусь.

Буржуазія Заходняй Беларусі прабавала вырашыць супярэчнасці паміж ёю і польскай буржуазіяй за кошт рабочых. Яна сістэматычна ўрэзвала іх галодны заработак. Беластокскія рабочыя за сваю працу атрымлівалі намнога менш тэкстыльшчыкаў Лодзі. Абураючыя антысанітарныя ўмовы на прадпрыемствах, адсутнасць элементарных мерапрыемстваў па ахове працы спрыялі развіццю прафесіянальных захворванняў, асабліва туберкулёза. Пад пагрозай звальнення рабочых прымушалі працаваць звыштэрмінова па некалькі гадзін у дзень без дадатковай аплаты.

Вось пісьмо аднаго рабочага:

> «Працую ў пекле. На заводзе можна працаваць толькі пры наяўнасці сухога надвор'я. У такія дні працуюць з 6 гадзін раніцы да 7 гадзін вечара. Каб пражыць на 3—4 злотых у тыдзень, трэба быць святым. Але і гэту жабрацкую зарплату выдаюць не адразу, а ў растэрміноўку. І не дзіва, што жонка з дзецьмі вымушана зімою адпраўляцца ў горад збіраць міласціну. Жывем усе пры заводзе. Але каб паглядзелі вы на гэтыя дзіры... Сабакі ў горадзе, мабыць, сядзяць у лепшых канурах. Гэтыя «салоны» не пакрыты дахам, і ноччу ў дажджлівае надвор'е рабочыя пасля цэлага дня работы маюць «прыемнасць» карыстацца ахалоджваючым душам. Яшчэ горш, калі па суседству знаходзяцца стайні і праз дзіры ў кватэры пранікае конскі гной».

Сельскую гаспадарку польскія паны давялі да нябачанага заняпаду. Як і сто год назад, землі Заходняй Беларусі трымалі ў сваіх руках буйныя польскія магнаты, латыфундыі якіх акружалі вузкія жабрацкія палоскі беларускіх сялян.

Ад памешчыцкай эксплаатацыі і нязноснага падатковага цяжару сялянскія гаспадаркі драбнелі. Калі ў 1921 годзе колькасць гаспадарак з зямельнай плошчай да 5 га складала ў Заходняй Беларусі 49,6 проц. усіх сялянскіх гаспадарак, то праз 10 год, у 1931 годзе, яна дашла да 57 проц. Але гэта—афіцыяльныя даныя польскай статыстыкі. У сапраўднасці гэты процант быў значна большым.

У XX стагоддзі ў Заходняй Беларусі адрадзілася сапраўднае прыгонніцтва. Адна польская газета пісала:

> «Жыццёвы ўзровень першага вызваленага ад прыгонніцтва пакалення быў вельмі нізкі. Яго становішча было вельмі дрэннае, але непараўнальна лепш сучаснага... Побач з карлікавымі гаспадаркамі існуюць някранутыя буйныя памешчыцкія гаспадаркі. Раёны, у якіх зямельная ўласнасць звыш 100 га складае 60 і больш працантаў усёй колькасці зямлі, не з'яўляюцца рэдкасцю, а правілам у аграрнай структуры Заходняй Беларусі. Тутэйшы селянін, вузкая палоска зямлі якога ўкліньваецца ў памешчыцкую зямлю, працягвае знаходзіцца ў поўнай залеж-

> насці ад памешчыка. Часцей за ўсё ў гэтага селяніна няма нічога, акрамя малога шматка неўрадлівай зямлі; за пасьбішчы і лугі ён павінен адпрацоўваць у памешчыка і быць ад яго залежным больш, чым у класічным перыядзе прыгонніцтва...
>
> На Усходніх Крэсах існуе феадальная залежнасць селяніна ад памешчыка, не гледзячы на тое, што часы прыгонніцтва даўным-даўно зніклі».

Гэта вымушан быў прызнаць нават польскі буржуазны друк.

Здзельшчына, натуральная аплата батракоў—усе формы прыгону былі ў наяўнасці.

Вось некаторыя, больш падрабязныя, даныя аб аграрнай структуры Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны:

У Заходняй Беларусі 11 тысяч гаспадарак мелі зямлі да $^1/_2$ га, 31 тысяча—ад $^1/_2$ да 2 га, 112 тысяч—ад 2 да 5 га і 103 тысячы—ад 10 да 20 га. Тры тысячы панскіх гаспадарак уладалі зямлёй звыш 100 га на гаспадарку. Панская зямля займала дзве трэці зямельнай плошчы Заходняй Беларусі.

У Заходняй Украіне колькасць карлікавых і дробных гаспадарак даходзіла да 85 проц. усіх гаспадарак; памешчыцкая зямля, не лічачы кулацкай, займала каля 60 проц. усёй плошчы. Тры тысячы польскіх паноў уладалі 2.568,4 тыс. га. Адзін памешчыцкі маёнтак у сярэднім меў больш 800 га.

У Львоўскім і Тарнопальскім ваяводствах памешчыцкія гаспадаркі, якія складалі 0,5—0,6 проц. агульнай колькасці сельскіх гаспадарак, сканцэнтравалі ў сваіх руках 46—47 проц. усёй зямельнай плошчы гэтых ваяводстваў.

Яшчэ Ленін указваў, што адзінай перавагай дробнай сялянскай гаспадаркі з'яўляецца «майстэрства галадаць». Гэта майстэрства добра вядома нашым адзінакроўным братам—сялянам Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі. У вёсках Заходняй Беларусі існавала 79 відаў падаткаў. Як і ў час прыгону, селянін карыстаўся самымі прымітыўнымі спосабамі апрацоўкі зямлі. Драўляная саха і барана прымяняліся часцей, чым жалезная барана і плуг. Селянін не мог купіць нават такіх простых прылад, як сякеру, малаток і т. п. Зямля знясільвалася без угнаення.

Заходняя Беларусь ператварылася ў краіну хранічных неўраджаяў і галадовак. Эпідэміі клалі ў магілу сотні тысяч людзей. Жывёла гінула без корму. Не дарма польскія публіцысты называлі Заходнюю Беларусь дном галечы ў капіталістычнай Еўропе.

Не гледзячы на жудасны зямельны голад, польскі ўрад каланізаваў Заходнюю Беларусь. Ён перасяляў, асабліва ў пагранічныя з СССР раёны, так званых «асаднікаў» з былых ваенных, якія павінны былі служыць акупантам моцнай апорай у барацьбе супроць беларускага народа. Асаднікам раздаваліся вялікія кавалкі зямлі. Да 1934 года 8 тысяч асаднікаў уладалі 145 тысячамі гектараў.

Адна польская газета ў мінулым годзе пісала:

> «У якім святле бачыць Польшчу селянін? Для беларускага селяніна Польшча—гэта памешчык, войт, секвестратар і паліцэйскі».

Польскі ўрад будаваў сваю дзяржаву на аснове прыгнечання чужых народаў, пазбаўлення іх нацыянальнага твару, поўнага апалячвання.

Украінскія і беларускія нацыянальныя школы былі разгромлены.

20 год назад у Заходняй Беларусі налічвалася 400 беларускіх школ, а ў гэтым годзе засталося 16 ніжэйшых і адна сярэдняя школа для беларусаў, дзе выкладанне вялося на польскай мове. Настаўніцкія семінарыі зусім закрыты. Разгромлены ўсе нацыянальныя культурныя арганізацыі.

За перыяд польскай акупацыі ў Заходняй Беларусі выдана ўсяго некалькі зборнікаў пяці-шасці паэтаў. Агульная колькасць беларускіх перыядычных выданняў пала з 71 у 1930 г. да 19 у 1934 г. Увесь тыраж беларускіх кніг у 1933 г. выразіўся круглай лічбай у 500 экземпляраў. За апошнія дзесяць год тройчы рабіліся спробы выдаць беларускі літаратурны журнал: «Родныя гоні» у 1927 г., «Нёман» у 1932 г. і «Колас» у 1935 г. Але ўсе яны канчаліся закрыццём журналаў пасля выхаду першых нумароў.

Рэдакцыя журала «Нёман» у сваім звароце да чытачоў дае сумны малюнак становішча беларускай літаратуры ў Заходняй Беларусі:

> «Журнал «Нёман» мы выдаем ускладчыну. Гэта адзіна магчымы спосаб беларускага выдавецтва. Бо паміж намі няма багатых людзей, якія змаглі-б самі выдаваць, а ўрад на беларускія выданні не дае нічога, не гледзячы на тое, што беларусы плацяць вялікія падаткі».

Польскія ўлады закрылі Таварыства беларускай школы і Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры, якія арганізавалі кампанію за беларускую школу. Яны закрылі нават адзіную беларускую газету «Беларуская крыніца»—орган беларускага кулацтва. Бібліятэкі ў беларускіх раёнах—вялікая рэдкасць.

Польскі ўрад з беспрыкладнай жорсткасцю асуджаў насельніцтва Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі на поўнае адзічанне. Міністр асветы Скульскі абяцаў, што «праз дзесяць год ва ўсёй Польшчы нават са свечкай нельга будзе знайсці ні аднаго беларуса».

Бяздарныя правіцелі Польшчы забыліся пра ўрокі гісторыі, нават такія блізкія, як лёс Аўстра-Венгерскай манархіі, якая разляцелася ўшчэнт пасля імперыялістычнай вайны. У Бельведэры дрэнна памяталі гісторыю і насіліся з сумазброднымі марамі аб «вялікай Польшчы ад мора да мора», аб граніцах 1772 года. Расказваюць, што помнік Пілсудскаму ў Варшаве паставілі так, што ён указваў на паўднёвы ўсход, г. зн. на Кіеў, што павінна было сімвалізаваць барацьбу за межы 1772 года. Паэт Маякоўскі ў свой час далікатна растлумачыў польскім панам, што гэты жэст павінен азначаць, адкуль ім трэба чакаць сваёй пагібелі.

Распрадаючы Польшчу па частках замежнаму капіталу, паны ўслужліва прапанавалі шпагу «Рэчы паспалітай» усім, хто толькі мог на яе пакваліцца.

Другой прычынай развалу польскай дзяржавы была яе аграрная палітыка. На жыцці сялян панскай Польшчы найлепш можна праілюстраваць геніяльнае ўказанне Леніна аб тым, што «...капітал не толькі не знішчыў задушанасці, эксплаатацыі, галечы мас, а наадварот, ён стварае гэтыя бядоты ў новым выглядзе і аднаўляе на «сучаснай» базе іх «старыя формы».

16 тысяч польскіх памешчыкаў трымалі ў сваіх руках 45 проц. усёй зямлі. 2 тысячы буйных паноў, якія мелі па тысячы га і больш, захвацілі $1/5$ усіх зямель Польшчы. Уладанні графа Замойскага прасціраліся на 5 паветаў. Князь Радзівіл меў у Палессі маёнтак «Давідгрудэк», які займаў 170 тысяч моргенаў (каля 104 тысяч га).

«Незалежнасць звонку,—падкрэслівалі Маркс і Энгельс,—неаддзяліма ад звяржэння арыстакратыі і ад аграрных рэформ унутры краіны». Маркс і Энгельс знаходзілі, напрыклад, што італьянская рэвалюцыя 1848 г. іменна таму пацярпела няўдачу, што занядбала інтарэсы італьянскіх сялян. Але гэтыя рэчы былі недаступны абмежаванаму розуму польскіх незадачлівых заправіл, у якіх даўно наступіла, выражаючыся словамі Маркса, разумовае асляпленне.

Калі даведзеныя да адчаю сяляне палілі памешчыцкія маёнткі, польскі ўрад загаварыў аб зямельнай рэформе, а ў гэты час карныя экспедыцыі па-зверску распраўляліся з сялянамі. Кроў цякла ручаямі. Па краіне насіўся кат Ярэма Вішневецкі з клічам: «Забівайце мужыка так, каб ён адчуваў, што паміpae».

Польскі ўрад у 1925 г. правёў аграрную «рэформу». У чым-жа яна заключалася? Па гэтай «рэформе» 2,5 млн. гектараў памешчыцкай зямлі падлягала парцэляцыі, г. зн. драбленню. Парцэляцыі павінны былі падвяргацца штогод да 200 тыс. гектараў. Буржуазна-памешчыцкі сейм не забыўся ахаваць інтарэсы сваіх гаспадароў: парцэляцыя павінна была праводзіцца на добраахвотных пачатках, па жаданню саміх памешчыкаў.

Такая рэформа была выгадна і буйным памешчыкам, якія нажываліся пры продажу парцэлярнай зямлі, і кулакам-хутаранам, якія мелі магчымасць пашырыць свае эксплаататарскія гаспадаркі. 70 проц. усёй праданай праз польскі дзяржаўны сельскагаспадарчы банк зямлі пайшло ў асноўным на пашырэнне кулацкіх гаспадарак.

Зямельная «рэформа» яшчэ больш узбагаціла польскіх памешчыкаў. Пачалася шалёная спекуляцыя. Цэны на зямлю падняліся да 6.600 злотых за гектар. Для параўнання варта ўспомніць, што ў царскай Расіі гектар зямлі каштаваў 200 руб.

Рост цэн на зямлю азначае рост рэнты, узрастанне памераў дані, збіраемай зямельнай арыстакратыяй з усяго грамадства, і сведчыць, перш за ўсё, аб павышэнні паразітычных прыбыткаў класа землеўладальнікаў. У той-жа час якасны стан зямлі, як сродку вытворчасці, і яе нетраў пад уплывам прагнага гаспадарання памешчыкаў і капіталістаў безупынна пагаршаецца.

Пасля «рэформы» агульная запазычанасць сялянства к 1935 году вырасла да 7 мільярдаў злотых.

Паасобныя бядняцкія і серадняцкія гаспадаркі набывалі невялікія кавалачкі зямлі, роўна столькі, колькі патрэбна для таго, каб не памерці, але не для таго, каб жыць.

Паводле даных перапісу 1931 года, у Польшчы налічвалася 1.400 тыс. батракоў і батрачак, стала працуючых у памешчыкаў і кулакоў. Акрамя таго, каля 1.300 тысяч чалавек вымушана было наймацца на часовую, выпадковую нізкааплачваемую работу. Батрацкія і бядняцкія гаспадаркі складалі 65 працантаў усіх гаспадарак Польшчы. «9 мільёнаў сялян Польшчы,—гаворыцца ў справаздачы польскага міністэрства,—з'яўляюцца «лішнімі», пазбаўленымі сродкаў да жыцця, не маючымі ніякіх перспектыў».

Падаткі душылі селяніна. У сям'і з 5 едакоў пры 3 гектарах зямлі пасля ўплаты падаткаў заставалася зярна на суму 74 злотых і 20 грошай, г. зн. па 20 грошай у дзень. Каробка запалак каштавала 8 грошай. Кіло тытуну каштавала 564 кілограмы жыта, 10 кіло солі каштавала 32 кілограмы жыта, 10 кіло мыла—135 кілограмаў жыта.

Падаткам абкладалася ўсё, што толькі можна было абкласці. Селянін не мог купіць запалак і рабіў самадзельную зажыгалку, але і тая

абкладалася падаткам. Трыманне сабакі на дварэ абкладалася асобным падаткам. Карова ацялілася—падатак. За абавязковую пабелку будынка—падатак і т. д. і т. п.

Памешчыкі і гандляры хлебам вывозілі зярно за граніцу. Каб не цярпець страты ад продажу на замежным рынку (польскае зярно цэніцца там дзешава), яны накладалі на сялян асобы падатак. З 1-га верасня 1938 года па 27 студзеня 1939 года з сялянства было сабрана гэтага падатку на 20 мільёнаў злотых. Не гледзячы на высокія падаткі, сялян прымушалі прадаваць сваё зярно па нізкіх цэнах і абавязкова скупшчыку—гандляру хлебам. Памешчыкам дзяржава выдавала вялікія сумы грошай у выглядзе субсідый для экспартавання зярна за граніцу, што складала 57 мільёнаў злотых у год, а падаткі з сялян складалі 55 мільёнаў. Выходзіць, што падаткі з сялян ішлі ў кішэню памешчыкаў. Селянін быў увесь у даўгу. Галоўным ліхвяром і спекулянтам быў польскі дзяржаўны сельскагаспадарчы банк, які даваў ссуду па 12 проц. месячных, г. зн. па 144 проц. гадавых. У выніку толькі 20 проц. маемасці належала сялянам, а 80 проц.—крэдыторам.

Энгельс у свой час пісаў:

> «Краіна, якая ўпарта захоўвала нерушымым феадальны лад грамадства,—такая краіна была асуджана на пагібель... Арыстакраты, бясспрэчна, загубілі Польшчу і загубілі яе канчаткова. Загубіўшы яе, яны сталі абвінавачваць у гэтым адзін другога і прадалі сябе і ўсю краіну іншакраінцам».

Трэцяй прычынай, што прывяла Польшчу да развалу, была прадажнасць польскага магнацтва, бяздарнасць і негрунтоўнасць яе кіраўнікоў.

Замежны капітал у Польшчы складаў 42,9 проц. Самае вялікае месца займаў французскі капітал—26,2 проц., затым амерыканскі—18,6 проц., бельгійскі—13,3 проц., германскі—13,3 проц., швейцарскі—8,5 проц., англійскі—5,4 проц. Увесь капітал цяжкай прамысловасці выражаўся ў суме 1.980,8 мільёна злотых, а на долю замежнага капітала прыпадала 1.110 мільёнаў.

Асноўныя ніці ўплыву французскага капітала ў Польшчы былі сканцэнтраваны ў канцэрне Шнейдэр-Крэзо. Гэты канцэрн кантраляваў да апошняга часу ўсе важнейшыя галіны польскай цяжкай прамысловасці. Пасля сусветнай вайны да яго адразу перайшоў рад ваенных, металургічных і іншых заводаў, якія раней належалі Германіі і Верхняй Сілезіі. Праз «Еўрапейскі індустрыяльны і фінансавы банк», аснаваны ў 1920 годзе, французскі капітал кіраваў радам польскіх прамысловых акцыянерных таварыстваў.

Германская пагроза адтаржэння заходніх правінцый Польшчы, асабліва Верхняй Сілезіі, дзе было сканцэнтравана тры чвэрці польскай цяжкай прамысловасці, прывяла да неабходнасці стварэння ў глыбіні Польшчы новай базы ваеннай прамысловасці. З 1937 г. пачалося ліхаманкавае будаўніцтва ваенных заводаў у цэнтральнай прамысловай акрузе, у трыкутніку Радам—Кельцы—Люблін («трыкутнік беззапаснасці»).

Адным з парадоксаў польскай рэчаіснасці быў актыўны ўдзел Германіі ў гэтым будаўніцтве. Не менш паловы прамысловага абсталявання для ваенных прадпрыемстваў цэнтральнай прамысловай акругі—германскага паходжання.

Англійскі капітал праявіў у Польшчы некаторую актыўнасць у галіне электрыфікацыі.

У сярэдзіне 1937 г. канферэнцыя кіраўнікоў «Цэнтральнага саюза польскай прамысловасці» («Левіяфан») вынесла рэзалюцыю з самай песімістычнай ацэнкай тэхнічнага становішча польскай прамысловасці. Рэзалюцыя канстатавала, што ў польскай прамысловасці адбываецца «падзенне вытворчага патэнцыяла ва ўсіх галінах, якое набывае асабліва трывожны характар у сыравіннай прамысловасці». Здабыча руды і нафты адставала ад узроўню 1913 года. Руду прыходзілася вывозіць са Швецыі.

Для забеспячэння сваім таварам збыту па высокіх манапольных цэнах картэлі шырока прымянілі кансервацыю многіх прадпрыемстваў, шчодра ўзнагароджваючы іх уладальнікаў кампенсацыямі «за прастой». У выніку яшчэ больш расло хранічнае беспрацоўе польскага пралетарыята. Беспрацоўных у Польшчы было звыш 2 мільёнаў чалавек.

Дэфіцыт па дзяржаўнаму бюджэту за пяць год палкоўніцкіх урадаў дасягнуў 1.140 мільёнаў злотых. Знешнія і ўнутраныя даўгі Польшчы ў 1938 г. складалі каля 5 мільярдаў злотых.

У сувязі з вялікім ростам эмісій пакрыццё грашовага звароту і кароткатэрміновых абавязацельстваў у I квартале 1939 г. не перавышала 30 проц. Цяжкае фінансавае становішча краіны прымусіла польскі дзяржаўны банк увесці ў сакавіку 1939 г. статут банка, які прадугледжваў выпуск банкнот на суму 1.200 мільёнаў злотых без залатога пакрыцця.

Хабарніцтва і казнакрадства расцвілі ў панскай Польшчы пышным цветам.

Характэрную гутарку з адным польскім сяржантам прыводзіць газета «Чырвоная звязда»:

«—Дзе-ж вашы танкі і самалёты?—пацікавіліся мы.

— Чорт іх ведае, дзе яны. З нас цягнулі кучу грошай на гэту справу, але да гэтага часу мы не бачылі хоць што-небудзь людскае. Відаць, нашы грошыкі пайшлі па другому прызначэнню, прама ў панскія кішэні.

На сэрцы сержанта накіпела, і ён спяшаўся выкажыць усё, што ведаў і прадумаў, усё, што хвалявала і мучыла яго...

«Калі пачалася германа-польская вайна»—гаворыць далей сержант,—«мне было сорамна, што я не змагаюся там, на фронце. Але хутка я ўбачыў, што глыбока памыляюся. Мне стала балюча і крыўдна, што я пайшоў у польскую армію. Я зразумеў, што ў нас няма радзімы, няма ўрада, які-б клапаціўся аб народзе, а ёсць кучка прахадзімцаў, прахвостаў, якія клапоцяцца толькі аб сваім дабры. Пакуль мы сяк-так стрымлівалі фронт, яны спакойна вывозілі за граніцу свае капіталы і ўцяклі самі. Ім якраз будзе на што жыць, а вось мы за што біліся?»

Так разлагаўся дзяржаўны апарат Польшчы.

Прайшло менш месяца, як пачалася вайна з Германіяй, і ад Польшчы застаўся, як гаварыў Маркс, адзін толькі сентыментальны ўспамін.

Бязмежнай нянавісцю адказвалі панскім «цывілізатарам» рабочы клас і працоўнае сялянства. Нават польскі друк не мог скрыць таго факта, што насельніцтва Заходняй Беларусі да глыбіні душы ненавідзіць крывавых прыгнятальнікаў беларускага народа. Адна польская газета не так даўно з трывогай пісала: «Вёска паддалася дэмакратычнаму руху. Яна з прагнасцю сочыць за палітыкай і за грамадскім

жыццём. Мінскае радыё гаворыць аб уладзе для мас, аб кнізе для мас, аб тэатры для мас, аб тэхніцы для мас і т. д., і гэта дзейнічае на нашага селяніна, які разумее добра мову Мінска і Масквы». У гэтым газета пілсудчыкаў не памылілася.

На кавалачках паперы з рук у рукі, з вёскі ў вёску, з аднаго канца ў другі тайком перадаваліся вершы, песні, у якіх ананімныя аўтары заклікалі беларускі народ Заходняй Беларусі да аб'яднання сваіх сіл, да барацьбы з акупантамі. Гэтыя песні распяваліся на рабоце ў полі. Гэтымі вершамі адказвалі дзеці ў школе паланізатару-настаўніку, які здзекваўся над беларускай мовай, над беларускімі дзецьмі. З гэтымі песнямі працоўныя Заходняй Беларусі дэманстравалі супроць улады акупантаў.

У вершы «Дзве зямлі» паэт расказвае аб горкім жыцці працоўных Заходняй Беларусі:

„Замест радасці—горкія слёзы,
Замест песняў вясёлых—жальба,
Замест школы—касцельная амбона,
Замест хлеба—трава-лебяда,
На адну вёску па два канфідэнты,
На дзве вёскі кат-паліцыянт,
На пяць вёсак зборшчык падаткаў
І на кожную гміну—турма".

У гэтым вершы аўтар заклікае народ аб'яднаць свае сілы для барацьбы супроць польскіх гвалтоўнікаў:

„Хочаш праўду шукаць,
Дык гарніся бліжэй да сваіх,
Да сваіх, што завуць серп і молат
Аб'яднацца ў брацкі саюз,
Каб паноў акупантаў прагнаць
І з Крэсаў Усходніх
Стварыць Беларусь".

Савецкая Беларусь, адроджаны, свабодны, шчаслівы беларускі народ, які пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна дасягнуў нябачаных поспехаў, услаўляецца ў шматлікіх песнях і вершах.

У адным цудоўным вершы паэт расказвае аб тым, як маці, праважаючы сына ў польскую армію, дае яму наказ—у выпадку вайны не страляць у чырвонаармейцаў.

„Стара маці выцірала слёзы:
Здалі у салдаты яе сына.
Абнімала сына, цалавала
І на вуха ціха гаварыла:
„Сыне, ты ідзеш да войска,
Захавай-жа мой наказ у сэрцы:
Не пушчай ніколі злое кулі
У брата нашага—чырвонага армейца".

У другім вершы паэт заклікае змагацца за свабодную Заходнюю Беларусь:

„Нам прыклад палалі советы,
Як скінуць буржуяў, паноў,
Як волю і шчасце здабыць для народу,
І мы той дарогай пэйдзём".

Народ верыў ў хуткую перамогу:

„Прыдзе час, і як Нёман вясной,
Разальецца помста народа,
Хвалі змыюць палацы паноў,
Заквітнее й на „Крэсах" свабода".

І гэтыя мары збыліся. Вось чаму з такім энтузіязмам і захапленнем сустракаў народ Заходняй Беларусі нашу слаўную Чырвоную Армію, выражаючы пачуцці гарачай удзячнасці, любві і адданасці вялікаму Сталіну за вызваленне ад польскага ярма.

На вуліцах гарадоў можна было наглядаць незабыўныя сцэны: працоўнае насельніцтва вітала чырвонаармейцаў са слязамі радасці.

Мясцовыя рабочыя і сяляне часта самі геройчна дапамагалі Чырвонай Арміі змагацца з панскім ахвосцем.

22 верасня пад моцным агнём праціўніка N-ская часць пераправілялася праз раку Нёман. Рабочы Станіславаў са сваёй жонкай дасталі лодкі і сталі перавозіць чырвонаармейцаў. Калі варожая куля паразіла жонку Станіслава, ён не пакінуў паста, пакуль не перавёз усіх чырвонаармейцаў. Арганізаваўшы групу рабочых, ён разам з байцамі Чырвонай Арміі пайшоў у наступленне і затым устанаўляў парадак у горадзе, вёў барацьбу з ворагамі народа.

Чатыры нашыя танкі, праследуючы ворага, выскачылі ўперад. У неглыбокай лагчыне яны наскочылі на калону польскай кавалерыі, якая прыгатавалася сустрэць танкі агнём. Карыстаючыся мінутным замяшаннем ворага, камандзір Зазімка выскачыў з машыны.

— Хто страляе ў нас,—крыкнуў ён,—той за памешчыкаў. Хто за свабоду беларускага народа—здавайце зброю.

У радах салдат раздаліся нястройныя воклічы, якія перайшлі ў «ура». Звыш двухсот кавалерыстаў абяззброілі сваіх афіцэраў і здаліся.

Усюды, куды толькі прыбывала Чырвоная Армія, насельніцтва сустракала чырвоных байцоў радасным прывітаннем:

— Няхай жыве Чырвоная Армія!

— Няхай жыве таварыш Сталін!

Нашы машыны засыпаліся кветкамі. Натоўпы змыкаліся, людзі працягвалі рукі ў байніцы, смяяліся і плакалі ад радасці. Машыны спыняліся.

Працоўныя горада Мінска паслалі байцам і камандзірам доблеснай Чырвонай Арміі Беларускага фронта прывітальнае пісьмо:

> «Вы зварачаеце да жыцця гэтых людзей, родных, любімых нашых братоў, за лёс якіх так балела заўсёды наша сэрца.
>
> Ведайце, дарагія, што вы выратоўваеце народ Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі ад пагібелі».

Заходняя Беларусь была калоніяй панскай Польшчы. Пад панскім ярмом яна зрабілася жабрацкай, галоднай і адсталай краінай. Але няма больш прыгнечанай Заходняй Беларусі, няма Усходніх Крэсаў. Ёсць адзіны свабодны беларускі народ, які ў брацкай сям'і народаў Савецкага Саюза куе сваё шчасце пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна.

---

**А. Власаў**

# Вызваленая зямля

Дваццаць год назад пры падтрымцы міжнароднай контррэвалюцыі польскія паны акупіравалі амаль палову ўсёй тэрыторыі этнаграфічнай Беларусі. Годы белапольскай акупацыі былі самымі жудаснымі ў жыцці нашых адзінакроўных братоў—беларусаў. Кучка драпежнікаў-памешчыкаў і капіталістаў беспакарана грабіла працоўныя масы, высмоктвала з іх апошнія сокі. Бяспраўе і здзекі над народам панавалі па ўсёй краіне. Нацыянальнае і соцыяльнае прыгнечанне, голад і галеча, беспрацоўе і жабрацтва мас дасягалі сваёй крайняй мяжы.

Працоўныя Заходняй Беларусі жылі пад страхам паліцэйскага бізуна і сваявольства, плакалі горкімі слязамі старыкі, жанчыны і дзеці. Яны не мелі права на жыццё. Лепшыя людзі, якія змагаліся за народ, гнаіліся ў турмах і канцлагерах.

Пабудаваная на прыгнечанні і рабунку нацыянальных меншасцей польская дзяржава аказалася нежыццездольнай і распалася, паказаўшы ўсю сваю безгрунтоўнасць. Народы Совецкага Саюза працягнулі руку дапамогі сваім адзінакроўным братам—беларусам і украінцам, якія знаходзіліся пад ярмом палітычнага, соцыяльнага і нацыянальнага ўціску. З бязмежнай радасцю і лікаваннем сустрэлі яны сваю вызваліцельніцу—доблесную Рабоча-Сялянскую Чырвоную Армію.

Народнае Сабранне Заходняй Беларусі, выражаючы волю народа, агласіла ўцвярджэнне совецкай улады на ўсёй тэрыторыі былой Заходняй Беларусі. Вызвалены народ пачаў новае жыццё ў брацкім саюзе адзінаццаці совецкіх соцыялістычных рэспублік.

Што прадстаўляла сабою Заходняя Беларусь?

Тэрыторыя Заходняй Беларусі дасягае 108 тысяч квадратных кілометраў і мае насельніцтва 4 мільёны 800 тысяч чалавек. Тэрыторыя БССР займае 126 тыс. кв. км. з насельніцтвам 5.567.976 чалавек.

Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка пасля аб'яднання з вызваленай канчаткова і назаўсёды ад панскіх здзекаў і ўціску Заходняй Беларуссю займае цяпер тэрыторыю ў 234 тысячы квадратных кілометраў з насельніцтвам звыш 10.367 тысяч чалавек. Па насельніцтву БССР больш, чым Швецыя, Нарвегія, Фінляндыя, Грэцыя, Венгрыя, Балгарыя, Партугалія, узятыя паасобку. БССР займае па насельніцтву трэцяе месца пасля РСФСР і УССР.

Насельніцтва Заходняй Беларусі складаецца з беларусаў (77 проц.), яўрэяў (12 проц.), палякаў (6 проц.), рускіх, літоўцаў і інш.

Уся тэрыторыя Заходняй Беларусі дзялілася на 4 ваяводствы (абласці): Навагрудскае, Віленскае, Беластокскае і Палескае. Кожнае ваяводства ў сваю чаргу дзялілася на паветы (раёны), а паветы—на гміны (валасці).

Заходняя Беларусь багата лясамі. У лясных яе нетрах ёсць закуткі, дзе не ступала нага чалавека. Да найбольшых лясных масіваў ад-

носяцца на поўначы: Аўгустоўскія лясы, Гродненская і Рудніцкая пушчы, у цэнтры: Налібоцкая пушча на правым беразе Нёмана, Ліпічанская пры вусці ракі Шары і Белавежская ў вярхоўях Нарава.

Лясныя пушчы багаты living рознастайнымі пародамі лісцяных і хвойных дрэў, рознай дзічынай. У Белавежскай пушчы захаваліся рэдкія на зямным шары зубры.

Амаль усе рэкі Заходняй Беларусі суднаходныя. Заходняя Дзвіна, Нёман, Заходні Буг і Прыпяць адыгрываюць вялікую ролю ў эканоміцы краіны. Дняпроўска-Бугская і Агінская водная сістэма дае магчымасць выхаду ў Чорнае і Балтыйскае моры. Па рэках і каналах штогод сплаўляліся дзесяткі тысяч кубаметраў лесу.

Зямныя нетры Заходняй Беларусі амаль не вывучаны. На Навагрудскім узвышшы знойдзены фасфарыты, у басейне Нёмана і Буга—цэлыя горы крэйды. На мясцовай балотнай жалезнай рудзе да вайны працаваў завод у Налібоцкай пушчы. Усюды здабываюцца высокаякасныя ганчарныя гліны. Сустракаюцца залежы бурага вугалю, магніта, глаўканітавых пяскоў—асновы шклянай прамысловасці.

Зусім не вывучаны мінеральныя крыніцы края. Пакуль шырока вядомы брома-ёдавыя крыніцы ў Друскеніках (па рацэ Нёману).

Правячыя кругі Польшчы наўмысля тармазілі развіццё прамысловых раёнаў Заходняй Беларусі. Усю прамысловасць яны сканцэнтравалі ў цэнтральнай і заходняй Польшчы, ператварыўшы Заходнюю Беларусь у сыравінную базу. Польскія купцы збывалі тут свае тавары па павышаных цэнах, а мясцовую сыравіну скуплялі за бясцэнак. Польская буржуазія ліквідавала амаль усе фабрыкі, нават даваеннага часу. У 1909 годзе ў Заходняй Беларусі было 9 фабрык, на кожнай з якіх працавала больш ста рабочых, а ў 1928 годзе такіх фабрык засталося ўсяго 2. За годы акупацыі колькасць прамысловых рабочых скарацілася на 40 проц.

Прамысловымі цэнтрамі Заходняй Беларусі з'яўляюцца: Беласток (тэкстыль), Гродна (табачная фабрыка), Пінск (запалкавая), Брэст-Літоўск (лясная і дрэваапрацоўчая).

Да сусветнай імперыялістычнай вайны ў **Беластоку** было каля 200 прадпрыемстваў, галоўным чынам тэкстыльных, два машынабудаўнічыя, некалькі скураных і мылаварных заводаў. Каланіяльная палітыка панскай Польшчы падарвала прамысловасць Беластока. Зараз у Беластоку 83 прамысловыя прадпрыемствы, з якіх да 50 тэкстыльных. Затым ідуць лесапільныя і скураныя заводы, табачная і папяровыя фабрыкі, машынабудаўнічы завод, харчовыя прадпрыемствы, 12 друкарань. З 105 тысяч жыхароў горада—40 тысяч рабочых.

Горад **Гродна** раскінуўся на левым і правым берагах Нёмана. Гэта—буйны чыгуначны вузел і прыстань. У горадзе каля 50 тысяч жыхароў, да 50 невялікіх прамысловых прадпрыемстваў: табачная фабрыка, вінакурныя і мылаварныя, цагляны і шкляны заводы, скураны і веласіпедны завод саматужнага тыпу. Непадалёк ад горада—у Мостах—фанерны завод і цэлулоідны камбінат. На паўночны ўсход ад горада знаходзіцца Гродненская пушча.

**Пінск** стаіць на рацэ Піне. Адсюль пачынаецца водны шлях уніз па Піне і Прыпяці ў Днепр да Кіева. Жыхароў 36 тысяч. Прамысловасць складаецца галоўным чынам з лесапільных і іншых дробных прадпрыемстваў. У горадзе ёсць запалкавая фабрыка, 3 фанерныя і некалькі лесапільных заводаў.

**Брэст-Літоўск**—буйнейшы транспартны вузел. Сюды вядуць чыгуначныя лініі з Масквы, Кіева, Варшавы і Вільны. Тут праходзіць

Дняпроўска-Бугская водная сістэма і многа важных шасейных дарог. Пры гаспадаранні польскіх паноў прамысловасць і гандаль рэзка скараціліся, закрылася буйная запалкавая і іншыя фабрыкі. Па перапісу 1931 года ў горадзе 48,4 тысячы жыхароў, з іх звыш 10 тысяч беспрацоўных.

Акрамя прамысловых цэнтраў, у Заходняй Беларусі ёсць гарады, якія налічваюць па некалькі прадпрыемстваў: Баранавічы, Ліда, Валкавыск, Слонім.

**Баранавічы**—павятовы горад, былы цэнтр умацаванага раёна—так званай «польскай лініі Мажыно». 2 лесазаводы, кансервны завод, чыгуначнае дэпо і інш. Буйны чыгуначны вузел. Насельніцтва—больш 35 тысяч.

**Ліда**—невялікі гарадок з насельніцтвам 27 тысяч. У горадзе ёсць шклозавод, на якім працуе 2 тысячы рабочых, фабрыка гумовых вырабаў з 1.000 рабочых, 2 чыгуналіцейныя заводы, 5 дрэваапрацоўчых, цвіковы і піваварны заводы. Усяго рабочых—6 тысяч.

**Валкавыск**—павятовы горад былой Гродненскай губерніі. Жыхароў—да 20 тысяч. На буйнейшым прадпрыемстве—цэментным заводзе працуе каля 2 тысяч рабочых. Ёсць таксама вінакурныя і цагляныя заводы, войлачныя і лямцавая фабрыкі, чыгуначнае дэпо.

**Слонім**—горад з 30 тысячамі жыхароў. Картонная і стужка-шоўкавыя фабрыкі, 4 лесапільныя заводы, млыны і рад дробных прадпрыемстваў.

На тэрыторыі Заходняй Беларусі ёсць некалькі дробных гарадоў, дзе пераважае саматужная вытворчасць.

Сельская гаспадарка—асноўная гаспадарчая база Заходняй Беларусі—вялася прымітыўна і давала самыя нізкія ўраджаі. У сялян—захудалая жывёла, драўляныя сохі і вельмі рэдка плуг. У вёсцы захаваліся феадальныя перажыткі. Наяўнасць дакапіталістычных форм эксплаатацыі сялянства (адпрацоўкі і інш.), панаванне дробнай сельскай гаспадаркі, падатковы цяжар і галеча прывялі к дэградацыі сельскай гаспадаркі і разарэнню сялянства.

Усе лепшыя землі належалі памешчыкам і асаднікам. Памешчыцкае землеробства займала каля паловы ўсёй зямлі. Аб размеркаванні зямлі гавораць наступныя лічбы: 11 тыс. гаспадарак мелі да 0,5 га; 31 тыс. гаспадарак—ад 0,5 да 2 га; 112 тысяч гаспадарак—ад 2 да 5 га; 103 тысячы гаспадарак—ад 10 да 20 га. І ў гэты час 3 тысячы панскіх гаспадарак уладалі больш чым $^{2}/_{3}$ усёй зямельнай плошчы Заходняй Беларусі.

У Палессі ў руках адной тысячы памешчыкаў знаходзілася $^{2}/_{3}$ усёй зямельнай плошчы, а ў 70 тысяч беларускіх сялян-беднякоў—менш $^{1}/_{16}$ часткі.

Беззямельнае і малазямельнае сялянства ў пошуках кавалка хлеба вымушана было арандаваць зямлю памешчыка, аддаючы яму да 70 проц. зняітага ўраджаю. У выніку дзікай эксплаатацыі, беззямелля, нізкіх ураджаяў і непасільных падаткаў сялянства Заходняй Беларусі танула ў гразі, задыхалася ў галечы. Селянін не меў грошай на мыла, на паліва. Усюды панавала цемра і голад.

Польскія паны свядома трымалі нацыянальныя меншасці ў невуцтве, праводзілі жорсткую палітыку прымусовага апалячвання. Амаль палова насельніцтва была непісьменнай. Ва ўсёй Заходняй Беларусі было толькі 16 беларускіх школ, а ва ўсёй Польшчы—толькі адна сярэдняя беларуская школа. У Палессі, дзе беларусаў больш 80 проц., польскія школы складалі 94 проц., а беларускія—

усяго 1 проц. усіх школ. У Новагрудскім ваяводстве, дзе палякі складаюць каля 25 проц. насельніцтва, польскіх школ налічвалася 93 проц., а беларускіх—толькі 2,5 проц. Беларуская мова і літаратура падвяргаліся дзікім праследаванням.

Бяздарныя правіцелі былой польскай дзяржавы—памешчыкі і буржуазія ў сваіх эксплаататарскіх мэтах трымалі народ у цемры і невуцтве, на становішчы каланіяльных рабоў.

Працоўныя Заходняй Беларусі назаўсёды вызвалены ад панавання памешчыкаў і капіталістаў. Народнае сабранне прыняла дэкларацыю аб канфіскацыі памешчыцкіх зямель, у якой гаворыцца:

> «Знішчэнне памешчыцкага землеўладання і ліквідацыя на гэтай аснове беззямелля і малазямелля найшырэйшых мас сялянства азначае, што сялянскаму голаду і жабрацтву, гэтым пастаянным спадарожнікам палітычнага і эканамічнага панавання памешчыкаў і капіталістаў, пакладзен канец».

Ніколі больш не будзе ступаць нага праклятых паноў па вызваленай зямлі. Не будзе больш эксплаататараў і паднявольных рабоў. Воляю вялікага Савецкага народа Чырвоная Армія сваім магутным ударам навекі знішчыла кайданы няволі, устанавіла мір, спакой і парадак на змучанай, багата палітай потам і крывёю зямлі. Ніхто і ніколі больш не разлучыць адзінакроўных братоў беларусаў. Народ Заходняй Беларусі ўступіў у брацкую сям'ю народаў Савецкага Саюза. Пачалася паласа новага жыцця пад чырвоным сцягам Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

**Н. Стэрнін**

# Выбары ў мясцовыя советы дэпутатаў працоўных

Вялікая краіна Советаў праводзіць выбарчую кампанію ў мясцовыя советы дэпутатаў на аснове самай дэмакратычнай у свеце Канстытуцыі.

24 снежня адбудуцца выбары ў мясцовыя советы дэпутатаў працоўных РСФСР, Украіны, Беларусі, Грузіі, Арменіі, Казахстана, Туркменістана і Кіргізіі, а 25 снежня—Азербайджана, Узбекістана і Таджыкістана.

Палітычнае значэнне і размах выбарчай кампаніі ў мясцовыя Советы выключна вялікі. Гэта выбарчая кампанія завяршае перабудову ўсіх органаў дзяржаўнай улады, зверху да нізу, на аснове вялікай Сталінскай Канстытуцыі, што яшчэ больш умацуе соцыялістычную дзяржаву рабочых і сялян.

На XVIII з'ездзе партыі таварыш Сталін указаў канкрэтныя задачы ў галіне далейшага ўмацавання соцыялістычнай дзяржавы:

> «Няўхільна праводзіць у жыццё нашу соцыялістычную Канстытуцыю, ажыццяўляць да канца дэмакратызацыю палітычнага жыцця краіны, умацоўваць маральна-палітычнае адзінства совецкага грамадства і дружаственнае супрацоўніцтва рабочых, сялян, інтэлігенцыі, умацоўваць усямерна дружбу народаў СССР, развіваць і культывіраваць совецкі патрыятызм».

Пад знакам выканання гэтых задач праходзіць цяперашняя выбарчая кампанія. Як і выбары дэпутатаў у Вярхоўны Совет СССР і Вярхоўныя Советы нацыянальных і аўтаномных рэспублік, яна прадэманструе перад усім светам несакрушальнае маральнае і палітычнае адзінства совецкага грамадства, непераможнасць сталінскага блока комуністаў і беспартыйных, непахісную волю нашага народа прыйсці да поўнай перамогі комунізма.

Советы рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў, узнікшыя яшчэ ў час першай рускай рэволюцыі 1905 года, выраслі і ўмацаваліся ў выніку перамогі Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі, у выніку звяржэння ўлады памешчыкаў і капіталістаў і заваёвы дыктатуры пролетарыята ў 1917 годзе.

У нашай краіне няма больш антаганістычных, варожых класаў. Эксплаататарскія класы ліквідаваны назаўсёды. Рабочы клас, сялянства, працоўная інтэлігенцыя, якія складаюць совецкае грамадства,

жывуць у брацкім супрацоўніцтве. Усе народы совецкай краіны ў цесным саюзе змагаюцца за поўны трыумф комунізма.

> «На аснове гэтай агульнасці,—гаворыць таварыш Сталін,— і разгарнуліся такія рухаючыя сілы, як маральна-палітычнае адзінства совецкага грамадства, дружба народаў СССР, совецкі патрыятызм. На гэтай-жа аснове ўзніклі Канстытуцыя СССР, прынятая ў лістападзе 1936 г., і поўная дэмакратызацыя выбараў у вярхоўныя органы краіны».

Советы дэпутатаў працоўных складаюць палітычную аснову СССР. «Уся ўлада ў СССР належыць працоўным горада і вёскі ў асобе Советаў дэпутатаў працоўных»,—так гласіць Сталінская Канстытуцыя.

Для ўсяго працоўнага і прыгнечанага чалавецтва Советы з'яўляюцца сімвалам будучага вызвалення ад капіталістычнага і нацыянальнага прыгнечання. Яркім пацверджаннем гэтаму быў той велізарнейшы ўздым, з якім мільёны працоўных Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі галасавалі за Советы, за Совецкую ўладу.

Мясцовыя Советы—абласныя, краявыя, раённыя, гарадскія і сельскія—заўсёды мелі вялікае значэнне ў дзяржаўнай сістэме совецкай улады. Яны ажыццяўляюць вялікія задачы соцыялістычнага будаўніцтва, выконваючы законы і ўказанні вярхоўных органаў Совецкай улады і з'яўляючыся адначасова мясцовымі органамі дзяржаўнай улады. Праз мясцовыя советы да кіраўніцтва дзяржавай прыцягваюцца найшырэйшыя масы рабочых, сялян, працоўнай інтэлігенцыі. Мільёны працоўных праходзяць у мясцовых советах ленінска-сталінскую школу кіраўніцтва совецкай дзяржавай.

Мясцовыя советы заўсёды былі блізкі працоўнаму насельніцтву, а пасля праведзенага за апошні час разбуйнення яны яшчэ цясней звяжуцца з масамі працоўных, змогуць яшчэ паўней задаволіць іх узрослыя патрабаванні.

Партыйным, комсамольскім і грамадскім арганізацыям у цяперашнюю выбарчую кампанію прадстаіць правесці велізарную арганізацыйную і агітацыйна-масавую работу. Трэба вылучыць новыя слаі партыйнага і беспартыйнага актыва, перадавых, адданых партыі Леніна—Сталіна, дастойных давер'я народа людзей кандыдатамі ў дэпутаты Советаў.

Калі ў Вярхоўны Совет СССР было абрана 1.143 дэпутаты, а ў Вярхоўныя Советы саюзных рэспублік—3.594, то ў мясцовыя советы па ўсяму Совецкаму Саюзу ў надыходзячую кампанію будзе выбрана звыш 1.300 тысяч дэпутатаў.

Калі па Беларускай ССР у мінулую выбарчую кампанію было выбрана 273 дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР, то ў абласныя, раённыя, гарадскія і сельскія советы Беларускай ССР прадстаіць выбраць, па папярэдніх даных, 40.957 дэпутатаў. У рабоце выбарчых камісій па БССР будзе ўдзельнічаць звыш 200 тысяч актывістаў. Гэтыя даныя сведчаць аб тым, што цяперашняя выбарчая кампанія па сваёй складанасці і па размаху арганізацыйнай і агітацыйна-масавай работы значна перавышае ранейшыя выбары. Патрабуецца велізарнейшая мабілізаванасць і напружанне ўсіх сіл партыйных, комсамольскіх і гарадскіх арганізацый, каб правесці яе на высокім палітычным узроўні.

У Беларускай ССР прадстаіць правесці выбары ў пяць абласных

Советаў (Мінскай, Віцебскай, Палескай, Магілеўскай і Гомельскай абласцей), 94 раённыя, 35 гарадскіх, 4 раённыя ў гарадах (3—у Мінску і 1—у Нова-Беліцы), 66 пасялковых і 1.430 сельскіх советаў.

Асаблівасцю цяперашняй выбарчай кампаніі з'яўляецца тое, што на адным і тым-жа выбарчым участку будуць падавацца бюлетэні па некалькіх выбарчых акругах і адначасова праводзіцца выбары ва ўсе мясцовыя Советы дэпутатаў працоўных. Напрыклад, выбаршчык, які пражывае ў Мінску, будзе адначасова галасаваць на сваім выбарчым участку за дэпутатаў у Совет свайго гарадскога раёна, у Мінскі гарадскі совет і ў абласны совет Мінскай області. Выбаршчык, які пражывае ў адным з сельсоветаў, к прыкладу, Ельскага раёна Палескай області, будзе галасаваць адначасова на сваім участку за дэпутатаў: у сельскі совет, у раённы совет Ельскага раёна і ў абласны совет Палескай області.

Такім чынам, кожны выбаршчык будзе адначасова галасаваць па трох бюлетэнях. Толькі ў дзесяці гарадах абласнога падпарадкавання, не маючых раённага дзялення: Бабруйску, Барысаве, Віцебску, Гомелі, Магілеве, Мазыры, Оршы, Полацку, Рэчыцы і Слуцку,—кожны выбаршчык будзе галасаваць па двух бюлетэнях: за дэпутатаў у гарадскі і абласны советы.

Адзінства выбарчай сістэмы—асаблівасць совецкага выбарчага закона. Выбары ў мясцовыя советы праводзяцца на тых-жа асновах, на якіх праводзіліся выбары ў Вярхоўны Совет СССР і ў Вярхоўныя Советы саюзных рэспублік.

На II сесіі Вярхоўнага Совета БССР было зацверджана «Палажэнне аб выбарах у абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя советы дэпутатаў працоўных БССР», якое забяспечвае кожнаму грамадзяніну поўную магчымасць ажыццявіць на справе палітычныя правы і свабоды, замацаваныя вялікай Сталінскай Канстытуцыяй. У гэтым і заключаецца важнае адрозненне совецкага выбарчага закона ад фальшывых выбарчых законаў буржуазна-дэмакратычных краін, накіраваных на ўсялякае ўшчымленне і абмежаванне палітычных правоў працоўных.

Ва ўсіх буржуазных дзяржавах уведзена дзяленне выбарчага права на актыўнае і пасіўнае, усемагчымыя нацыянальныя і расавыя абмежаванні, пазбаўленне выбарчых правоў жанчын, ваеннаслужачых, моладзі і вучняў, узросны, адукацыйны, маемасны і іншыя цэнзы. Выбары ў любой капіталістычнай краіне заўсёды праходзяць у абстаноўцы класавай варожасці, у абстаноўцы націску на выбаршчыкаў з боку пануючых буржуазных класаў.

Характарызуючы асаблівасці буржуазнай дэмакратыі, Ленін пісаў:

> «... Гэты дэмакратызм заўсёды сціснут цеснымі рамкамі капіталістычнай эксплуатацыі і заўсёды застаецца таму, па сутнасці, дэмакратызмам для меншасці, толькі для маемасных класаў, толькі для багатых» *).

Совецкі выбарчы закон забяспечвае правядзенне выбараў на аснове ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні.

> «Нашы выбары з'яўляюцца адзінымі сапраўды свабоднымі і сапраўды дэмакратычнымі ва ўсім свеце» **(Сталін).**

---

*) **Ленін**, т. XXI, стр. 429.

Велізарнае значэнне для пастаяннай сувязі дэпутата са сваімі выбаршчыкамі мае той прынцып нашай выбарчай сістэмы, па якому ад кожнай выбарчай акругі пасылаецца ў Совет адзін дэпутат. Гэта забяспечвае сапраўдную падсправаздачнасць дэпутатаў—выбраннікаў працоўнага народа—перад сваімі выбаршчыкамі, ажыццяўленне імі ў сваёй практычнай рабоце наказа выбаршчыкаў, цесную сувязь дэпутатаў з насельніцтвам.

Важнейшай задачай партыйных, комсамольскіх і грамадскіх арганізацый у выбарчай кампаніі з'яўляецца вылучэнне кандыдатамі ў дэпутаты советаў людзей, бязмежна адданых партыі Леніна—Сталіна, вялікай справе комунізма, моцна звязаных з народам.

Мільёны працоўных будуць удзельнічаць у вывучэнні і абмеркаванні кандыдатаў у дэпутаты Советаў. Права выстаўляць кандыдатаў у Советы маюць комуністычныя партыйныя арганізацыі, прафесіянальныя саюзы, кааператывы, арганізацыі моладзі, культурныя таварыствы і іншыя грамадскія арганізацыі, роўна як і агульныя сходы рабочых і служачых па прадпрыемствах і ўстановах, агульныя сходы сялян па калгасах, рабочых і служачых—па соўгасах, чырвонаармейцаў—па воінскіх часцях. Гэта права забяспечвае кожнаму працоўнаму поўную магчымасць прымаць актыўны ўдзел у вывучэнні і падборы кандыдатаў. Яно забяспечвае сапраўды дэмакратычны характар выбараў, роўнага якому няма і не можа быць ні ў адной буржуазнай краіне.

> «Бывае, што той ці іншы мясцовы орган улады не ўмее задаволіць тыя ці іншыя з featnastaйных і ўсё ўзрастаючых патрэб горада і вёскі. Пабудаваў ты ці не пабудаваў добрую школу? Ці палепшыў ты жыццёвыя ўмовы? Ці не бюракрат ты? Ці дапамог ты зрабіць нашу працу больш эфектыўнай, наша жыццё больш культурным? Такія будуць крытэрыі, з якімі мільёны выбаршчыкаў будуць падыходзіць да кандыдатаў, адкідаючы нягодных, выкрэсліваючы іх са спіскаў, вылучаючы лепшых і выстаўляючы іх кандыдатуры. Так, выбарчая барацьба будзе ажыўленай, яна будзе працякаць вакол мноства вастрэйшых пытанняў—галоўным чынам, пытанняў практычных, якія маюць першаступеннае значэнне для народа». **(Сталін)**.

Партыйныя арганізацыі павінны ўзначаліць крытыку недахопаў работы Советаў, накіраваць яе на далейшае ўмацаванне іх сувязі з масамі, на далейшы ўздым усіх галін нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

За годы сталінскіх пяцігодак у барацьбе за ўмацаванне соцыялістычнай дзяржавы, у барацьбе за індустрыялізацыю і калектывізацыю, у барацьбе з ворагамі народа вырас выдатны партыйны і беспартыйны актыў, выраслі новыя людзі, маладыя дзяржаўныя дзеячы ленінска-сталінскага тыпу.

Партыя большэвікоў і ў цяперашняй выбарчай кампаніі ідзе ў блоку, у саюзе з беспартыйнымі рабочымі, сялянамі, совецкай інтэлігенцыяй. Сталінскі блок комуністаў і беспартыйных забяспечыць і на гэтых выбарах перамогу, згуртаваўшы ўвесь совецкі народ пад вялікім непераможным сцягам Леніна—Сталіна.

Зараз партыйныя арганізацыі разгортваюць вялікую палітычную і агітацыйна-масавую растлумачальную работу. Мільёны выбаршчыкаў вывучаюць Сталінскую Канстытуцыю, совецкі Выбарчы закон, ра-

шэнні XVIII з'езда партыі, знаёмяцца з поспехамі соцыялістычнага будаўніцтва і міжнароднай палітыкай СССР.

Размах і якасць палітычнай і агітацыйна-масавай работы павінны зараз нязмерна вырасці. Да актыўнага ўдзелу ў выбарчай кампаніі неабходна прыцягнуць як комсамольскія, профсаюзныя, грамадскія арганізацыі, так і вырасшы беспартыйны актыў. Комсамольскія арганізацыі, актыўна ўдзельнічаючы ў выбарчай кампаніі, ідэйна і арганізацыйна вырастуць і апраўдаюць ролю комсамола, як баявога памочніка партыі Леніна—Сталіна. Настаўнікі, урачы, аграномы, зоатэхнікі, старшыні і брыгадзіры калгасаў, стаханаўцы соцыялістычнага земляробства—уся гэта выдатная армія адданых партыі беспартыйных актывістаў пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый павінны прыняць актыўны ўдзел ва ўсёй арганізацыйнай і агітацыйна-масавай рабоце, звязанай з выбарамі. Трэба смялей і шырэй уцягваць у гэту работу працоўную інтэлігенцыю і стаханаўцаў соцыялістычнага земляробства, падтрымліваць і развіваць іх ініцыятыву.

Цэнтрам агітацыйна-масавай работы, як і на мінулых выбарах, з'яўляецца выбарчы ўчастак. Для таго, каб жывое слова большэвіцкай агітацыі дайшло да кожнага выбаршчыка, неабходна шырока выкарыстаць усе сродкі і формы яе: друк і радыё, лекцыі і даклады, бяседы і чытку газет, і т. д. Агітацыйна-растлумачальную работу трэба разгортваць не толькі на прадпрыемствах, ва ўстановах, на агульных сходах калгаснікаў, але і ў інтэрнатах, на кватэрах рабочых і служачых, у хатах калгаснікаў.

Сіла нашай агітацыі—у агульнасці інтарэсаў партыі і народа, у праўдзівасці большэвіцкага слова.

> «Наша партыя,—гаварыў тав. Кагановіч,—апраўдала давер'е працоўных мас на працягу ўсёй сваёй гісторыі, у нашай партыі слова ніколі не разыходзіцца са справай—гэта галоўнае».

Мы жывем у дні велізарнейшых гістарычных падзей, буйнейшых перамог совецкай мірнай палітыкі і соцыялістычнага будаўніцтва. Вызваленне ад капіталістычнага рабства 13 мільёнаў нашых адзінакроўных братоў, далучэнне да Совецкага Саюза Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі, пакты аб узаемадапамозе з прыбалтыйскімі дзяржавамі, узмацненне міжнароднай вагі Совецкага Саюза, імперыялістычная вайна паміж англа-французскім блокам і Германіяй—усе гэтыя буйнейшыя міжнародныя падзеі выклікаюць жывейшы інтарэс сярод шырокіх мас. Працоўныя Совецкай Беларусі хочуць ведаць, як жылі нашы браты украінцы і беларусы пад гнётам польскіх памешчыкаў і капіталістаў, як зараз ствараецца там новае, свабоднае і радаснае жыццё. На ўсе гэтыя запытанні насельніцтва павінна атрымаць поўны і вычарпальны адказ у жывым слове большэвіцкай агітацыі.

Грандыёзны перамогі соцыялізма ў нашай краіне, заваяваныя пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна. Кожны працоўны, кожны выбаршчык павінен добра ўсвядоміць значэнне пройдзенага краінай вялікага шляху соцыялістычных перамог і ясна ўяўляць сабе перспектывы нашага далейшага руху ўперад да комунізма, з вычарпальнай паўнатою акрэсленыя ў дакладзе тав. Сталіна на XVIII з'ездзе партыі.

Уся агітацыйна-масавая работа ў выбарчую кампанію разгортваецца пад лозунгам правядзення ў жыццё гістарычных рашэн-

няў XVIII з'езда партыі, выканання задач, пастаўленых у дакладзе таварышом Сталіным. Вакол гэтага лозунга неабходна шырока мабілізаваць актыўнасць мас рабочых, калгаснікаў, працоўнай інтэлігенцыі для далейшага ўмацавання нашай соцыялістычнай дзяржавы, для далейшага росту гаспадаркі, культуры, абароннай магутнасці Совецкага Саюза, для далейшага згуртавання шматмільённага совецкага народа пад вялікім непераможным сцягам Леніна—Сталіна.

Вялікую ўвагу трэба ўдзяліць азнаямленню працоўных з канкрэтнымі дасягненнямі ў рабоце мясцовых советаў. Для гэтага кожны агітатар павінен добра ведаць, якія дасягненні мае яго горад, раён, калгас у галіне гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, народнай асветы, аховы здароўя, разгортвання гандлю і т. д. У даступнай і яркай форме трэба расказаць выбаршчыкам аб узорах стаханаўскай працы ў нашай прамысловасці і сельскай гаспадарцы, аб новых школах, бальніцах, клубах, жыллёвых дамах, аб рабоце і пашырэнні нашых прамысловых прадпрыемстваў, машына-трактарных станцый, аграўчасткаў, ветпунктаў і т. д. Расказаць, як у нас растуць людзі, як няўхільна павышаецца матэрыяльны і культурны ўзровень працоўных.

Бальшэвіцкая агітацыя, падмацаваная пераканаўчымі прыкладамі з жыцця данага горада, раёна, сельсовета, калгаса, мабілізуе працоўныя масы на бальшэвіцкае выкананне задач гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, выкліча новы вытворчы ўздым.

У правядзенні выбараў побач з паказам дасягненняў трэба забяспечыць шырокую крытыку недахопаў работы мясцовых советаў і канкрэтныя прапановы для далейшага палепшання работы Советаў і ўмацавання іх сувязей з масамі. Пры гэтым трэба ўмець адрозніваць рэзкую бальшэвіцкую крытыку ад спроб варожых элементаў ашальмаваць і дыскрэдытаваць выстаўленых кандыдатаў. Таму агітатары павінны добра ведаць біяграфію, палітычную і вытворчую дзейнасць выстаўленага кандыдата і разам з тым абстаноўку, у якой яны праводзяць агітацыйна-растлумачальную работу.

Кандыдатамі сталінскага блока комуністаў і беспартыйных могуць быць толькі людзі, бязмежна і да канца адданыя партыі Леніна—Сталіна, даказаўшыя гэту адданасць на справе, цесна звязаныя з масамі. Толькі лепшыя людзі з асяроддзя рабочых, калгаснікаў, працоўнай інтэлігенцыі, якія беззаветнай барацьбой за справу Леніна—Сталіна апраўдваюць давер'е совецкага народа, могуць быць вылучаны кандыдатамі ў дэпутаты мясцовых Советаў, як дастойныя выбраннікі совецкага народа.

Агітацыйна-масавай работай мы павінны забяспечыць пагалоўны ўдзел выбаршчыкаў у галасаванні за кандыдатаў сталінскага блока комуністаў і беспартыйных, каб у мясцовыя советы прайшлі лепшыя людзі, беззаветна адданыя радзіме і партыі Леніна—Сталіна, здольныя апраўдаць на практычнай рабоце давер'е народа.

Выбары ў мясцовыя советы яшчэ больш умацуюць маральна-палітычнае адзінства совецкага грамадства, яшчэ вышэй узнімуць палітычную і вытворчую актыўнасць рабочых, калгаснікаў, працоўнай інтэлігенцыі, яшчэ шчыльней згуртуюць увесь наш народ вакол бальшэвіцкай партыі, вакол нашага вялікага настаўніка і правадыра таварыша Сталіна.

## КАНСУЛЬТАЦЫІ

# Большэвікі Палескай арганізацыі ў Кастрычніцкія дні 1917 года

У барацьбе за заваёву ўлады Советаў у 1917 г. Палеская арганізацыя большэвікоў на чале з адным з лепшых саратнікаў Леніна і Сталіна—Лазарам Майсеевічам Кагановічам—упісала яркую старонку ў гісторыю барацьбы большэвікоў Беларусі за ўладу Советаў, за ажыццяўленне ленінска-сталінскай стратэгіі і тактыкі пралетарскай рэволюцыі.

10 кастрычніка 1917 г. адбылося гістарычнае пасяджэнне ЦК большэвіцкай партыі, на якім было вырашана ў бліжэйшы час пачаць узброенае паўстанне. Цэнтральны Камітэт партыі «разаслаў упаўнаважаных у Данбас, на Урал, у Гельсінгфорс, Кранштат, на паўднёва-заходні фронт і т. д. для арганізацыі паўстання на месцах. Таварышы Варашылаў, Молатаў, Дзержынскі, Орджанікідзе, Кіраў, Кагановіч, Куйбышэў, Фрунзе, Яраслаўскі і іншыя атрымалі спецыяльныя заданні партыі па кіраўніцтву паўстаннем на месцах» *).

Кіруючыся ленінска-сталінскім планам узброенага паўстання і дырэктывамі ЦК, тав. Кагановіч безадкладна прыняў усе меры к таму, каб прывесці ў мабілізацыйную гатоўнасць Палескую арганізацыю большэвікоў і рэволюцыйныя сілы гомельскага гарнізона для аказання дапамогі паўстанню ў Петраградзе.

Кастрычніцкае ўзброенае паўстанне ў Петраградзе грозным рэхам пракацілася па ўсёй краіне—сярод рабочых, салдацкіх і бядняцкіх мас вёскі.

Першыя весткі аб узброеным паўстанні ў Петраградзе, аб арышце Часовага ўрада, аб бегстве Керэнскага былі атрыманы ў Гомелі 26 кастрычніка.

Палеская арганізацыя большэвікоў безадкладна мабілізавала ўсе свае сілы. На заводах і фабрыках, у майстэрнях і ва ўсіх часцях гарнізона праведзены былі многалюдныя сходы і мітынгі.

З вялікай радасцю і энтузіязмам сустрэлі рабочыя і салдаты вестку аб перамозе пролетарскай рэволюцыі. Масы ўсюды горача віталі піцерскіх пролетарыяў, выказваючы баявую рэволюцыйную гатоўнасць неадкладна выступіць для аказання актыўнай падтрымкі паўстання ў Петраградзе і ўзброенай аховы Совецкай улады ад контррэволюцыі.

Рэволюцыйныя часці гарнізона былі прыведзены ў поўную баявую гатоўнасць. Палеская арганізацыя заклікала рабочых стаць у

---

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 195.

рады рэвалюцыйнай арміі—Чырвонай рабочай гвардыі. І ў гэты-ж дзень, 26 кастрычніка, сіламі большэвікоў былі арганізаваны атрады чырвонагвардзейцаў (каля 500 чалавек) з членаў партыі і спачуваючых рабочых. Атрады былі ўзброены вінтоўкамі, рэвальверамі і кулямётамі, захопленымі рэвалюцыйным парадкам на складах аружэйнай базы Заходняга фронта.

У гэтыя рашаючыя для рэвалюцыі дні, калі Палескі камітэт большэвікоў спешна мабілізаваў сілы для ўзброенай падтрымкі рэвалюцыйнага Петраграда і ўстанаўлення Совецкай улады ў Гомелі, соцыял-здраднікі (меншавікі, эсэры, бундаўцы), якія тут знаходзіліся, выступілі супроць узброенага паўстання петраградскага пралетарыята. Не адважваючыся адкрыта выступіць у масах, яны акапаліся ў гарадской думе і земскай управе, адкуль выносілі траскучыя рэзалюцыі і адозвы аб падтрымцы скінутага контррэвалюцыйнага ўрада Керэнскага.

Разам з контррэвалюцыйным генералітэтам Стаўкі вярхоўнага галоўнакамандуючага і спецыяльна прыбыўшымі ў Магілеў Чэрновым, Аўксенцьевым, Гоцам і іншымі лідэрамі соцыял-здраднікаў яны прымалі ўсе захады к таму, каб ізаліраваць Петраград ад усёй Расіі і такім чынам разграміць пролетарскую рэвалюцыю.

Контррэвалюцыйная Стаўка ў перадсмяротных сударгах бамбардыравала ўсе фронты грознымі тэлеграмамі, патрабуючы тэрмінова перакінуць эшалоны войск на дапамогу Керэнскаму і Краснову ў іх контррэвалюцыйным паходзе супроць рэвалюцыі.

На працягу некалькіх дзён большэвіцкай арганізацыі прыходзілася дзейнічаць у атмасферы правакацыйных чутак і вымыслаў, якія распаўсюджвала контррэвалюцыйная Стаўка і гомельская меншавіцка-бундаўская «Аб'яднанка».

Палеская арганізацыя большэвікоў, кіруемая Л. М. Кагановічам, не замяшалася ў гэтай вельмі складанай і цяжкай абстаноўцы і яшчэ з большай энергіяй згуртоўвала сілы для барацьбы з контррэвалюцыяй.

28 кастрычніка па ініцыятыве большэвікоў быў склікан экстранны сход Гомельскага совета, які павінен быў выказаць свае адносіны да Кастрычніцкага соцыялістычнага перавароту і да перамогі Совецкай улады. Гэты шматлікі сход праходзіў у надзвычай напружанай абстаноўцы, ва ўмовах бязлітаснай барацьбы з соцыял-здраднікамі, якія ў контррэвалюцыйных мэтах распаўсюджвалі розныя правакацыйныя чуткі. Яны агласілі на сходзе «свежую» тэлеграму з Магілева, у якой хлусліва паведамлялася аб заняцці Петраграда войскамі Краснова, аб бегстве Леніна і арышце Совецкага ўрада. Аднак, надзеі ворагаў не апраўдаліся. Пераважнай большасцю галасоў была прынята прапанаваная фракцыяй большэвікоў рэзалюцыя, якая вітала Кастрычніцкую соцыялістычную рэвалюцыю і ад імя гомельскіх рабочых і салдат абяцала актыўна падтрымаць і абараняць Совецкі ўрад.

На гэтым сходзе тав. Кагановіч у страсным выступленні выкрыў і разбіў каварныя манеўры соцыял-здраднікаў з лагера меншавіцка-бундаўскай «Аб'яднанкі», іх подлую варожую палітыку, якую яны, падобна сваім гаспадарам Радзянка, Мілюкову і К°, праводзілі ў надзеі звергнуць уладу Советаў і перадаць яе буржуазіі і памешчыкам.

Лазар Майсеевіч даў рэзкі адпор прапанове лідэраў «Аб'яднанкі» стварыць «Камітэт выратавання радзімы і рэвалюцыі», што на самай справе азначала выратаванне контррэвалюцыі. Сваім выступлен-

нем Лазар Майсеевіч стварыў рашучы пералом у настроі пераважнай большасці прысутных на сходзе. Прапанова меншавікоў праваліпася. На гэтым сходзе быў створан «Камітэт рэвалюцыйнай абароны», у якім большасць належала большэвікам.

Выкарыстоўваючы «Камітэт рэвалюцыйнай абароны», большэвікі разам з тым дзейнічалі самастойна. Палескі камітэт неадкладна паслаў на тэлеграф сваіх упаўнаважаных, якія ўстанавілі там строгі кантроль. У Петраград, Маскву, Бранск і іншыя гарады большэвікі паслалі сваіх упаўнаважаных для рэгулярнай узаемнай інфармацыі і сувязі. Была ўведзена цэнзура на буржуазныя газеты. У самым Гомелі і яго прадмесці Нова-Беліцы выстаўлены большэвіцкія ўзмоцненыя караулы і заставы. З першых-жа дзён рэвалюцыі былі арыштаваны барон Нольке, яго сын і іншыя вядомыя контррэвалюцыянеры.

Кіраўніцтва Палескай арганізацыі на чале з Л. М. Кагановічам добра ўлічвала ваенна-стратэгічнае значэнне Гомеля ў Кастрычніцкім паўстанні. Гэта быў асабліва важны чыгуначны вузел, які звязваў заходні і паўднёва-заходні фронты з Петраградам і Масквой. Таму галоўная ўвага была ўдзелена кантролю над рухам воінскіх эшалонаў. Сюды былі кінуты ўсе сілы, усё майстэрства большэвіцкай арганізацыі, прапаганды і агітацыі.

З першых-жа дзён Кастрычніка контррэвалюцыйная Стаўка ў Магілеве асабліва старалася аўладаць Гомелем. Яна хацела выкарыстаць гэты буйнейшы чыгуначны вузел для беспераШкоднай перакідкі з фронтаў воінскіх часцей для падаўлення рэвалюцыі ў Петраградзе і Маскве. Сам генерал Духонін у перагаворах па прамому праваду з генералам Балуевым 29 кастрычніка ўказаў яму: «Ці дастаткова вамі забяспечаны чыгуначныя вузлы Орша—Гомель—Жлобін? Яны маюць для нас вялікае значэнне. Тут павінны быць моцныя часці, калі можна—ударныя, кулямётныя сотні».

Яшчэ 24 кастрычніка магілеўскі губернскі камісар Часовага ўрада правы эсэр Пеўзнер звярнуўся да «Снабзапа дзеючай арміі» з наступнай тэлеграмай: «Вашай 4094 паведамлена аб пасылцы казакаў у Гомель, Нова-Беліцу, Рагачоў. Да гэтага часу іх няма. З прычыны надзвычайнай патрэбнасці ў іх просьба паскорыць камандзіраванне. Прашу адказу. (3059 Ф. МК.)».

Ваенна-стратэгічная задача Палескай арганізацыі ў Кастрычніцкія дні заключалася ў тым, каб мабілізаваць усе сілы на аўладанне Гомельскім, Аршанскім і Жлобінскім чыгуначнымі вузламі і папярэдзіць магчымасць перакідкі контррэвалюцыйных частей з фронтаў на Петраград і Маскву. І з гэтай задачай яна бліскуча справілася.

На гомельскі вузел, у дэпо і бліжэйшыя суседнія станцыі Палеская арганізацыя паслала сваіх упаўнаважаных, чырвонагвардзейскія атрады і большэвіцкіх агітатараў з гомельскіх чыгуначных майстэрань, з завода «ВОПС», з трэцяга і чацвертага карэнных паркаў.

Рабочыя дэпо, машыністы, кандуктары і іншыя чыгуначнікі, зразумеўшы контррэвалюцыйную сутнасць ультыматума «Викжеля», хутка ўспрынялі большэвіцкую агітацыю і па ўказаннях упаўнаважаных Палескага камітэта ўсямерна затрымлівалі воінскія часці, асабліва казачыя, у іх руху на Петраград і Маскву.

Сярод затрымаўшыхся эшалонаў Палескі камітэт разгарнуў вялікую агітацыйную работу, каб адарваць салдат ад іх контррэвалюцыйнага камандавання і павесці за сабой. Праўдзівае і яснае большэвіцкае слова адкрывала ашуканай масе салдат і казакаў вочы на

сутнасць Кастрычніцкага перавароту, ускрывала контррэволюцыйныя мэты камандавання.

Салдацкія і казачыя часці не толькі адмаўляліся ехаць у Петраград на падаўленне рэволюцыі, але часта самі распраўляліся са сваімі афіцэрамі і далучаліся да рэволюцыйных рабочых і салдат гарнізона для актыўнай абароны пролетарскай рэволюцыі. Сам Духонін вымушан быў прызнаць у гутарцы з генералам Балуевым, што «цягнікі выходзяць закіданымі большэвіцкімі газетамі і праклamацыямі... У некаторых месцах пад уплывам большэвіцкай агітацыі, якая вядзецца з незвычайнай энергіяй, адбываюцца большэвіцкія... паўстанні, бо маса верыць большэвіцкім лозунгам» *).

Такім чынам планы і разлікі контррэволюцыйнай Стаўкі пацярпелі крах. Ауладаць чыгуначнымі вузламі ёй не ўдалося. Грозныя загады аб перакідцы войск на дапамогу Керэнскаму і Краснову разбіваліся аб сілу большэвіцкай агітацыі і арганізацыі.

Неўзабаве стварылася непасрэдная пагроза самому штабу контррэволюцыі—Стаўцы. 29 кастрычніка ноччу генерал Духонін у сакрэтнай тэлеграме глаўкому паўднёва-заходняга фронта вымушан быў прасіць тэрмінова выслаць у Магілеў для аховы Стаўкі першы ўдарны полк.

У той-жа дзень тав. Кагановіч паведаміў ЦК партыі:

> «Кантроль над прасоўваннем вайсковых эшалонаў нам удалося ўстанавіць, і ніякія эшалоны на Петраград і Маскву намі не прапускаюцца. Настрой гарнізона акрэслена ў карысць актыўнай падтрымкі Петраградскага Совета Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў» **).

ЦК большэвікоў вітаў поспехі Палескай арганізацыі ў сваім адказе ад 7 кастрычніка:

> «Пісьмо Ваша атрымалі і ад душы радуемся як Вашым поспехам, так і таму бадзёраму духу, якім поўна Ваша пісьмо... Чакаем новых вестак ад Вас» ***).

Палеская арганізацыя большэвікоў на чале з Л. М. Кагановічам бліскуча выканала сваю адказную ролю перад пролетарскай рэволюцыяй. Ні адзін воінскі эшалон, ні адна казачая часць не прайшлі на чырвоны Піцер.

30 кастрычніка ў Гомелі былі атрыманы падрабязныя весткі аб Кастрычніцкім перавароце ў Петраградзе, аб рашэннях 2-га з'езда Советаў, аб падзеях у Маскве і т. д. У гэты-ж дзень прышло паведамленне аб перамозе піцерскіх рэволюцыйных рабочых, матросаў і салдат над войскамі генерала Краснова і аб арышце яго.

З вялікім уздымам і рэволюцыйным энтузіязмам сустрэлі рабочыя Гомеля і салдацкія масы гарнізона гэтыя радасныя весткі.

У той-жа дзень, 30 кастрычніка, было склікана ўрачыстае пасяджэнне Совета Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў сумесна з павятовым Выканкомам Совета сялянскіх дэпутатаў. Пасяджэнне было многалюдным і праходзіла з вялікім рэволюцыйным уздымам.

Соцыял-здраднікі і тут праявілі сябе. Яны выступілі супроць рашэнняў 2-га з'езда Советаў, паклёпніцкі называючы іх незаконнымі,

*) Магілеўскі партархіў, справа Стаўкі вярхоўнага галоўнакамандуючага.

**) Матэрыялы партархіва, фонд 2037, справа 274.

***) Там-жа.

а ўзяцце ўлады большэвіцкімі Советамі—узурпацыяй. Маскіруючы свае выступленні супроць совецкай улады фразай аб неабходнасці «яднання ўсёй дэмакратыі», яны адстойвалі палітыку рэстаўрацыі ўлады буржуазіі і памешчыкаў пад лозунгам—«уся ўлада Устаноўчаму сходу». Каб забяспечыць пераход усёй улады да гэтага буржуазнага парламента і ліквідаваць большэвіцкія Советы, соцыялздраднікі патрабавалі прыняць рэзалюцыю аб неабходнасці стварэння «аднароднага соцыялістычнага ўрада».

Напомнім, што падобную-ж рэстаўратарскую палітыку разам з эсэра-меншавікамі і іх гаспадарамі—Радзянка, Мілюковым, Гучковым і К°—адстойвалі заклятыя ворагі пролетарскай дыктатуры—Троцкі, Каменеў, Зіноўеў, Бухарын, Рыкаў і К°, якія змагаліся супроць ленінскай тэорыі аб магчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай краіне. У мэтах рэстаўрацыі ўлады буржуазіі і памешчыкаў яны дагаварваліся з эсэра-меншавікамі і кадэтамі аб арышце і забойстве кіраўнікоў нашай партыі—Леніна, Сталіна і Свердлова, аб звяржэнні совецкага ўрада і замене яго буржуазным міністэрствам пад старшынствам Чэрнова або Аўксенцьева.

Тав. Кагановіч у сваім выступленні на гэтым памятным пасяджэнні выкрыў манеўры соцыял-здраднікаў і даў сакрушальны адпор іх рэстаўратарскай палітыцы. З большэвіцкай страснасцю адстойваючы адзіна правільную ленінска-сталінскую лінію барацьбы за перамогу Советаў, за дыктатуру пролетарыята, Л. М. Кагановіч заявіў, што Советы—рэволюцыйныя штабы, аплот рэволюцыі, што эсэры і меншавікі арганізавалі крывавы паход супроць Советаў, супроць рэволюцыі, што яны перайшлі на бок контррэволюцыі, падтрымліваючы Керэнскага і Краснова ў іх паходзе супроць паўстаўшага піцерскага пролетарыята і гарнізона. Каму дорага рэволюцыя, той павінен пайсці на дапамогу паўстаўшым, каб разам перамагчы. Ніякага аб'яднання і згоды са здраднікамі!

Выступленне Л. М. Кагановіча прысутныя на пасяджэнні горача падтрымалі бурай апладысментаў. Пераважнай большасцю галасоў была прынята большэвіцкая рэзалюцыя, у якой віталіся ўсе дэкрэты і пастановы 2-га з'езда Советаў і вынесена патрабаванне аб неадкладным арышце ўсіх прадстаўнікоў Часовага ўрада і аб перадачы ўсёй паўнаты ўлады ў горадзе і павеце ў рукі Совета рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

У той-жа дзень Совет паведаміў насельніцтву горада:

«Прэзідыум Выканкома Гомельскага Совета Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў даводзіць да ўсеагульнага ведама:

1. Уся ўлада ў Гомелі перайшла да Совета Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў.
2. Пасады ўрадавых камісараў ліквідуюцца.
3. Камісарам Совета па грамадзянскай частцы прызначан Александр Іванавіч Жылін.
4. Прэзідыум Ваеннай Секцыі Совета з'яўляецца камісарыятам па ваенных справах». І т. д. *).

У першай палове лістапада адбыліся перавыбары Гомельскага совета. Палеская арганізацыя папярэдне правяла вялікую палітыка-выхаваўчую і агітацыйна-масавую работу на заводах, фабрыках, у майстэрнях, ваенных часцях.

---

*) Дакумент захоўваецца ў Гомельскім музеі рэволюцыі.

Пад кіраўніцтвам Л. М. Кагановіча большэвікі разгарнулі бязлітасную барацьбу з соцыял-здраднікамі. Усюды пераможцамі выходзілі большэвікі. У састаў Совета прайшла пераважная большасць большэвіцкіх дэпутатаў: 118 большэвікоў з 200 дэпутатаў Совета.

17 лістапада па ініцыятыве фракцыі большэвікоў адбыўся надзвычайны сход Совета, на якім быў выбран прэзідыум з 7 чалавек. Новы прэзідыум, які складаўся ў большасці з большэвікоў, па волі мас аб'явіў сябе Ваенна-рэволюцыйным камітэтам. На гэтым-жа сходзе быў ліквідаван «Камітэт рэволюцыйнай аховы», яго функцыі перараданы прэзідыуму Совета, ваенныя справы—ваеннай секцыі, а гарадскія—выканкому. Сход паслаў Соўнаркому прывітальную тэлеграму, у якой адабраліся рашэнні 2-га з'езда Советаў і выказвалася поўная гатоўнасць рашуча праводзіць у жыццё ўсе дэкрэты Соўнаркома.

Новы большэвіцкі прэзідыум Совета і Ваенна-рэволюцыйны камітэт адразу-ж павялі энергічную барацьбу за ажыццяўленне дэкрэтаў Соўнаркома і ўмацаванне совецкай улады ў горадзе і павеце. Гарадскі і павятовы камісары—агенты звергнутага Часовага ўрада, а таксама старыя дзяржаўныя ўстановы былі ліквідаваны.

Улада ў горадзе і павеце цалкам перайшла да Совета рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў, які прызначыў сваіх камісараў па фінансах, харчаванню, гандлю, прамысловасці, працы.

На нарадзе прадстаўнікоў ад профсаюзаў, заводаў, фабрык і Ваенна-рэволюцыйнага камітэта была выпрацавана інструкцыя і схема арганізацыі Чырвонай рабочай гвардыі. Першым арганізатарам яе быў тав. Кагановіч. Пры Совеце быў створан баявы рэволюцыйны атрад. Апіраючыся на гэты атрад, Ваенна-рэволюцыйны камітэт рашуча праводзіў у жыццё дэкрэты і пастановы 2-га з'езда Советаў і Соўнаркома. Энергічная барацьба з контррэволюцыяй, спекуляцыяй, марадзёрствам, сабатажам і няўхільны рабочы кантроль над вытворчасцю і размеркаваннем прадуктаў далі магчымасць наладзіць вытворчасць і ўпарадкаваць справу забеспячэння працоўных горада прадуктамі.

Паспяхова былі праведзены законы аб 8-гадзінным рабочым дні, аб адначасовым падатку, дэкрэты аб кватэрах.

Дэкрэты 2-га з'езда Советаў аб зямлі і міры вёска сустрэла з вялікай радасцю. Дэкрэт аб зямлі з першых-жа дзён рэволюцыі паспяхова праводзіўся ў жыццё. Працоўныя масы сялянства на справе пераканаліся ў тым, што ўлада Советаў ёсць адзіная ўлада, здольная вывесці краіну з крывавай імперыялістычнай вайны і даць зямлю сялянам, што толькі партыя большэвікоў, кіруемая Леніным і Сталіным, здольна на справе задаволіць сялянскія патрэбы. Таму працоўнае сялянства рашуча і актыўна далучылася да пролетарскай рэволюцыі.

Палескі камітэт шырока разгарнуў на вёсцы палітмасавую работу, накіроўваючы туды сваіх агітатараў з большэвіцкімі адозвамі і лістоўкамі. У простых і ясных словах большэвіцкія агітатары ўскрывалі перад сялянствам агідную рэстаўратарскую ролю соцыял-здраднікаў на чале з Чэрновым, Аўксенцьевым і іншымі контррэволюцыянерамі, якія пад лозунгам склікання Устаноўчага сходу дабіваліся разгрому Совецкай улады.

Аўтарытэт Палескай арганізацыі ў вёсцы хутка ўзрастаў. Пры выбарах ва Устаноўчы сход сяляне Гомельшчыны падалі за большэвікоў звыш 100 тысяч галасоў.

К канцу лістапада Совецкая ўлада ў Гомелі і павеце ўмацавалася амаль ва ўсіх галінах палітычнага, адміністрацыйна-гаспадарчага і культурнага жыцця.

У сваім пісьме ад 21/XI Палескі камітэт паведамляў ЦК:

«Нарэшце ў нашым горадзе не толькі ў рэзалюцыях, але і на справе пачынае ажыццяўляцца Совецкая ўлада. Выбраны агульным сходам Совета Рэволюцыйны Камітэт... уступіў на шлях энергічнай, рашучай барацьбы з контррэволюцыяй і беззаладдзем у горадзе».

У бязлітаснай барацьбе з меншавікамі, эсэрамі, бундаўцамі, паалей-сіяністамі і іншымі нацыяналістычнымі котррэволюцыйнымі дробнабуржуазнымі партыямі, якія імкнуліся атруціць рабочую і салдацкую масу нацыяналістычным ядам, Палеская арганізацыя большэвікоў на чале з Л. М. Кагановічам адстойвала і адстаяла ленінска-сталінскую нацыянальную палітыку, што забяспечыла большэвікам актыўную падтрымку шырокіх мас працоўных Гомельшчыны.

У сваім пісьме ў ЦК ад 21/XI Палескі Камітэт паведамляў:

«Заслугоўвае асаблівай увагі тое, што на сходзе (Палескай арганізацыі большэвікоў ад 17/IX—*І. М.)* было вельмі многа рабочых і работніц, якія да гэтага часу ішлі за нацыянальнымі партыямі, а цяпер масамі запісваюцца да нас, у члены нашай арганізацыі. Гэтымі днямі быў нават выбран камітэт гарадскога раёна з 7 чалавек, які складаецца выключна з рабочых. Наш уплыў сярод рабочых расце. Просім прысланць сур'ёзную навуковую літаратуру для рабочай чытальні... Сярод членаў нашай арганізацыі настрой бадзёры, прыўзняты. Упэўнены ў перамозе і гатовы ўсямерна садзейнічаць ёй» *).

Палеская арганізацыя рэзка асудзіла подлую палітыку Зіноўева, Каменева, Рыкава і іншых здраднікаў рэволюцыі, якія імкнуліся стварыць так званы «аднародны соцыялістычны ўрад» і дабіцца капітуляцыі дыктатуры пролетарыята перад буржуазным Устаноўчым сходам.

Большэвікі Гомельшчыны актыўна змагаліся за генеральную лінію ЦК, за ўмацаванне Совецкай улады, супроць усякага пагаднення з соцыял-здраднікамі, супроць буржуазнай ідэі перадачы ўсёй улады Устаноўчаму сходу.

17 лістапада Палеская арганізацыя прыняла па пытанню аб дзейнасці Соўнаркома на чале з Леніным і Сталіным наступную рэзалюцыю:

«Агульны сход членаў Гомельскай арганізацыі РСДРП большэвікоў шле сваё гарачае прывітанне першаму сапраўды народнаму ўраду, ураду рабочых, салдат і сялян, прызнае ўсе яго дзеянні ў знешняй і ўнутранай палітыцы адзіна правільнымі і адпавядаючымі інтарэсам краіны і рэволюцыі і абяцае яму сваю актыўную падтрымку для правядзення ў жыццё ўсіх яго мерапрыемстваў і дэкрэтаў.

Няхай жыве ўлада рабочых, салдат і сялян! Далоў сабатаж капіталістаў, памешчыкаў і іх прыспешнікаў! Няхай жыве соцыялізм!» **).

Пад кіраўніцтвам Палескай арганізацыі большэвікоў Гомельскі совет змагаўся за поўную советызацыю і ўмацаванне дыктатуры про-

*) Партархіў, С. 133, Л. 1—2.
**) Цэнтральны партархіў, справа 133.

летарыята ва ўсіх гарадах і паветах Магілёўскай губерніі. Пры яго садзейнасці былі арганізаваны ваенна-рэвалюцыйныя камітэты ў Рэчыцы, Рагачове, Быхаве і іншых гарадах і паветах, дзе ўлада перайшла да Советаў.

17—18 лістапада ваенная секцыя Гомельскага совета сфарміравала ўзброены рэвалюцыйны атрад і накіравала яго для барацьбы з контррэвалюцыйным генералітэтам Стаўкі. Перад атрадам стаяла задача—затрымаць адступаўшыя з Магілева ўдарныя карнілаўскія батальёны і дапамагчы ў арганізацыі совецкай улады ў Магілеве.

К канцу лістапада Советы былі створаны па ўсёй Магілеўскай губерніі.

15 лістапада ў Магілеве быў склікан з'езд для замацавання Совецкай улады ва ўсёй губерніі. Старшынстваваў на з'ездзе тав. Кагановіч. Ярка і вобразна характарызуючы на гэтым з'ездзе работу Гомельскага совета, тав. Кагановіч бязлітасна разбіў меншавіцка-трацкісцкія і бухарынскія контррэвалюцыйныя тэорыі аб немагчымасці перамогі дыктатуры пролетарыята і пабудовы соцыялізма ў нашай краіне. Выкрываючы контррэволюцыйную, рэстаўратарскую сутнасць іх лозунга «уся ўлада Устаноўчаму сходу», Л. М. Кагановіч з большэвіцкім запалам адстойваў ленінска-сталінскую лінію барацьбы за ўмацаванне дыктатуры пролетарыята, за пабудову соцыялізма ў нашай краіне. Яркая, запальваючая прамова зрабіла вялікае ўражанне на дэлегатаў з'езда і была падтрымана большасцю. Рабочыя і салдацкія масы ўспрынялі яе, як баявое кіраўніцтва да рэволюцыйнага дзеяння.

Адзін з салдат—дэлегат сібірскай дывізіі, пакідаючы сход з-за ад'езду ў Петраград, заявіў: «Паслаўшая мяне дывізія дала мне адпаведны наказ у карысць Совецкай улады і пры гэтым папярэдзіла: «Калі ва Устаноўчым сходзе будуць працаваць тыя, хто расстрэльваў у Кастрычніку нашых братоў—матросаў, рабочых і салдат, то мы знімем гарматы з фронта і накіруем іх на Устаноўчы сход».

На з'ездзе пераважнай большасцю галасоў была прынята прапанаваная тав. Кагановічам рэзалюцыя і яго тэзісы аб арганізацыі і ўмацаванні Совецкай улады ў губерніі. Па прапанове тав. Кагановіча Губернскі з'езд выбраў Часовае выканаўчае бюро з 7 чалавек, якое з'яўлялася вышэйшым органам Совецкай улады ў губерніі да 5-га студзеня 1918 г., калі адбыўся 2-гі з'езд советаў Магілеўскай губерніі.

Так перамагла большэвіцкая стратэгія і тактыка, якую праводзіў Палескі камітэт большэвікоў на чале з цвёрдым ленінцам-сталінцам Л. М. Кагановічам у барацьбе за перамогу соцыялістычнай рэволюцыі, у барацьбе за дыктатуру пролетарыята.

І. Маневіч
Лектар Мінскага абкома КП(б)Б.

---

# 75-годдзе аснавання Першага Інтэрнацыянала

*Гістарычная даведка*

Міжнароднае таварыства рабочых—Першы Інтэрнацыянал—было аснавана 28 верасня 1864 года ў Лондане. На гістарычным сходзе прысутнічалі прадстаўнікі рабочых Англіі, Францыі, Італіі, Германіі, Польшчы, Ірландыі. Карл Маркс быў прадстаўніком ад рабочага класа Германіі.

Аб'яднанню рабочых арганізацый усіх краін у міжнародную арганізацыю спрыяла імкненне рабочых да міжнароднай салідарнасці, усведамленне неабходнасці аб'яднаць сілы рабочага класа ў барацьбе з сіламі буржуазнага грамадства.

Для аснавання міжнароднай рабочай партыі спатрэбіліся доўгія годы ўпартай барацьбы, якую вялі Маркс і Энгельс, тлумачачы асновы створанай імі тэорыі навуковага соцыялізма.

Гістарычныя ўмовы таго часу спрыялі развіццю рабочага руху ў краінах Еўропы. К моманту стварэння Таварыства ў значнай меры адпалі, у працэсе развіцця прамысловага капіталізма, феадальныя адносіны і палітычная раздробленасць тэрыторый еўрапейскіх дзяржаў. У гэтыя годы «Заходняя Еўропа ператварылася ў склаўшуюся сістэму буржуазных дзяржаў, па агульнаму правілу пры гэтым нацыянальна-адзіных дзяржаў» **(Ленін).**

З ростам прадукцыйных сіл маладога капіталізма рос і рабочы клас, абвастраліся супярэчнасці паміж эксплаататарамі і эксплатуемымі. К канцу 50-х год хваля рабочага руху ў сувязі з развіўшымся прамысловым крызісам у Заходняй Еўропе ахапіла шырокія масы. Ва ўсім свеце абвастрылася класавая барацьба. Рабочы рух, як інтэрнацыянальны фактар, упершыню выступіў на палітычную арэну.

Разгул рэакцыі пасля паражэння рэволюцыі 1848 года не мог знішчыць дэмакратычнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Англіі, Францыі, Амерыцы, Італіі і іншых краінах.

Многія годы ўпартай барацьбы Маркса і Энгельса за развіццё рэволюцыйнага руху не прапалі дарма. Рэволюцыя 1848 г. бліскуча пацвердзіла сілу і жыццёвасць рэволюцыйнага вучэння Маркса.

Марксізм указаў рабочаму класу ўсіх краін шляхі вызвалення ад капіталістычнай эксплаатацыі. Але рабочы рух у Заходняй Еўропе ўсё яшчэ быў неарганізаваным. Пролетарыят не меў сваёй рэволюцыйнай праграмы і адзінага кіраўніцтва, якія здолелі-б накіраваць асобныя бурлівыя патокі пролетарскага руху ў агульнае русла, указаць ім адзіную мэту, адзіны шлях пасяховай барацьбы з капіталізмам. Для заваявання палітычнай улады патрэбна была моцна згуртаваная арганізацыя рабочага класа, яго палітычная партыя, узброеная ідэямі навуковага соцыялізма, рэволюцыйнай тэорыяй Маркса і Энгельса.

У большасці краін Заходняй Еўропы ідэі навуковага социялізма яшчэ толькі пачыналі ахопліваць масы рабочага класа. Марксу і Энгельсу, як аснавальнікам і кіраўнікам Першага Інтэрнацыянала, прышлося разгарнуць рашучую барацьбу за вызваленне рабочага класа ад пашыраных у той час непролетарскіх дробнабуржуазных тэорый.

У перыяд арганізацыі Першага Інтэрнацыянала ласальянцы ў Германіі сталі на шлях змовы з прускай манархіяй. Маркс называў іх «бісмаркаўскімі соцыялістамі». Ва Францыі пруданісты прапаведвалі адмаўленне ад палітычнай дзейнасці і пагадненне працы з капіталам. На рабочы клас Англіі вялікі ўплыў мелі трэд'юніёны. Знаходзячыся пад уплывам буржуазіі, яны ўвесь час адмяжоўваліся ад палітычнай барацьбы.

Маркс і Энгельс паставілі сабе задачай—аб'яднаць масавы рух рабочых усіх краін з навуковым соцыялізмам, стварыць міжнародную партыю, якая-б дала рашучы адпор усім дробнабуржуазным сектанцкім і утапічным плыням у рабочым класе.

> **«Інтэрнацыянал,**—пісаў Маркс,—быў заснаван для таго, каб замяніць соцыялістычныя і поўсоцыялістычныя секты сапраўднай арганізацыяй рабочага класа для барацьбы... Развіццё соцыялістычнага сектанцтва і развіццё сапраўднага рабочага руху заўсёды знаходзяцца ў адваротных адносінах адно да другога. Секты маюць сваё (гістарычнае) апраўданне да таго часу, пакуль рабочы клас яшчэ не даспеў для самастойнага гістарычнага руху. Як толькі ён дасягае такой спеласці, усе секты становяцца па сутнасці рэакцыйнымі» *).

Па даручэнню камісіі Маркс склаў Устаноўчы маніфест і Часовы статут Першага Інтэрнацыянала.

Заваёва палітычнай улады абвяшчалася ва Устаноўчым маніфесце цэнтральнай задачай,—«вялікім абавязкам рабочага класа».

У Часовым статуце запісана:

> «Вызваленне рабочага класа павінна быць заваявана самім рабочым класам... Барацьба за вызваленне рабочага класа азначае не барацьбу за класавыя прывілеі і манаполіі, але за роўныя правы і абавязкі і за знішчэнне ўсякага класавага панавання»**).

Маркс падкрэслівае ў Статуце:

> «Усе намаганні, накіраваныя да гэтай вялікай мэты, аказваліся да гэтага часу беспаспяховымі з прычыны недахопу салідарнасці паміж рабочымі розных галін працы ў кожнай краіне і адсутнасці брацкага саюза паміж рабочымі розных краін».

Статут указваў на неабходнасць палітычнай барацьбы, як на сродак эканамічнага вызвалення.

Выхад у свет Устаноўчага Маніфеста і Часовага статута—гэтых гістарычных дакументаў, у якіх Маркс запісаў асноўныя прынцыпы дзейнасці Міжнароднага Таварыства,—быў ударам па старонніках дробнабуржуазнага соцыялізма і сектанцтва.

Кіруючы Генеральным Саветам Міжнароднага Таварыства Рабочых, Маркс і Энгельс вялі рашучую барацьбу з сектанцтвам і дроб-

*) **К. Маркс і Ф. Энгельс,** т. XXVI, стар. 174.

**) „Збор праграмных дакументаў комунізма". Партвыдат. 1931 г., стар. 60.

набуржуазным соцыялізмам на працягу ўсяго часу існавання Першага Інтэрнацыянала. Кіраўнікі сект імкнуліся ў рамках Міжнароднага Таварыства весці барацьбу з марксісцкім вучэннем.

Маркс тады пісаў:

> «Гісторыя Інтэрнацыянала была **безупыннай барацьбой Генеральнага совета** супроць сект і дылетанцкіх вопытаў, якія імкнуліся ўмацавацца ўнутры самога Інтэрнацыянала супроць сапраўднага руху рабочага класа» *).

Тактыка Маркса праследавала мэту рэволюцыйнага выхавання рабочых мас. У 1865 годзе Совет Інтэрнацыянала па прапанове Маркса склікаў Лонданскую канферэнцыю, і толькі праз год—3 верасня 1866 года—у Жэневе адбыўся першы кангрэс Інтэрнацыянала, у рабоце якога прынялі ўдзел 60 дэлегатаў розных краін свету. Кангрэс зацвердзіў Часовы статут і Устаноўчы маніфест Міжнароднага Таварыства Рабочых. На кангрэсе разгарэлася жорсткая барацьба паміж марксістамі і пруданістамі, якія адмоўна глядзелі на класавую барацьбу і лічылі, што рабочы клас зможа праз кааперацыю і зберажэнні адкрыць шлях для свайго вызвалення.

Жэнеўскі кангрэс выказаўся за ажыццяўленне 8-гадзіннага рабочага дня, за падтрыманне стачачнай барацьбы, за стварэнне прафсаюзаў і аховы працы. Ён аказаў велізарны ўплыў на рабочыя масы; рабочы клас пачаў разумець неабходнасць палітычнай арганізацыі і палітычнай барацьбы.

Праз год, у верасні 1867 года, у Лазанне, быў склікан другі кангрэс Інтэрнацыянала, на якім прысутнічаў 71 дэлегат ад Францыі, Англіі, Швейцарыі і іншых краін. Абсалютная большасць дэлегатаў была старороннікамі пруданізма. Вось чаму прынятыя гэтым кангрэсам рэзалюцыі маюць прудачісцкае адценне. Аднак, пад уплывам барацьбы Маркса, кангрэс ясна выразіў сваю прынцыповую пазіцыю па асноўных пытаннях, указаўшы ў рэзалюцыі, што «соцыяльнае вызваленне рабочых неаддзельна ад іх палітычнага вызвалення».

У 1868 годзе адбыўся трэці (Брусельскі) кангрэс, на якім было каля 100 дэлегатаў ад важнейшых краін Заходняй Еўропы. Пруданісты і на гэтым кангрэсе складалі большасць. Але к гэтаму часу ў выніку рашучай барацьбы Маркса супроць пруданізма яны раскаloліся на групы, і лепшая іх частка, успрыняўшая вучэнне Маркса аб неабходнасці класавай барацьбы, выказалася за арганізацыю прафсаюзаў і стачак. Прынятыя Брусельскім кангрэсам рашэнні спрыялі росту палітычнай актыўнасці рабочага класа Еўропы.

Пасля III кангрэса Інтэрнацыянала рабочыя масы Англіі і Францыі пачалі адыходзіць ад дробнабуржуазных партый і сталі на шлях палітычнай барацьбы. Такім чынам у выніку ўпартай барацьбы, якая вялася ад I да III кангрэсаў, Маркс і Энгельс разбілі пруданізм.

Але к гэтаму часу з'явіўся новы вораг марксізма—бакуністскі анархізм. Бакунін не прызнаваў дзяржавы, ён атаесамляў дзяржаву буржуазную з дзяржавай пролетарскай. Бакуністы стаялі за разбурэнне любой дзяржаўнай улады. Замест пролетарскага лозунга «знішчэння класаў» яны выступалі з лозунгам «ураўнення класаў». Маркс павёў рашучую барацьбу з бакуністамі і даказаў рабочаму класу безгрунтоўнасць утапічнага вучэння Бакуніна.

*) К. Маркс і Ф. Энгельс. Збор твораў, т. XXVI, стар. 175.

У 1869 годзе рэвалюцыйны рух рабочага класа быстра пашыраецца па ўсім свеце. Гэты год паказаў плады работы Інтэрнацыянала ва ўсіх краінах Заходняй Еўропы. У гэтым-жа годзе ў Базелі адбыўся чацверты кангрэс.

У жніўні 1870 года пачалася вайна паміж Францыяй і Германіяй. У 1871 годзе ва Францыі ўспыхнула рэвалюцыя і абвешчана была Парыжская Комуна. Першы Інтэрнацыянал з самага пачатку аказваў ёй дапамогу. У адозве Генеральнага Савета па поваду грамадзянскай вайны ва Францыі Маркс надаваў выключна вялікае значэнне Комуне. Маркс гаварыў, што «яна была, па сутнасці справы, урадам рабочага класа, вынікам барацьбы прадукцыйнага класа супроць класа прысвойваючага, яна была адкрытай, урэшце, палітычнай формай, пры якой магло адбыцца эканамічнае вызваленне працы».

Маркс высока ўзняў сцяг Парыжскай Комуны. Ён пісаў:

> «Парыж рабочых з яго Комунай заўсёды будуць ушаноўваць, як слаўнага прадвесніка новага грамадства. Яго мучанікі навекі запечатлёны ў вялікім сэрцы рабочага класа».

Маркс гаварыў аб дзяржаве тыпу Комуны, як форме дыктатуры пролетарыята. Ён указваў на памылкі, дапушчаныя парыжскімі комунарамі, але ў той-жа час указваў на велізарнае гістарычнае значэнне Парыжскай Комуны для міжнароднага рабочага руху.

Паражэнне Парыжскай Комуны нанесла вялікі ўдар Першаму Інтэрнацыяналу. Староннікі Інтэрнацыянала праследаваліся і падвяргаліся паліцэйскім рэпрэсіям ва ўсіх краінах. Прыналежнасць да Інтэрнацыянала лічылася злачынствам.

У такіх цяжкіх умовах немагчыма было склікаць чарговы кангрэс, і было вырашана склікаць у верасні 1871 года канферэнцыю ў Лондане.

Лонданская канферэнцыя мела вялікае значэнне. У яе рашэннях указвалася, што «супроць калектыўнай улады маемных класаў пролетарыят можа дзейнічаць як клас, толькі арганізаваўшыся сам у палітычную партыю, адметную ад усіх старых партый, створаных маемнымі класамі, і процістаячую ім» і падкрэслівалася, што гэта неабходна, каб «забяспечыць перамогу социяльнай рэвалюцыі і яе канчатковай мэты—знішчэння класаў».

Рашэнні Лонданскай канферэнцыі былі новым ударам па бакуністах.

У 1872 годзе ў Гааге ўдалося склікаць IV кангрэс Першага Інтэрнацыянала, які поўнасцю пацвердзіў рашэнні Лонданскай канферэнцыі. На гэтым кангрэсе быў выключан з Інтэрнацыянала Бакунін, як дэзарганізатар і раскольнік. Гаагскі кангрэс быў апошнім кангрэсам Першага Інтэрнацыянала.

Пасля паражэння Парыжскай Комуны рэакцыя павяла наступленне на рабочы клас. Пачаліся праследаванні кіраўнікоў Інтэрнацыянала. У гэтых умовах Міжнароднае Таварыства Рабочых не мела магчымасці праводзіць работу сярод рабочага класа ў Заходняй Еўропе і было вымушана спыніць сваё існаванне. У 1876 годзе Генеральны Совет вынес рашэнне аб роспуску Інтэрнацыянала, які к гэтаму часу фактычна спыніў сваю дзейнасць.

Першы Інтэрнацыянал перастаў існаваць, але пройдзены ім шлях і работа, якую правёў ён за гэтыя годы, прынеслі багатыя плады:

вопыт барацьбы з капіталам і вялікія ўрокі Парыжскай Комуны моцна ўсвоілі рабочыя масы.

Аб гістарычным значэнні Першага Інтэрнацыянала Ленін пісаў:

> «Першы Інтэрнацыянал (1864—1872) заклаў фундамент міжнароднай арганізацыі рабочых для падрыхтоўкі іх рэвалюцыйнага націску на капітал...
>
> Першы Інтэрнацыянал заклаў фундамент пралетарскай, міжнароднай барацьбы за сацыялізм» *).
>
> «... Маркс выкоўваў адзіную тактыку пралетарскай барацьбы рабочага класа ў розных краінах. Пасля падзення Парыжскай Комуны (1871), якую так глыбока, метка, бліскуча і **дзейсна**, рэвалюцыйна ацаніў Маркс («Грамадзянская вайна ва Францыі 1871»), і пасля расколу Інтэрнацыянала бакуністамі, існаванне яго ў Еўропе стала немагчымым. Маркс правёў пасля кангрэса Інтэрнацыянала ў Гаагe (1872) перанясенне Генеральнага Савета Інтэрнацыянала ў Н'ю-Ёрк. Першы Інтэрнацыянал скончыў сваю гістарычную ролю, уступіўшы месца эпохе нязмерна больш буйнага росту рабочага руху ва ўсіх краінах свету, іменна эпохе росту яго **ўшыр**, стварэння **масавых** сацыялістычных рабочых партый на базе асобных нацыянальных дзяржаў» **).

У эпоху II Інтэрнацыянала (1889—1914) рабочы рух рос ушыр і ахапіў амаль усе краіны. Адзінай асновай рабочага руху ўсюды прызнаецца вучэнне Маркса.

Перамога марксізма ў міжнародным рабочым руху вымусіла яго ворагаў перафарбоўвацца ў «марксістаў» і ўжо пад гэтай маскай весці барацьбу супроць рэвалюцыйнага марксізма.

Лідэры II Інтэрнацыянала ў выніку апартуністычнага перараджэння сталі правадырамі буржуазнага ўплыву на пралетарыят, агентурай імперыялістаў. Яны перайшлі на бок сваёй буржуазіі, на пазіцыі сацыял-шавінізма. У 1914 годзе II Інтэрнацыянал ганебна разваліўся. Яго правадыры сталі сапраўднымі здраднікамі і ворагамі рабочага класа.

Вялікі сцяг Маркса і Энгельса, сцяг Першага Інтэрнацыянала высока ўзнялі вялікія правадыры пралетарыята—Ленін і Сталін.

Прадбачанне Энгельса, што «наступны Інтэрнацыянал будзе... чыста камуністычны» збыліся. III Камуністычны Інтэрнацыянал з'яўляецца прадаўжальнікам вялікай справы Першага Інтэрнацыянала, сцягам перамогі рабочага класа ва ўсім свеце.

І. Сазонаў

---

*) Ленін, т. XXIV, стар. 247.

**) Ленін, т. XVIII, стар. 7—8.

# Вялікі рэволюцыянер-дэмакрат

*(Да 50-годдзя з дня смерці Н. Г. Чэрнышэўскага)*

Наша совецкая краіна, наш выдатны народ пад кіраўніцтвам слаўнай комуністычнай партыі большэвікоў і яе вялікіх правадыроў Леніна і Сталіна знішчылі эксплаататарскія класы і пабудавалі соцыялістычную дзяржаву рабочых і сялян. Упершыню ў гісторыі ажыццёўлена мара лепшых прадстаўнікоў чалавецтва аб пабудове жыцця без эксплаататараў, жыцця шчаслівага і творчага, культурнага і заможнага. Наш многамільённы народ маральна і палітычна спаян, як граніт. Сваёй барацьбой і перамогамі, сваім безупынным гаспадарчым і культурным ростам ён заклікае працоўных усіх краін да рэволюцыйнай барацьбы, да звяржэння панавання эксплаататарскіх класаў, да ўстанаўлення дыктатуры пролетарыята ва ўсім свеце.

Нашаму народу блізкі і дарагі імёны тых, хто сваёй мужнай рэволюцыйнай барацьбой у мінулым змагаўся за вызваленне працоўных. Мы ўспамінаем з любоўю жыццё і дзейнасць гэтых людзей, ушаноўваем іх памяць.

29 кастрычніка 1939 года споўнілася 50 год з дня смерці буйнейшага рэволюцыянера-дэмакрата XIX века, ідэолага сялянскай рэволюцыі, соцыяліста-утапіста дамарксавага перыяда Н. Г. Чэрнышэўскага. Прайшло многа год, а памяць аб ім жыве і будзе жыць у сэрцах многамільённага совецкага народа.

Неацанімая гістарычная заслуга вялікага рускага пісьменніка, рэволюцыйнага дэмакрата, ваяўнічага матэрыяліста, геніяльнага крытыка Н. Г. Чэрнышэўскага заключаецца перш за ўсё ў тым, што ва ўмовах свайго часу, сваёй эпохі ён праводзіў ідэю сялянскай рэволюцыі, ідэю барацьбы мас за звяржэнне старых улад.

Нікалай Гаўрылавіч Чэрнышэўскі нарадзіўся 12 (25) ліпеня 1828 года ў горадзе Саратаве ў сям'і свяшчэнніка. Яго бацька меў вялікую бібліятэку. Н. Г. Чэрнышэўскі захапляўся чытаннем кніг, і, калі ў 1842 годзе паступіў ў духоўную семінарыю, начальства прарочыла яму хуткую духоўную кар'еру. Але Чэрнышэўскі пайшоў па іншаму шляху—ён стаў адным з найвялікшых рускіх рэволюцыянераў-дэмакратаў дамарксавай эпохі. У 1846 годзе Н. Г. Чэрнышэўскі паступіў у Пецербургскі універсітэт на гістарычна-філалагічны факультэт. Навакольнае жыццё, жахі прыгонніцтва, бяспраўе і галеча мас, эксплаатацыя і сваявольства улад над масамі—усё гэта не магло прайсці міма дапытлівага розуму Чэрнышэўскага. Ва універсітэце Чэрнышэўскі прагна вывучаў гісторыю філасофіі, палітычную эканомію, гісторыю, працы Гегеля, Канта, Фейербаха, Гізо, Мішле,

Сміта, Рыкардо, Гельвецыя, Гольбаха, Дзідро і інш. Ён уважліва вывучаў рускую літаратуру, асабліва любіў Белінскага, які аказваў на яго моцны ўплыў.

Светапогляд Чэрнышэўскага фарміраваўся пад уплывам двух фактараў. Першы—гэта абвастрэнне класавай барацьбы ў Расіі пад лозунгам адмены прыгоннага права, барацьбы з самадзяржаўем за інтарэсы сялянства і «просталюдзінаў» і другі—гэта рэволюцыйныя падзеі ў Заходняй Еўропе ў 1848-49 гг. За гэтымі падзеямі Чэрнышэўскі сачыў вельмі ўважліва і, хоць даведваўся аб іх з афіцыяльных крыніц, хутка апынуўся на крайнім левым крыле. У сваім дзённіку 18 верасня 1848 года Чэрнышэўскі запісаў: «Мне здаецца, што я стаў па пераконаннях у канчатковай мэце чалавецтва рашучым партызанам соцыялістаў і комуністаў і крайніх рэспубліканцаў, монтан'яр рашуча».

У красавіку 1849 года былі арыштаваны петрашэўцы. Чэрнышэўскі не быў сярод арыштаваных, бо не паспеў яшчэ ўступіць у іх таварыства. Але ў сваім дзённіку 25 красавіка 1849 года ён запісаў: «Я, напрыклад, сам ніколі не ўсумніўся-б умяшацца ў тое таварыства і з часам, безумоўна, умяшаўся-б».

Чэрнышэўскі становіцца староннікам гвалтоўнай рэволюцыі ў Расіі, якую марыў ажыццявіць праз усенароднае паўстанне і, разграміўшы царызм, устанавіць у Расіі ўладу народа—«народнае праўленне». Гэта ўлада павінна быць такой, каб «праўленне de jure i de facto перайшло ў рукі самага ніжэйшага і шматлікага класа—земляробы + падзёншчыкі + рабочыя».

Чэрнышэўскі не баяўся класавай барацьбы, бо бачыў у ёй сродак знішчэння эксплаататараў. Ён пісаў: «Няхай пачнецца прыгнечанне аднаго класа другім, тады будзе барацьба, тады прыгнечаныя ўсвядомяць, што яны прыгнечаны пры сучасным парадку рэчаў, але што можа быць іншы парадак рэчаў, пры якім яны не будуць прыгнечаны, зразумеюць, што іх прыгнятае не бог, а людзі». (Дзённік ад 20 студзеня 1840 года).

16 мая 1850 года Чэрнышэўскі запісвае ў дзённіку мысль аб складанні адозвы да мас з заклікам да ўзброенага паўстання. Трэба «апісаць становішча і тое, што толькі сіла і толькі яны самі праз гэту сілу могуць вызваліцца ад гэтага». Сам Чэрнышэўскі рыхтаваўся прыняць удзел у такім паўстанні. «У нас хутка будзе бунт, а калі ён будзе, я буду абавязкова ўдзельнічаць у ім».

Скончыўшы ў 1850 годзе універсітэт, Чэрнышэўскі з 1851 па 1853 г. працуе выкладчыкам Саратаўскай гімназіі. Ён знаёміць вучняў з французскай рэволюцыяй і выказвае смелыя мыслі, за якія «могуць саслаць, пасадзіць у крэпасць». Чэрнышэўскі настойліва вывучаў Фейербаха, гісторыкаў французскай рэволюцыі. З рэволюцыйнай барацьбы 1848 года ў Еўропе ён рабіў адпаведныя вывады для сваёй рэволюцыйнай дзейнасці.

У 1853 годзе Н. Г. Чэрнышэўскі пераехаў з сваёй жонкай у Пецербург і пачаў супрацоўнічаць у журнале «Современник», які рэдагавалі тады паэт Н. А. Некрасаў і публіцыст І. Паноў. Неўзабаве Чэрнышэўскі стаў галоўнай асобай у журнале. Чэрнышэўскі разам са сваім вучнем і прыяцелем Дабралюбавым прапаведваў прагрэсіўныя ідэі соцыялізма. Яны наносілі ўдары рускаму самадзяржаўю, прыгоннаму праву, заклікалі да рэволюцыі, выкрывалі хлусню цар-

квы і псеўданавуку. «Современник» пад кіраўніцтвам Чэрнышэўскага зрабіўся цэнтрам перадавых і прагрэсіўных ідэй асветніцтва ў Расіі, сцягам шырокай дэмакратыі, якая абудзілася да палітычнага жыцця. Са старонак «Современника» Чэрнышэўскі знаёміў дэмакратычную моладзь, розначынцаў з філасофіяй Фейербаха, Гегеля, з лепшымі прадстаўнікамі сусветнай літаратуры—Шэкспірам, Гётэ, Шылерам, з лепшымі імёнамі рускай літаратуры—Пушкіным, Лермантавым, Гогалем, Талстым, Некрасавым, Шчэдрыным, з вялікім рускім крытыкам Белінскім. Чэрнышэўскі напісаў многа бліскучых работ: «Нарысы Гогалеўскага перыяда рускай літаратуры», «Эстэтычныя адносіны мастацтва да рэчаіснасці», «Антрапалагічны прынцып у філасофіі», «Барацьба партый ва Францыі пры Людовіку XVIII і Карле X», «Ліпеньская манархія», «Кавен'як» і інш. На кнігах Чэрнышэўскага выхоўваліся цэлыя пакаленні.

Н. Г. Чэрнышэўскі стаў небяспечным чалавекам для рускага самадзяржаўя і прыгоннікаў. За ім быў устаноўлен паліцэйскі нагляд. Чэрнышэўскі пачаў атрымліваць пагражаючыя пісьмы ад сваіх ворагаў. Самадзяржаўе і прыгоннікі рыхтавалі арышт Чэрнышэўскага, жадаючы ва што-б там ні стала з ім расправіцца. Царскі ўрад зрабіў падлог, падкупіўшы пры дапамозе ахранкі негадзяя Всевалада Кастамарава, які сфабрыкаваў падложныя дакументы, нібыта напісаныя самім Чэрнышэўскім. У ноч з 6 на 7 ліпеня 1862 года Чэрнышэўскі быў арыштован па распараджэнню самога Александра II і пасаджан у Петрапаўлаўскую крэпасць. У 1864 годзе, 7 лютага, сенат вынес прыгавор, па якому Чэрнышэўскі быў прызнан вінаватым у сувязях з эмігрантамі Герцэнам і Огарэвым і ў складанні адозвы «К барскім крестьянам» і быў прыгаворан да 14 год катаргі з застаўленнем назаўсёды ў пасяленні ў Сібіры. Александр II пацвердзіў прыгавор, ліцамерна скараціўшы напалову тэрмін катаржных работ. У 1864 годзе 19 мая на Мытнінскай плошчы ў Пецербургу быў учынен над Чэрнышэўскім абрад грамадзянскай кары—агідная варварская працэдура глумлення і здзекаў. 20 мая Чэрнышэўскі быў адпраўлен у Сібір. Па адбыццю катаргі Чэрнышэўскага саслалі у гор. Вілюйск—звыш 700 клм на поўнач ад Якуцка, куды яго прывезлі 11 студзеня 1872 года. Катарга і жорсткія здзекі не зламалі жалезнай волі Чэрнышэўскага. Ён цвёрда і горда трымаўся да апошніх дзён свайго жыцця.

У Петрапаўлаўскай крэпасці Чэрнышэўскі напісаў раман «Што рабіць?», які ў 1863 годзе быў змешчан у «Современнике». Прапагандуючы ідэі утапічнага соцыялізма, кніга «Што рабіць?» заклікала да практычнай работы ў імя соцыялізма. Карціны цудоўнага соцыялістычнага «будучага» на нашай зямлі захаплялі і натхнялі маладыя пакаленні рэволюцыянераў на барацьбу за соцыялізм.

У сібірскай ссылцы Чэрнышэўскі напісаў раман «Пралог», які быў надрукован заграніцай у 1877 годзе.

Аб велізарным уплыве вобразаў рэволюцыянераў, створаных Чэрнышэўскім у рамане «Што рабіць?», ярка гаворыць у сваіх успамінах Георгій Дзмітраў:

> «Раман «Што рабіць?» яшчэ 35 год назад аказаў на мяне асабіста незвычайна глыбокі непераможны ўплыў. І я павінен сказаць: ні раней, ні пазней не было ні аднаго літаратурнага твору, які меў-бы такі моцны ўплыў на маё рэволюцыйнае выхаванне, як раман Чэрнышэўскага. На працягу месяца я літаральна жыў героямі Чэрнышэўскага... І для мяне няма ніякага

сумнення, што іменна яго жыватворчы ўплыў у маім юнацтве вельмі многа дапамог майму выхаванню, як пролетарскага рэволюцыянера, і знаходзіў сваё выражэнне ў далейшай маей рэволюцыйнай барацьбе ў Балгарыі і на Лейпцыгскім працэсе».

Царскія каты з беспрыкладнай жорсткасцю расправіліся з Чэрнышэўскім. Звыш дваццаці год трымалі яго ў турме і ў сібірскай ссылцы. Толькі ў 1883 годзе яму было дазволена пераехаць у Астрахань, а потым у Саратаў, дзе ён пражыў 4 месяцы і 29 кастрычніка 1889 года памёр на 62 годзе ад роду.

Жыццё Чэрнышэўскага—гэта барацьба за перамогу народа над царызмам. Ён высока ўзняў сцяг рэволюцыі і горда нёс яго да апошніх дзён свайго жыцця.

Заслугі Чэрнышэўскага ў развіцці рэволюцыйнай свядомасці велізарны. Іх дастойна ацанілі асновапаложнікі навуковага комунізма Маркс і Энгельс і вялікі прадаўжальнік іх справы В. І. Ленін.

Карл Маркс у пасляслоўі да 2-га выдання першага тома «Капітала» назваў Н. Г. Чэрнышэўскага «вялікім рускім вучоным і крытыкам». У сваім пісьме да Рускай секцыі І Інтэрнацыянала 24 сакавіка 1870 года Маркс пісаў, што працы «вашага настаўніка Чэрнышэўскага робяць сапраўдную чэсць Расіі і даказваюць, што ваша краіна таксама пачынае ўдзельнічаць у агульным руху нашага века».

Владзімір Ільіч Ленін назваў Чэрнышэўскага паслядоўным дэмакратам, ідэолагам сялянскай рэволюцыі, вялікім рускім рэволюцыянерам, папярэднікам рускай соцыял-дэмакратыі. Ленін гаворыць, што Чэрнышэўскі «быў здзіўляюча глыбокім крытыкам капіталізма, не гледзячы на свой утапічны соцыялізм»*).

У артыкуле «Сялянская рэформа» Ленін пісаў:

«Чэрнышэўскі быў соцыялістам-утапістам, які марыў аб пераходзе да соцыялізма праз старую, поўфеадальную, сялянскую абшчыну, які не бачыў і не мог у 60-х годах мінулага века бачыць, што толькі развіццё капіталізма і пролетарыята здольна стварыць матэрыяльныя ўмовы і грамадскую сілу для ажыццяўлення соцыялізма. Але Чэрнышэўскі быў не толькі соцыялістам-утапістам. Ён быў таксама рэволюцыйным дэмакратам, ён умеў уплываць на ўсе палітычныя падзеі яго эпохі ў рэволюцыйным духу, праводзячы—праз перашкоды і рагаткі цэнзуры—ідэю сялянскай рэволюцыі, ідэю барацьбы мас за звяржэнне ўсіх старых улад. «Сялянскую рэформу» 61-га года, якую лібералы спачатку падфарбоўвалі, а потым нават праслаўлялі, ён назваў **мерзасцю,** бо ён ясна бачыў яе прыгонніцкі характар, ясна бачыў, што сялян абдзіраюць паны ліберальныя вызваліцелі, як ліпку. Лібералаў 60-х годаў Чэрнышэўскі назваў «балбатунамі, хвастунамі, дурач'ём» **).

Плеханаў лічыў Чэрнышэўскага чалавекам, які адыграў «велізарную ролю ў гісторыі нашага разумовага руху». Аднак, Плеханаў у сваёй рабоце аб Чэрнышэўскім, разбіраючы тэарэтычныя палажэнні аб ідэалагічных і матэрыялістычных поглядах на гісторыю, праглядзеў палітычныя і класавыя разыходжанні лібералаў з Чэрнышэўскім. Плеханаў не разумеў, што Чэрнышэўскі, як рэволюцыянер-дэмакрат, з'яўляецца ворагам лібералаў і лібералізма. Ленін на палях

*) Ленін, т. XVII, стар. 432.
**) Ленін, т. XV, стар. 144.

кнігі Плеханава аб Чэрнышэўскім зрабіў наступную заўвагу: «З-за тэарэтычнага развіцця ідэалістычнага і матэрыялістычнага погляду на гісторыю Плеханаў праглядзеў практычна **палітычнае і класавае** адрозненні лібералa і дэмакрата» *).

Плеханаў у ацэнцы культурнай спадчыны XIX века не заўсёды стаяў на правільных пазіцыях. У пытанні аб сялянстве, як рэвалюцыйнай сіле, якую павінен павесці пролетарыят на штурм царызма і капіталізма, Плеханаў сам стаяў на меншавіцкіх пазіцыях, адмаўляючы рэвалюцыйную ролю працоўнага сялянства як саюзніка пролетарыята і ў той-жа час прызнаючы рэвалюцыйнай сілай ліберальную буржуазію. «Акрамя буржуазіі і пролетарыята,—пісаў Плеханаў,—мы не бачым іншых грамадскіх сіл, на якія маглі-б у нас апірацца апазіцыйныя або рэвалюцыйныя камбінацыі» **).

Эканамісты—агенты міжнароднага апартунізма ў рабочым руху Расіі—прабавалі прадставіць ліберальны рух як працяг ідэй Чэрнышэўскага. Ленін вёў з гэтым рашучую барацьбу. У сваім артыкуле «Папятны напрамак у рускай соцыял-дэмакратыі» Ленін пісаў:

> «Рускія лібералы выражаюць сваё незадаволенне самадзяржаўем толькі ў такой форме, якую **дазваляе** само самадзяржаўе, г. зн. якую самадзяржаўе прызнае безапаснай для самадзяржаўя. Буйнейшай праявай ліберальнай апазіцыі былі толькі **хадайніцтвы** лібералаў да царскага ўрада аб прыцягненні народа да кіравання. І лібералы цярпліва зносілі ўсякі раз тыя грубыя паліцэйскія адмовы, якія атрымліваліся на такія хадайніцтвы, зносілі тыя беззаконныя і дзікія праследаванні, якімі ўзнагароджваў жандармскі ўрад нават за законныя спробы заявіць сваю думку. Ператварыць ліберальную апазіцыю проста-напроста ў грамадскую барацьбу з самадзяржаўем, значыць прама скажаць справу, таму што рускія лібералы ніколі не арганізоўвалі рэвалюцыйнай партыі для барацьбы за ніспраўярджэнне самадзяржаўя... А Р. М. ***) не толькі скажае справу, але і прыблытвае да гэтага імя вялікага рускага соцыяліста, Н. Г. Чэрнышэўскага» ****).

Калі лібералы ў сваіх патрабаваннях да самадзяржаўя не выходзілі з рамак таго, што дазваляла само самадзяржаўе, то Чэрнышэўскі заклікаў народ, прыгнечаных сялян да барацьбы з самадзяржаўем. Самадзяржаўе добра ведала, што Чэрнышэўскі для яго небяспечны, і таму жорстка расправілася з ім.

Лібералы не толькі не пратэставалі супроць расправы з Чэрнышэўскім, але самі зневажалі яго за рэвалюцыйную барацьбу і апраўдвалі дзеянні цара. Лібералы баяліся Чэрнышэўскага, баяліся тых мас, якія ён заклікаў да рэвалюцыі, да сякеры. Калі Чэрнышэўскага пасадзілі ў крэпасць, ліберал Кавелін пісаў Герцэну: «Арышты мне не здаюцца абураючымі... Рэвалюцыйная партыя лічыць усе сродкі добрымі, каб скінуць урад, а ён абараняецца сваімі сродкамі». Відны ліберал Тургенеў у сваіх пісьмах Александру II запэўніваў цара ў сваіх вернападданніцкіх пачуццях. Кавелін, Тургенеў і іншыя лібералы апраўдвалі дзеянні рускага царызма па падаўленню рэвалюцыйнага руху. Лібералы заўсёды стаялі на баку самадзяржаўя.

*) „Ленінскі зборнік", т. XXV, стар. 231.
**) Плеханаў, т. III, стар 119.
***) „Рабочая мысль"—орган рускіх эканамістаў.
****) Ленін, т. II, стар. 544—545.

«Расчараваацца ў лібералізме,—пісаў Ленін,—вельмі карысная рэч для таго, хто быў калі-небудзь ім ачараван. А той, хто пажадае ўспомніць даўнюю гісторыю рускага лібералізма, той ужо ў адносінах лiберала Кавеліна да дэмакрата Чэрнышэўскага ўбачыць найдакладнейшы праобраз адносін кадэцкай **партыі** ліберальных буржуа да рускага дэмакратычнага **руху** мас» *).

Лібералы ў пытанні аб буйнай памешчыцка-зямельнай уласнасці былі староннікамі «вызвалення» сялян «зверху», самім царом, бо яны баяліся, што сяляне самі сябе вызваляць знізу пры дапамозе сялянскай рэвалюцыі. І калі Александр II ў 1856 годзе гаварыў маскоўскаму дваранству, што лепш адмяніць прыгоннае права зверху, чым чакаць, пакуль яно адменіцца знізу, то ён выказаў думкі і надзеі лібералаў. Калі «рэформа» была аб'яўлена, лібералы выхвалялі яе на ўсе лады, бо бачылі ў ёй папярэджанне рэвалюцыі, якой яны так баяліся. Чэрнышэўскі асудзіў гэту «рэформу», назваў яе мерзасцю, а лібералаў—балбатунамі і дурач'ём.

Характарызуючы адносіны лібералаў і Чэрнышэўскага да сялянскага руху пасля рэформы, Ленін пісаў:

«Лібералы, гэтак сама, як і прыгоннікі, стаялі на глебе прызнання ўласнасці і ўлады памешчыкаў, асуджаючы з абурэннем усякія рэвалюцыйныя мыслі аб **знішчэнні** гэтай уласнасці, аб **поўным звяржэнні** гэтай улады....

Але... «былі і тады ўжо ў Расіі рэвалюцыянеры, якія стаялі на баку сялянства і разумелі ўсю вузасць, усё ўбоства праслаўтай «сялянскай рэформы», увесь яе прыгонніцкі характар. На чале гэтых, надта нешматлікіх тады, рэвалюцыянераў стаяў Н. Г. Чэрнышэўскі.

... Лібералы 1860-х год і Чэрнышэўскі ёсць прадстаўнікі двух гістарычных тэндэнцый, двух гістарычных сіл, якія з той пары і аж да нашага часу вызначаюць вынік барацьбы за новую Расію.

... Лібералы былі і застаюцца ідэолагамі буржуазіі, якая не можа мірыцца з прыгонніцтвам, але якая баіцца рэвалюцыі, баіцца руху мас, здольнага звергнуць манархію і знішчыць уладу памешчыкаў».

Чэрнышэўскі высмейваў і бічаваў лібералаў за іх імкненне да манархічна-дваранскай канстытуцыі, за абман народа словамі аб свабодзе і роўнасці, процістаўляючы ім свой сялянскі дэмакратызм, ідэю сялянскай рэвалюцыі.

У дзённіку Чэрнышэўскага за 1848 г. мы знаходзім наступнае:

«Эх, панове, вы думаеце, справа ў тым, каб было слова Рэспубліка ды ўлада ў вас. Не ў тым, а ў тым, каб пазбавіць ніжэйшы клас ад яго рабства не перад законам, а перад неабходнасцю рэчаў, як гаворыць Люі-Блан, каб ён мог есці, піць, жаніцца, выхоўваць дзяцей, карміць бацькоў, адукоўвацца і не рабіць мужчын трусамі або адчайнымі, а жанчын гандлюючымі сваім целам. А то бязглуздзіца тое. Не люблю я гэтых паноў, якія гавораць свабода, свабода—і гэту свабоду абмяжоўваюць тым, што сказалі гэта слова ды напісалі яго ў законах, а не ўводзяць у жыццё, што знішчаюць тэксты аб няроўнасці, а не знішчаюць соцыяльнага парадку, пры якім $^{9}/_{10}$ рабы і проле-

*) Ленін, т. XV, стар. 143 і 144.

тарыі; не ў тым справа, будзе цар ці не, будзе канстытуцыя ці не, а ў грамадскіх адносінах, у тым, каб адзін клас не смактаў кроў другога».

Народнікі 80—90-х год хацелі паказаць сябе ў ролі прадаўжальнікаў і хавальнікаў спадчыны Чэрнышэўскага і яго сучаснікаў-асветнікаў. Але калі мы пазнаёмімся з ідэямі Чэрнышэўскага і ідэямі народнікаў, то ўбачым, што яны не толькі не працягвалі справы, за якую змагаўся Чэрнышэўскі, але далёка адыйшлі ад яго. Калі Чэрнышэўскі лічыў сялянства грамадскай сілай, здольнай зрабіць дзяржаўны пераварот—рэволюцыю, а сялянскую абшчыну, абшчынны лад—асновай соцыялізма, за што Ленін назваў яго утапістам, то барацьба Чэрнышэўскага за амерыканскі шлях развіцця Расіі была барацьбой прагрэсіўнай. Народнікі-ж выступалі супроць развіцця капіталізма, адмаўляючы яго. Лічылі капіталізм упадкам, рэгрэсам, імкнуліся затрымаць яго развіццё, не даць яму зламаць старыя спрадвечныя ўстоі рускага жыцця. Чэрнышэўскі з прычыны адсталасці тагочаснага развіцця Расіі не мог бачыць, што толькі пролетарыят, які вядзе за сабою працоўнае сялянства, будзе той грамадскай сілай, якая знішчыць рускае самадзяржаўе і капіталізм, што капіталізм створыць матэрыяльныя прадпасылкі для новага грамадскага ладу—соцыялізма.

У 90-х годах XIX стагоддзя ў Расіі быў ужо пролетарыят, капіталізм рос і развіваўся. Народнікі, бачачы супярэчнасці, якія ён нясе з сабою, спалохаліся і абвясцілі адмаўленне капіталізма. Народнікі прызнавалі самабытнасць рускага эканамічнага ладу і сялянскай абшчыны. Яны хаваліся за ўстарэлыя заходне-еўрапейскія тэорыі, разглядалі абшчыннае сялянства, як нешта вышэйшае па грамадскаму і эканамічнаму ўстройству, чым капіталізм. Яны сталі на рэакцыйны шлях адмаўлення прагрэса, культуры, развіцця гісторыі. Асветнікі-ж, асабліва Чэрнышэўскі, не адмаўлялі прагрэса, культуры, навукі, развіцця грамадства. Больш таго—Чэрнышэўскі прызнаваў, што Расія пойдзе па шляху развіцця Заходняй Еўропы.

У 1857 годзе Чэрнышэўскі пісаў:

> «Даставерна, што развіццё эканамічнага руху, якое прыкметным чынам пачынаецца ў нас абуджэннем духа гандлёвай і прамысловай прадпрыймальнасці, пабудовай чыгунак, аснаваннем кампаній суднаходства і т. д., неабходна зменіць наш эканамічны быт, які да гэтага часу задавальняўся простымі формамі і сродкамі старасветчыны. Воляй ці няволяй мы павінны будзем у матэрыяльным быце жыць, як жывуць іншыя цывілізаваныя народы» *).

Народнікі адмаўлялі, што дзяржаўныя ўстановы звязаны з інтарэсамі пэўных класаў, яны адмаўлялі класавую прыналежнасць дзяржавы, развівалі тэорыю надкласавасці рускай дзяржавы.

Чэрнышэўскі стаяў на тым пункце погляду, што цар і царскі ўрад абараняюць прыгоннікаў, і таму з царскім урадам трэба змагацца, як з урадам прыгонніцтва. Такім чынам і ў гэтым пытанні паміж народнікамі і Чэрнышэўскім няма нічога агульнага. І тэорыя і практычная дзейнасць народнікаў былі рэакцыйнымі.

---

*) Чэрнышэўскі, т. III, стар. 186.

Ленін у сваёй рабоце «Ад якой спадчыны мы адмаўляемся» пісаў:

«Мы паказалі ўжо, што калі гаварыць аб «спадчыне», якая дасталася сучасным людзям, то трэба адрозніваць **дзве спадчыны:** адна спадчына—асветнікаў наогул, людзей, безумоўна варожых усяму дарэформеннаму, людзей, якія стаяць за еўрапейскія ідэалы і за інтарэсы шырокай масы насельніцтва. Другая спадчына—народніцкая. Мы паказалі ўжо, што змешваць дзве гэтыя розныя рэчы было-б грубай памылкай, бо ўсякі ведае, што былі і ёсць людзі, якія захоўваюць «традыцыі 60-х год» і не маюць нічога агульнага з народніцтвам»*).

Міхайлоўскі імкнуўся даказаць, што народнікі захоўваюць заветы і традыцыі асветнікаў 60-х год. Ленін вёў барацьбу з гэтым паклёпніцкім сцверджаннем і даказаў, што іменна рэвалюцыйная социял-дэмакратыя з'яўляецца абаронцам ідэй вялікіх рускіх асветнікаў. Ленін пісаў:

«І падобныя паны талкуюць аб «ідэалах бацькоў», прэтэндуюць на тое, што яны, іменна яны захоўваюць традыцыі тых часоў, калі Францыя развівала па ўсёй Еўропе ідэі соцыялізма—і калі ўспрыйманне гэтых ідэй давала ў Расіі тэорыі і вучэнні Герцэна, Чэрнышэўскага. Гэта ўжо зусім агіднасць, якая была-б глыбока абураюча і крыўдна, калі-б «Русское Богатство» не было занадта забаўна, калі-б падобныя заявы на старонках такога журнала не выклікалі толькі гамерычнага смеху. Так, вы пэцкаеце гэтыя ідэалы! На самай справе, у чым заключаліся гэтыя ідэалы ў першых рускіх соцыялістаў...—**Вера ў асобы ўклад, у абшчынны лад рускага жыцця;** адсюль—**вера ў магчымасць сялянскай соцыялістычнай рэволюцыі**—вось што натхняла іх, узнімала дзесяткі і сотні людзей на геройскую барацьбу з урадам. І вы не зможаце ўпікнуць соцыял-дэмакратаў у тым, што яны не ўмелі цаніць велізарнай гістарычнай заслугі гэтых лепшых людзей свайго часу, не ўмелі глыбока паважаць іх памяці»**).

Ленін адзначае тры асноўныя рысы ў ідэях асветнікаў 60-х год, г. зн. Герцэна, Белінскага, Дабралюбава і Чэрнышэўскага:

1. Нянавісць да прыгонніцтва і **ўсіх яго** параджэнняў у эканамічнай, соцыяльнай і юрыдычнай галіне.
2. Гарачая абарона асветы, самакіраўніцтва, свабоды, еўрапейскіх форм жыцця і наогул усебаковай еўрапеізацыі Расіі.
3. Адстойванне інтарэсаў народных мас, галоўным чынам сялян. Вера, што адмена прыгоннага права прынясе з сабою добрабыт і шчырае жаданне садзейнічаць гэтаму.

«Гэтыя тры рысы,—гаворыць Ленін,—і складаюць сутнасць таго, што ў нас называюць «спадчынай 60-х год», і важна падкрэсліць, што **нічога народніцкага ў гэтай спадчыне няма»** ***).

Калі царскі ўрад узяўся «зверху» правесці сялянскую «рэформу», Чэрнышэўскі не верыў, што прыгоннікі і самадзяржаўе ўкупе з лібераламі змогуць вызваліць сялян. Ён быў упэўнены ў тым, што яны могуць зрабіць толькі мерзасць, абмануць сялян, яшчэ больш закабаліць іх памешчыку. Таму Чэрнышэўскі адмоўна адносіцца да ідэі

*) **Ленін, т. II, стар. 332.**
**) **Ленін, т. I, стар. 161.**
***) **Ленін, т. II, стар. 314.**

«рэформы». «Калі сказаць праўду,—гаворыць Волгін,—няхай лепш будуць вызвалены без зямлі» *). Няхай царскае самадзяржаўе і прыгоннікі адкрыта заявяць сялянам, што яны іх грабяць. Тады хутчэй разгорнецца класавая барацьба, і сяляне змогуць самі сябе вызваліць. На такім пункце погляду стаяў Чэрнышэўскі. Ён хацеў не «рэформы», якая абдзярэ сялянства, а сялянскай рэволюцыі. Яшчэ больш ясна і адкрыта выказаў ён гэтую думку ў сваёй адозве «К барским крестьянам». Вышла так, як прадказваў Чэрнышэўскі. Царскае самадзяржаўе, дагаварыўшыся з прыгоннікамі, абадрала сялян, як ліпку. У выніку праведзенай рэформы ў сялян была адабрана пятая частка іх зямлі, а на астатнюю накладзен двайны выкуп.

> «Прадажная цана зямлі, якая дасталася сялянам,—пісаў Ленін—была 648 млн. рублёў, а заплаціць сялян прымусілі 867 млн. руб., на 219 млн. руб. больш таго, што зямля каштавала» **).

Напярэдадні рэформы, у 1860 годзе, Чэрнышэўскі піша Герцэну пісьмо, у якім даказвае:

> «Не, наша становішча жудасна, невыносна, і толькі можа сякера нас пазбавіць і нічога акрамя сякеры не дапаможа. Гэтую мысль вам, здаецца, выказвалі, і яна здзіўляюча верна,—іншага ратунку няма. Вы ўсё зрабілі, што маглі, каб садзейнічаць мірнаму вырашэнню справы, перамяніце-ж тон, і няхай ваш «Колокол» благавесціць не к малебну, а звоніць набат. Да сякеры клічце Русь» ***).

Чэрнышэўскі заклікае сялян да сякеры—да рэволюцыі. У сваёй адозве «К барским крестьянам» ён гаворыць:

> «Дык вось яно да чаго па царскаму-то маніфесту ды па ўказах справа паведзена; не да волі, а да таго яно ідзе, каб у вечную кабалу вас памешчык узяў, ды яшчэ такую кабалу, якая значна і значна горш цяперашняй» ****).

А каб выйсці з гэтай кабалы, ён у той-жа адозве гаворыць сялянам на зразумелай ім мове:

> «А вось яшчэ аб чым, браткі, салдат прасіце, каб яны вас вучылі, як у ваеннай справе парадак трымаць, а акрамя таго, ружжамі запасайцеся, хто можа, ды ўсякай зброяй... А калі ўсё гатова будзе, значыць усюды падтрымка падрыхтавана, ну, тады справу пачынай» *****).

З прыведзеных выказванняў Леніна аб Чэрнышэўскім і самога Чэрнышэўскага відаць, што ён быў ідэолагам сялянскай рэволюцыі.

Як-жа думаў Чэрнышэўскі пабудаваць новае грамадства, вызначыць характар рэволюцыі, за якую ён змагаўся?

Ленін у артыкуле «Аграрная праграма соцыял-дэмакратыі ў першай рускай рэволюцыі» пісаў:

> «Усякая сялянская рэволюцыя, накіраваная супроць сярэдневякоўя пры капіталістычным характары ўсёй ґрамадскай гас-

*) Цытравана па Леніну, т. I, стар. 179.
**) Ленін, т. II, стар. 115.
***) „Литературное наследство“, т. II, стар. 408.
****) Чэрнышэўскі, т. I, стар. 147.
*****) Там-жа, стар. 150.

падаркі, ёсць буржуазная рэвалюцыя. Але не ўсякая буржуазная рэвалюцыя ёсць сялянская рэвалюцыя» *).

Барацьба Чэрнышэўскага за сялянскую рэвалюцыю супроць прыгонніцтва і самадзяржаўя была рэвалюцыйнай барацьбой. Ён рашуча змагаўся за развіццё класавай барацьбы ў Расіі.

Як ідэолаг сялянскай рэвалюцыі і барацьбіт супроць лібералаў, Чэрнышэўскі бачыў ужо тады, што прыгоннікі здольны толькі на здзелку з царом, на подласць. Але трэба сказаць, што, змагаючыся за сялянскую рэвалюцыю, за дэмакратычны шлях развіцця, Чэрнышэўскі не пакінуў свайго утапічнага пункту погляду на сельскую абшчыну, як на сродак пераходу да соцыялістычнага грамадства. Барацьба Чэрнышэўскага з самадзяржаўем за яго звяржэнне і за перадачу памешчыцкай зямлі сялянам без выкупу была барацьбой за утапічны соцыялізм. Чэрнышэўскі ў сялянскай абшчыне бачыў матэрыяльную базу для пабудовы соцыялізма, а сялянства лічыў той грамадскай сілай, якая пабудуе соцыялістычнае грамадства.

Ідэі Чэрнышэўскага былі утапічнымі, бо мы ведаем, што сялянскі рух без кіраўніцтва пролетарыята перамагчы не можа:

«Сялянскія паўстанні могуць прыводзіць да поспеху,—гаворыць таварыш Сталін,—толькі ў тым выпадку, калі яны спалучаюцца з рабочымі паўстаннямі. Толькі камбінаваныя паўстанні на чале з рабочым класам могуць прывесці да мэты» **).

Чэрнышэўскі быў не толькі соцыялістам-утапістам, а і паслядоўным рэвалюцыйным дэмакратам, які ўмеў уплываць на ўсе палітычныя падзеі ў рэвалюцыйным духу.

Ленін лічыў асветнікаў 60—70-х год папярэднікамі соцыял-дэмакратыі. У сваёй бяссмертнай рабоце «Што рабіць?», растлумачваючы ролю тэорыі ў рабочым руху і ролю партыі, як перадавога барацьбіта, Ленін пісаў:

«А каб хоць колькі-небудзь канкрэтна ўявіць сабе, што гэта азначае, няхай чытач успомніць аб такіх папярэдніках рускай соцыял-дэмакратыі, як Герцэн, Бялінскі, Чэрнышэўскі і бліскучая плеяда рэволюцыянераў 70-х год» ***).

З гэтай плеяды Ленін вылучае Чэрнышэўскага, як больш паслядоўнага дэмакрата. Ленін гаворыць, што Чэрнышэўскі «зрабіў велізарны крок уперад супроць Герцэна. Чэрнышэўскі быў значна больш паслядоўным і баявым дэмакратам» ****). Хоць Чэрнышэўскі і быў соцыялістам-утапістам, але ён бліжэй іншых утапістаў падышоў да навуковага соцыялізма. Ён перш за ўсё рэволюцыянер-дэмакрат, які заклікае масы да рэволюцыі, да сякеры.

У тэорыі Чэрнышэўскі быў матэрыялістам. Ён бачыў, што барацьба паміж ідэалізмам і матэрыялізмам ёсць барацьба паміж палітычнымі партыямі, і ў гэтай барацьбе ён стаяў на пункце погляду матэрыялізма. Ён цаніў дыялектычны метад Гегеля, але не разумеў яго да канца.

Будучы паслядоўнікам Фейербаха ў філасофіі, Чэрнышэўскі не

---

*) Ленін, т. XI, стар. 437.
**) З бяседы таварыша Сталіна з нямецкім пісьменнікам Эмілем Людвігам.
***) Ленін, т. IV, стар. 381.
****) Ленін, т. XVII, стар. 342.

змог узняцца да ўзроўню матэрыялістычнай дыялектыкі. Вось што пісаў па гэтаму пытанню Ленін:

«Чэрнышэўскі—адзіны сапраўды вялікі рускі пісьменнік, які здолеў з 50-х год аж да 88-га года застацца на ўзроўні цэльнага філасофскага матэрыялізма і адкінуць мізэрную бязглуздзіцу неакантыянцаў, пазітывістаў, махістаў і іншых блытанікаў. Але Чэрнышэўскі не здолеў, вярней: не мог, у сілу адсталасці рускага жыцця, узняцца да дыялектычнага матэрыялізма Маркса і Энгельса» *).

Чэрнышэўскі аддаў жыццё за вызваленне народа, за народную справу, за шчасце пакаленняў. «Я нікольні не падаражу жыццём для трыумфу сваіх пераконанняў, для трыумфу свабоды, роўнасці, брацтва... і калі ўпэўнен буду, што перамогуць яны, нават не пашкадую, што не ўбачу дня трыумфу і царства іх»,—так пісаў Чэрнышэўскі яшчэ 20-гадовым юнаком у сваім дзённіку. Гэтыя словы мужнага барацьбіта-рэвалюцыянера Чэрнышэўскі апраўдаў усім сваім жыццём, усёй сваёй барацьбой за народную справу.

У нашу выдатную сталінскую эпоху збыліся нават самыя палкія мары асветнікаў-рэвалюцыянераў таго часу. У 1840 годзе папярэднік Чэрнышэўскага—Вісарыён Белінскі напісаў прарочыя словы:

«Зайздросцім унукам і праўнукам нашым, якім суджана бачыць Расію ў 1940 годзе—Расію, якая стаіць на чале адукаванага свету, дае законы і навуцы і мастацтву, і прымае благагавейную даніну павагі ад усяго адукаванага чалавецтва».

Народы Совецкага Саюза бачаць, як пад кіраўніцтвам вялікай партыі Леніна—Сталіна мы дабіліся ажыццяўлення гэтых мар.

Мы жывем у выдатную эпоху—у вялікую сталінскую эпоху трыумфу свабоднай соцыялістычнай працы, трыумфу соцыялістычнай дэмакратыі.

Пад сонцам вялікай Сталінскай Канстытуцыі расцвітае цудоўнае, радаснае, шчаслівае і творчае жыццё ўсяго нашага шматмільённага народа.

Усё лепшае, перадавое чалавецтва з глыбокай верай і надзеяй глядзіць на Совецкі Саюз, над якім горда палымнее вялікі сцяг Леніна—Сталіна—сцяг вызвалення працоўных і прыгнечаных ва ўсім свеце.

**Г. Маханёк**

---

*) Ленін, т. XVIII, стар. 295.

Уп. Галоўліта БССР № 638.
Тыраж 7400 экз.
352150 друк. зн. (6½ арк.).
Здава ў набор 16/X-39 г.
Падпісана да друку 22.XI-39 г.

*РЭДКАЛЕГІЯ.*

Друкарня імя Сталіна, Мінск, Дом Друку. Зак. № 1055.

